ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

27 лютага 1998 г. № 9/3937 Кошт 4 000 руб.

## ЖЫВЁМ МЫ ВЕСЕЛА СЯГОННЯ

***Алесь КАТЛЯНІК: "Ёсць сэнс заключыць умоўнае "пагадненне" нацыянальна свядомых людзей і духоўных лайдакоў. Напрыклад, першыя не прыстаюць з беларусізацыяй да другіх, і тыя да скону дзён карыстаюцца сваёй трасянкай. За тое яны не перашкаджаюць прывядзенню краіны да еўрапейскага выгляду, г. зн. у першую чаргу — да беларускасці дзяржавы з усімі адпаведнымі атрыбутамі".***

**4**

## БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

***Старонкі з дзённіка Уладзіміра ЛІПСКАГА***

**5**

## ПРЫСАК ГАРАЧАЙ ВЯСНЫ

***Вершы Валянціны АКСАК***

**8**

## УКАЗ, альбо Ёга па-тутэйшаму

***Апавяданне Анатоля ЖУКА***

**9, 14—15**

## У ТУМАНЕ

***Уладзімір ПЯТРОЎСКІ: "Расійцы ўжо колькі год таму пачалі аналіз сваёй літаратуры. Але гэта мусіць быць аналіз, а не прысуд! Як жа мы адыдзем ад савецкай эпохі, калі прынялі на ўзбраенне яе ж метады?!."***

**13**





*Як шэрая восень,*
*сумуе зіма,*
*Бо снегу то мала,*
*а то і няма.*

*Ды можна па парку пайсці пагуляць,*
*Паслухаць*
*як дрэвы пра вечнасць*
*маўчаць.*

## ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***Хочаш зразумець народ, паглядзі, з якой нагоды ён радуецца альбо смуткуе, якія спраўляе святы.***

***Кожная краіна мае ў сваім календары штосьці накшталт Дня Абаронцы. У Беларусі гэтае свята набыло зараз нейкае двухсэнсоўнае адценне. Калі чытаеш у прэсе пра тое, што "ў гэтым годзе Дзень Абаронцы супаў з 80-годдзем Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь", дык губляешся ў развагах: як яно так, калі Рэспубліка Беларусь існуе з 1991 года, а Савецкая Армія, размешчаная на тэрыторыі РБ, трансфармавалася ў Нацыянальныя Узброеныя Сілы яшчэ пазней. А тое войска, што вядзе радавод ад 23 лютага 1918 года, да Беларусі мела даволі спецыфічнае дачыненне — яно зліквідавала Беларускую Народную Рэспубліку.***

***Апроч таго, у 1944 годзе нямецкая адміністрацыя ў акупаванай Беларусі, дэманструючы своеасаблівае пачуццё гумару, выдала дазвол на ўтварэнне нацыянальных вайсковых фарміраванняў якраз у Дзень Чырвонай Арміі — 23 лютага. Так што, святкуючы Дзень Абаронцы, усе грамадзяне РБ самі выбіралі, за што падымаць чарку. Карацей, выявілася поўная дэмакратыя са славутай беларускай талерантнасцю...***

### ПРЫЗНАННЕ ТЫДНЯ

Кембрыджскі біяграфічны цэнтр надаў Анатолю Пятровічу Грыцкевічу, доктару гістарычных навук, прафесару універсітэта культуры, званне "чалавек года" (гаворка ідзе пра 1997 год). Анатоль Пятровіч вядомы як спецыяліст па беларускай гісторыі ад ВКЛ да БНР. Дзякуючы яму меней засталося "белых плямаў", увайшлі ў навуковы і грамадскі зваротак многія падзеі грамадзянскай вайны ў Беларусі. Нагадаем, што па выніках 1996 года летась чалавекам года быў названы таксама руплівец Адраджэння Адам Мальдзіс.

### УШАНАВАННЕ ТЫДНЯ



Прыхільнікі таленту Леаніда Захлеўнага, выдатнага кампазітара, мастацкага кіраўніка ансамбля "Бяседа" Дзяржтэлерадыё Беларусі, маюць нагоду павіншаваць свайго куміра. Нядаўна таленавітаму музыканту нададзена ганаровае званне "народны артыст Рэспублікі Беларусь".

*Фота Віт. АМІНАВА.*

### МАНАЛОГ ТЫДНЯ

У сераду, 25 лютага, Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра ў асобе Галіны Дзягілевай ладзіў у касцёле св. Сымона і св. Алены монаспектакль па ўспамінах Юльяны Вітан-Дубейкоўскай "Віленскія мроі". Герой спектакля — Іван Луцкевіч, адзін з апосталаў нашага Адраджэння. Пэўныя рэаліі тае пары вельмі нагадваюць наша сёння. Калі гісторыя становіцца актуальнай, значыць, сёння нешта не так...

### ПАМЯЦЬ ТЫДНЯ

У канцы мінулага тыдня ў Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава да 120-й гадавіны вызвалення Балгарыі з-пад турэцкага іга. У яе экспазіцыі творы расійскіх класікаў XIX стагоддзя і сучасных беларускіх мастакоў. У пэўнай ступені таксама класікаў. Прынамсі, такі статус маюць В. Цвірка і М. Селяшчук. Усе творы з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея і маюць тэматычнае дачыненне да Балгарыі. Добра, што мы шануем братні славянскі народ. Але хай бы так мы шанавалі і сябе саміх. Чамусьці ў Нацыянальным мастацкім музеі альбо іншай прэстыжнай зале Мінска не знайшлося месца для выставы ў гонар 160 гадавіны з дня нараджэння Каліноўскага.

### ЗАБАРОНА ТЫДНЯ

Штогод на 25 сакавіка да чарговай гадавіны абвяшчэння Незалежнасці БНР творчая суполка "Пагоня" ладзіць вялікую мастацкую выставу ў Палацы мастацтваў. Так было сем гадоў запар. Сёлета суполка пазбаўлена магчымасці запрасіць сваіх гледачоў у Палац мастацтваў на традыцыйную ўжо выставу. Рада Саюза мастакоў вырашыла, што ў апошні тыдзень сакавіка ў Палацы мае адкрыцца выстава мастакоў Гомельшчыны (для саміх гомельцаў гэта было больш чым нечакана: яны нават заяўкі на такую выставу не рабілі), а Міністэрства культуры, куды рада "Пагоні" звярнулася з просьбай справядліва вырашыць канфліктную сітуацыю, заявіла, што гэта ўнутраная справа Саюза мастакоў... Такім чынам, сёлета скандал вакол выставы "Пагоні" распачаўся, у адрозненне ад мінулых гадоў, яшчэ да вернісажу...

### РАЗВІТАННЕ ТЫДНЯ

У нядзелю, 22 лютага, скончыліся XVIII Зімовыя Алімпійскія гульні. Сёлета Японія трэці раз прымала Алімпіяду. У 1964 годзе летняя Алімпіяда прайшла ў Токіа, у 1972 — зімовая ў Сапара, у 1998 у Нагана — зноў зімовая. Трапіць у клуб алімпійскіх сталіц вельмі цяжка і вельмі прэстыжна. Са сталіц краін былога "сацлагеру" такі гонар мелі толькі Масква і Сараева. Хоць афіцыйна і лічыцца, што Алімпіяду праводзіць горад, але заўжды глядзяць, у якой краіне гэты горад знаходзіцца... Дай Божа, каб калі-небудзь Беларусь займела гонар прыняць Алімпіяду. А наступныя зімовыя гульні адбудуцца ў Злучаных Штатах у горадзе Солт-Лейк-Сіці.

---

ВІНШУЕМ!

# Узнагарода ад суседзяў

У літаратурным музеі Янкі Купалы адбыліся ўрачыстасці з нагоды ўручэння народнаму паэту Беларусі Рыгору Барадуліну латышскага "Ордэна трох зорак". Высокай узнагародай праца нашага знакамітага паэта адзначана ў галіне прадстаўлення беларускаму чытачу латышскай паэзіі. Найперш — паэзіі вялікага Яна Райніса. Віншуючы Рыгора Барадуліна, Часова Паверэная ў справах Латвійскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Інгрыда Лэўрэнцэ адзначыла, што і ў Латвіі добра вядомае імя беларускага паэта, па-латышску выдадзены дзве яго кнігі вершаў. Высокую адзнаку творчасці, грамадскай дзейнасці Рыгора Барадуліна выказаў у сваім выступленні народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. Віталі прызнанага і адзначанага Латвіяй паэта Віктар Скарабагатаў, Уладзімір Пузыня, Карлас Шэрман, Тацццяна Процька, Рыгор Сітніца, Радзіслаў Лапушын і шмат хто яшчэ.



**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

*На здымку: у момант уручэння.*

---

КІНО

# Толькі на вялікім экране

З 7 па 15 лютага ў Мінску адбыўся фестываль "Лаўрэаты і намінанты прэзіі "Оскар" на экране (1996)".

Масквічы дачакаліся ўжо прэм'еры знакамітага "Тытаніка" (наміnanта сёлетняга Оскара), а мінчукі — толькі фільмаў-прызёраў "Оскара" мінулагодняга: "Англійскага пацыента" (рэж. Э. Мінгела; 12 намінацый, 9 прэмій "Оскар"), "Эму" (рэж. Д. Макгрэт; 2 намінацыі, "Оскар" за лепшую музыку ў фільме камедыйнага жанру), "Джэры Магуайра" (рэж. К. Кроу; 5 намінацый, "Оскар" за лепшае выкананне ролі другога плана), "Пакоя Марвіна" (рэж. Д. Закс; 1 намінацыя), "Колю" (рэж. Я. Сверак; 1 намінацыя, прэмія "Оскар" за лепшы замежны фільм).

Акрамя дзевяці "Оскараў", славуты "Англійскі пацыент" атрымаў яшчэ шэраг прэстыжных узнагарод, прэмію Сярэбраны мядзведзь Берлінскага фестывалю за лепшую жаночую ролю (Ж. Бінош), прэмію Брытанскай акадэміі кіно і тэлебачання (аператарская работа, мантаж, музыка), прэмію імя Ірвіна Талберга за выдатны ўнёсак у кінапрацэс (Сол. Занц). Значыць, фільм усіх часоў і народаў? Можа быць. Бо, на мой погляд, заблытаная гісторыя кахання "англійскага пацыента" прыкметна саступае сёлетняй гісторыі кахання пасажыркі "Тытаніка". Пачакаем "Оскара"-97.

Нагадаю, што разам з "Колем" на прэмію лепшы замежны фільм года прэтэндаваў і "Каўказскі палоннік" С. Бадрова. Кінаакадэмікі Галівуда аддалі перавагу жаласлівай гісторыі пра сустрэчу пяцігадовага рускага эмігранта Колі з чэшскім музыкантам Францішкам Лукай. Цудоўная карціна. Думаю, фільм "Коля" быў сапраўдным адкрыццём для мінскіх гледачоў. Як, дарэчы, і меладрама "Пакой Марвіна", у якой працягваецца тэма выхавання спачувальнасці ў чалавеку (сузор'е акцёраў: М. Стрып, Р. Дэ Ніра, Леанарда Ды Капрыо).

Фестываль яшчэ раз пераканаў у тым, што добрае кіно трэба глядзець у кінатэатрах. Толькі на вялікім экране можна па-сапраўднаму ацаніць шэдэўры сусветнага кінематографа.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

---

З НАГОДЫ

# Працэс пайшоў

У аўторак скончыўся судовы працэс па справе членаў "Маладога фронту" В. Лабковіча і А. Шыдлоўскага, якія са жніўня мінулага года ўтрымліваліся ў следчым ізалятары за правядзенне ў горадзе Стоўбцы апазіцыйнай акцыі "Горад — наш!" Хлопцам інкрымінавалі арт. 186[2] Крымінальнага кодэкса — "Здзек над дзяржаўнымі сімваламі", арт. 201, ч. 2 — злоснае хуліганства і арт. 225 — "Знішчэнне або пашкоджанне гісторыка-культурных каштоўнасцяў". Так кваліфікавала следства некалькі "вольных" надпісаў на сценах дамоў, зняты з даху райвыканкама дзяржаўны сцяг і расфарбаваны помнікі Леніну і Дзяржынскаму. "Справа" гэта прыцягнула ўвагу да сябе праваабарончых арганізацый і сродкаў масавай інфармацыі. За неадкладнае вызваленне Лабковіча і Шыдлоўскага паставілі свае подпісы больш за дзевяць тысяч чалавек з розных рэгіёнаў Беларусі, а сусветная арганізацыя "Міжнародная амністыя" абвясціла хлопцаў вязнямі сумлення.

Будынак абласнога суда ў дні судовага разбіральніцтва па справе Лабковіча і Шыдлоўскага нагадваў амаль штаб арміі падчас ваенных дзеянняў. Такой колькасці байцоў АМАПа не бачна было з вясны 96-га года. На гэты раз яны не збівалі людзей дубінкамі, а выконвалі іншыя загады. Называлася ўсё гэта тым жа "падтрыманнем грамадскага парадку". Дзверы ахоўвалі шэсць чалавек, якія дапускалі ў памяшканне толькі ўдзельнікаў працэсу і журналістаў па прад'яўленні рэдакцыйных пасведчанняў. Тэлеаператараў дапусцілі ў першы дзень працэсу ўсяго на некалькі хвілін, пасля іх і фотакораў выставілі за дзверы. Залішне казаць пра "карэктнасць", з якой гэта было зроблена: лёгкая фізічная сіла гэта тое, без чаго не абыходзіцца ніводзін міліцыянер. У памяшканні ж суда куды ні кінеш позірк, усюды — блакітная форменная вопратка. Калі прывялі падсудных, з'явіліся яшчэ людзі ў шлемах з зачыненымі забраламі ды ўнушальных памераў сабака. У судовую залу так і не патрапіла большасць аднакласнікаў непаўналетняга В. Лабковіча, бо ім не хапіла месцаў. У якасці сведкаў выступалі чацвёра. Аднак непасрэднае дачыненне да справы мелі толькі трое: пажарны Ілюшын, яго таварыш і яго стрыечны брат. Чацвёртай была настаўніца Лабковіча, якая расказвала прысутным пра Вадзімаву павагу да ўсяго беларускага. Як ілюстрацыя яго поглядаў, прагучала нават цытата са школьнага сачынення хлопца.

Сведка Ілюшын распавядаў, як, вяртаючыся ноччу дадому на машыне, убачыў групу падлеткаў, што размалёўвалі сцяну дома, і пазнаў сярод іх Шыдлоўскага. Як сцвярджае апошні, Ілюшын патрабаваў у яго грошы "за маўчанне" і пасля адмовы напісаў заяву ў міліцыю. Сведка адмаўляе факт вымагання і кажа аб тым, што заяву не пісаў, а праз некаторы час яго выклікаў следчы. Вось фактычна і ўсё: астатнія сведкі нічога па "факце злачынства" сказаць не здолелі. Адзін кепска бачыць, іншы — увогуле не прысутнічаў "на месцы".

Пры гэтым Лабковіч не адмаўляе, што пісаў на сценах, але сцвярджае, што зроблена гэта было не з "целью продемонстрировать бохвальство, озорство и бесчинство", а з мэтай выказаць свой пратэст. Шыдлоўскі не прызнаў сябе вінаватым, хоць і не адмаўляў сваёй прысутнасці на месцы правядзення акцыі. Абвінаваўца — пракурор Д. Цімафееў — увесь час падкрэсліваў, што справа не палітычная, а звычайны "крымінал", і што мэтай пакарання падсудных павінна стаць "спыненне падобнага кшталту традыцый".

Прысуд быў нечаканым і для падсудных, і для прысутных: Лабковічу — год і шэсць месяцаў умоўна, з адтэрміноўкай выканання. Шыдлоўскаму — такі ж тэрмін, але з неадкладным накіраваннем хлопца ў выпраўленча-працоўную калонію з узмоцненым рэжымам. Пры гэтым вінаватымі апазіцыянеры прызнаныя судом па ўсіх артыкулах. Нават па тых, ад якіх адмовіўся пракурор.

Суд над Лабковічам і Шыдлоўскім пацягнуў за сабою яшчэ шэраг судовых разбіральніцтваў (калі іх можна так назваць) і прысудаў. У першы ж дзень працэсу быў арыштаваны актывіст Беларускага народнага фронту Ю. Мароз, які выйшаў на вуліцу з плакатам у абарону хлопцаў, і атрымаў за гэта 15 сутак. У панядзелак яшчэ адна група маладафронтаўцаў трапіла ў "абдымкі" міліцыі. Падстава — абурэнне дзеяннямі праваахоўнікаў, выказанае публічна каля будынка абласнога суда. Так што і пасля суда поўнага "спынення падобнага кшталту традыцый" пакуль не адбылося.

**Вадзім ДОЎНАР**

ПАДЗЕІ

# Сход... на Манюшкавай радзіме

21 лютага ва Убелі, што непадалёк ад Мінска, на радзіме кампазітара Станіслава Манюшкі адбылася прэзентацыя нотнага зборніка "Песні з-над Нёмна і Дзвіны". Пра гэты зборнік, дзе ўпершыню пад адной вокладкай паядналіся вакальныя творы С. Манюшкі на вершы Яна Чачота, перакладзеныя на беларускую, "ЛіМ" падрабязна распавядаў з нагоды прэзентацыі новага нотадруку ў сталічным Доме дружбы.

Як паведаміў мастацкі кіраўнік Нацыянальнага тэатральна-канцэртнага аб'яднання "Беларуская Капэла" заслужаны артыст рэспублікі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Віктар Скорабагатаў, удзельнікі імпрэзы правялі арганізацыйнае пасяджэнне новай грамадскай суполкі — Таварыства аматараў музыкі Станіслава Манюшкі на Беларусі. Сярод заснавальнікаў таварыства (статут якога распрацаваны досыць дэталёва) — генеральны дырэктар ТА "Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр РБ" Анатоль Кірыенка, дырэктар музея С. Манюшкі Ірына Серада, дырэктар Рэспубліканскага музея музыкі і тэатра Аляксандр Міхаленя, дырэктар фірмы "Рарытэт" Леў Бажко, літаратуразнаўца і перакладчык Уладзімір Мархель, прадстаўнікі выканаўчай улады Чэрвеньскага раёна ды інш. У ліку актывістаў, вядома ж, і рупліўцы аб'яднання "Беларуская Капэла".

У наступным годзе — юбілей Станіслава Манюшкі, 180 гадоў з дня нараджэння. І каб грунтоўна падрыхтавацца да гэтай даты, адзначыў В. Скорабагатаў, беларуская інтэлігенцыя вырашыла задзіночыць аматараў музыкі выдатнага кампазітара-рамантыка. Скансалідаванымі намаганнямі можна годна, з добрым міжнародным розгаласам, ушанаваць памяць нашага знанага земляка.

Кіраўніцтва новай суполкі пакуль не абрана: гэта адбудзецца падчас наступнага сходу, правядзенне якога маркуецца сумясціць з прэзентацыяй чарговага нотадруку — "Мая ліра для спеваў". Так назвалі новы зборнік Манюшкавых песень, укладзены з твораў на вершы Уладзіслава Сыракомлі, якія падчас прэзентацыі будуць "агучаныя".

Дарэчы, мінулы суботні сход ва Убелі таксама завяршыўся адметным канцэртам. У суправаджэнні піяністкі Ганны Каржанеўскай спявалі знаныя салісты Таццяна Цыбульская, Нагіма Галеева, Алена Бундзелева, Рыгор Палішчук, Віктар Скорабагатаў. Навукова-асветніцкім дапаўненнем праграмы стаўся каментарый яе вядучага — Уладзіміра Мархеля.

**С.Б.**

ІМПРЭЗЫ

# "Берасцейскія зоркі"

Ужо трэці год запар у горадзе над Бугам, перш наперш, па ініцыятыве Брэсцкага аддзялення Фонду культуры сумесна з творчымі саюзамі вобласці ды абласным аддзяленнем Саюза прадпрымальнікаў праводзіцца вечар-ушанаванне "Берасцейскія зоркі". Пераможцы вызначаюцца па шэрагу творчых намінацыяў, у тым ліку і па галоўнай з іх — "Чалавек года". Як і ў мінулыя гады, сёлета лепшыя з лепшых былі абраныя ў такіх намінацыях, як архітэктура (Валеры Кіскевіч), журналістыка (рэдактар Бярозаўскай раённай газеты "Маяк" Яўген Сяленя), жывапіс (мастак Іван Рудчык), культура (загадчыца аддзела культуры Драгічынскага райвыканкама Зоя Краўцова), літаратура (навуковы супрацоўнік Мікола Сянкевіч), музыка (кіраўнік ансамбля народных інструментаў абласной філармоніі Аляксандр Гарноўскі), тэатральнае майстэрства (актрыса абласнога тэатра лялек Тамара Тэвасян). А чалавекам года па агульнай згодзе атэстацыйнай камісіі быў прызнаны мастак Мікалай Кузьміч. Як вядома, ён з'яўляецца аўтарам адноўленага Крыжа Прападобнай Еўфрасінні Полацкай і стаў лаўрэатам прэміі "За духоўнае адраджэнне".

У ганаровай намінацыі "Фундатар культуры" пераможцам прызнаны дырэктар сумеснага прадпрыемства "Санта-Імпэкс—Брэст" Міхаіл Машэньскі, чыя фірма ахвяравала каля 5 мільярдаў рублёў на розныя дабрачынныя ды культурніцкія акцыі.

Вечарына адбывалася ў Берасцейскім тэатры лялек.

**І.Х.**

ФЕСТЫВАЛІ

# Выпадкова сюды не прыходзяць

Вядома, вядома: джаз — культура з ужо крыху больш як стогадовай гісторыяй. А значыць — са сваімі традыцыямі ды са сваёй публікай. І наша сталічная публіка, утвараючы аншлагі на канцэртах Міжнароднага фестывалю джаза "Мінск-98", ведала, што рабіла. Як слушна заўважыў аўтарытэтны вядучы фестывальных праграм пецярбуржац Уладзімір Фeертаг, на джаз сёння выпадковыя людзі не прыходзяць. Можна дадаць: і ў джаз людзі выпадковыя не прыходзяць. Джазменам трэба нарадзіцца. Прынамсі, каб іграць або спяваць джаз (і слухаць, і разумець, і любіць яго!), трэба...

Не будзем удакладняць, што трэба для гэтага мець. Будзем казаць: усё гэта ёсць у тых, каму ўдаецца з году ў год ладзіць для мінчукоў свята жывога гуку, дасціпнай музычнай імправізацыі, высокага прафесіяналізму, шчырасці людскіх стасункаў. Традыцыйны зімовы фестываль джаза ў нашай сталіцы — гэта прыгожае і таленавітае дзіця маэстра Міхала Фінберга ды Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі, які ён узначальвае. Гэта справа гонару Мінскага гарвыканкама ды Міністэрства культуры краіны.

Учора ўвечары свята завяршылася, пакінуўшы ў многіх ўражлівых сэрцах музычны след чатырох непаўторных вечароў. Усе праграмы ладзіліся пад знакам адметнага юбілею — 100-годдзя з дня нараджэння выдатнага амерыканскага кампазітара Джорджа Гершвіна, чыё імя неадлучнае ад культуры джаза.

Пра тое, што гэты фестываль не ператвараецца ў "парад зорак", а застаецца жывым асяроддзем для з'яўлення і развіцця творчых талентаў, сведчаць і яго сёлетнія асаблівасці.

Упершыню ўдзельнікамі фэсту былі тыя, каму належыць лёс культуры XXI стагоддзя: з Масквы прыехаў Дзіцячы джаз-ансамбль Пятра Пятрухіна.

Упершыню гэтак шырока быў прадстаўлены расійскі вакальны джаз у праграме народнага артыста Расіі Анатоля Крола.

Упершыню гэтак разнастайна і годна паказалі сябе музыканты Беларусі: сузор'е салістаў біг-бэнда Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі; ансамбль салістаў аркестра "Яблычная гарбата" (група Ігара Сацэвіча); ансамблі джазменаў пад кіраўніцтвам Віктара Пынцікава, Уладзіміра Бялова, Аркадзя Эскіна, Сяргея Аляксандрава, Анатоля Радзюкова... Прыехаў ужо вядомы публіцы "Анімаквартэт" пад кіраўніцтвам Аляксандра Старасценкава з Наваполацка, "Фрагмент-бэнд" пад кіраўніцтвам Анатоля Нігрыцкуля з Баранавічаў. І нават у фае гралі музыкі — баранавіцкі "Дыксіленд" пад кіраўніцтвам Аляксандра Бондара.

Застаецца толькі паўтарыць сваё ж аднойчы сказане: жывы гук — жывы!

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота Віт. АМІНАВА*



РЭПЛІКА

# Вы ж — купалаўцы!

22 лютага глядзеў па БТ перадачу, прысвечаную маладому акцёру Віталю Рэдзьку, якога ведаю яшчэ з ягоных студэнцкіх гадоў і які, ведаю, прыстойна размаўляе на беларускай мове. Але ні ад яго, ні ад аніводнага купалаўца, што дапамагалі малодшаму таварышу выйсці ў людзі, я так і не дачуўся беларускага слова. Дарэчы, і іх таксама я ўсіх ведаю, як і яны мяне. Пры асабістых сустрэчах яны такія ўжо барацьбіты за беларушчыну! Той жа Манаеў, Аўсяннікаў, Давідовіч...

Дарагія мае людзі, у наступнай перадачы, ды і ва ўсіх іншых, пастарайцеся размаўляць па роднай, беларускай, мове. Паважайце сябе, вы ж — купалаўцы!

**Анатоль СЫС**

АБСЯГІ

*ВІЦЕБСК...*

## Там, дзе працаваў Купала

У Полацку, у музеі беларускага кнігадрукавання, адкрылася выстава мастацкага фонду І Міжнароднага пленэру, прысвечанага Янку Купалу.

— Мастакі з Беларусі, Літвы, Польшчы, Украіны імкнуліся адлюстраваць сённяшні воблік тых мясцін, якія звязаны з жыццём і творчасцю нашага песняра, — сказаў, адкрываючы выставу, яе каардынатар Альберт Цэханові́ч.

Вядома, што Купала працаваў некаторы час на чыгуначнай станцыі пад Полацкам.

## Мемарыяльны знак у Лісне

Віцебскі дзяржаўны універсітэт, якому днямі прысвоена імя Пятра Машэрава, выступіў з ініцыятывай устанавіць памятны знак рускаму пісьменніку Дзянісу Фанвізіну ў вёсцы Лісна Верхнядзвінскага раёна. На мінулым тыдні мясцовы райвыканкам падтрымаў гэтую ініцыятыву.

Архіўныя дакументы сведчаць, што Ліснаўскі маёнтак належаў роду Фанвізіных. Таму, магчыма, некаторыя з персанажаў знакамітых камедый "Недарасль", "Выбар губернёра" былі "запазычаны" ў паўночнай Беларусі.

## Раяль Рэпіных

У абласным краязнаўчым музеі адбылася выстава новых паступленняў. Прадстаўлены экспанаты гарадскога быту канца XIX пачатку XX стагоддзя: калекцыі музычных інструментаў, падсвечнікаў, гузікаў, цікавыя рэчы з прыватных віцебскіх аптэк таго часу, фотаздымкі сям'і архітэктара Ціхана Кібардзіна.

Нядаўна, як паведаміла дырэктар Вольга Акуневіч, у фонды музея паступіў раяль, які (ёсць усе падставы так сцвярджаць) належаў сям'і мастака Ільі Рэпіна.

**Святлана ГУК**

*МАГІЛЁЎ...*

## Лаўрэат прэміі

Адным з лаўрэатаў новай расійскай літаратурнай прэміі "Болдзінская восень" стаў наш зямляк (зараз жыве ў Маскве), паэт і празаік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Ігар Шкляроўскі.

Прэмія "Болдзінская восень" заснавана ў гонар 200-годдзя з дня нараджэння Аляксандра Пушкіна.

**Аляксандр ПЯТРОВІЧ**

*ГОМЕЛЬ...*

## Першы цыганскі фестываль

У Савецкім раёне горада прайшоў першы раённы фестываль цыганскай песні і танца "Спявай, гітарная струна". Яго арганізатарамі выступілі мясцовы Дом дзіцячай творчасці, абласны савет піянерскай арганізацыі і гарадскі камітэт Беларускага саюза моладзі. Каля 30 юных артыстаў-цыган паказалі сапраўднае майстэрства ў выкананні нацыянальных песень і танцаў. Лепшым па ўсіх ацэнках аказаўся Граф (не тытул, а проста імя) Канстанцінаў.

Дзеля далейшага адраджэння старажытнага цыганскага мастацтва арганізатары ў перспектыве плануюць правядзенне і гарадскога фестывалю.

## Напярэдадні гастроляў

20 лютага ў абласным Доме тэхнічнай і мастацкай творчасці прайшоў канцэрт мясцовага гурта "Годс Тауэр", які працуе ў накірунку трэш-музыкі. Тут жа адбылася і прэзентацыя двух кампактдыскаў, выпушчаных у расійскай сталіцы.

Гэтым канцэртам гурт распачынае гастрольны тур. Музыкі плануюць наведаць Мінск, а таксама асобныя гарады Расіі.

**Віктар ІГАРЭВІЧ**

*ГРОДНА...*

## Падарунак Максіма

Гарадскому музею Максіма Багдановіча паэт Уладзімір Паўлаў падараваў слуцкі пояс, які ў 1898 годзе выткала яго бабуля Дар'я Міхайлаўна Паўлава ў вёсцы Замошша Слуцкага павета (цяпер у межах Любанскага раёна).

**Алесь ЧОБАТ**

## Зачыняецца музей

У горадзе будзе зачынены для наведвальнікаў на няпэўны час адзін з лепшых музеяў вобласці ды і рэспублікі — музей гісторыі рэлігіі.

Пачаў ён сваё жыццё ў 1977 годзе, першым дырэктарам стаў Аляксей Карпюк. Музей быў задуманы дзеля змагання з рэлігіяй, але пачаў збіраць святыя рэліквіі, ратаваць іх ад згубы. У фондах сабрана 70 тысяч унікальных экспанатаў. Быў адрэстаўраваны, адрамантаваны і дабудаваны на старым падмурку Базыльянскі кляштар і адкрыта ў 1985 годзе вельмі прыгожая навуковая экспазіцыя. Гродзенцы мелі што паказаць гасцям і паглядзець самім.

Каталіцкі біскуп Тадэвуш Кандрусевіч выказаў жаданне пакінуць музей пры дзеючым касцёле. Але ўвесь базыльянскі (уніяцкі) комплекс дастаўся праваслаўнай царкве. З красавіка 1992 года праваслаўныя "верніцы" арганізавалі пагром у Доме ігуменні — выкінулі на вуліцу маёмасць і канцылярыю з пакояў навукоўцаў.

Выканкам прыняў рашэнне перасяліць музей на Замкавую вуліцу ў стары і занядбаны палац Храптовіча XVII стагоддзя. Пераехалі ў канцы 1994 года, а ў пачатку 95-га адкрылі экспазіцыю для наведвальнікаў. Другую палову палаца, запушчаную і сырую, адрамантаваць не паспелі. І фонды знаходзяцца па-ранейшаму ў будынку базыльянскіх муроў. У матушкі Гаўрыілы лопнула цярпенне. Яна захацела перасяліцца ў кляштар да Вялікадня...

Фонды прыйшлося размясціць у залах экспазіцыі...

Апошнія два гады музей гісторыі рэлігіі сумесна з Чырвоным Крыжам, каталіцкімі і праваслаўнымі харытатыўнымі суполкамі наладзіў правядзенне рэлігійных свят для цяжкахворых дзяцей і старых адзінокіх людзей. Гэтую дзейнасць таксама давядзецца прыпыніць.

**Алена ГАЙКО**

## Залаты медаль — рэктару

**Залатым медалём Альберта Швейцэра (аўстрыйскі ўрач-гуманіст, доктар тэалогіі, філасофіі і медыцыны, лаўрэат Нобелеўскай прэміі) узнагароджаны рэктар Віцебскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута прафесар Аляксандр Мікалаевіч Касінец.**

**Гэтая радасная вестка прыйшла ў Віцебскі медінстытут з Варшавы ад прэзідэнта Польскай медыцынскай акадэміі, а ўручана высокая ўзнагарода за заслугі ў развіцці медыцынскай навукі будзе ў маі сёлетняга года ў Каралеўскім замку ў Варшаве.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Фестываль маладых талентаў

**Амаль тыдзень, з 16 па 20 лютага ў Маскве праходзіла свята — заключны фестываль маладых талентаў, якія прыехалі з розных куткоў Беларусі, Расіі і Кыргызстана.**

**Нагадаю, што такое прадстаўнічае мерапрыемства для творчай вучнёўскай моладзі магло адбыцца дзякуючы ініцыятыве Інтэграцыйнага Камітэта Рэспублікі Беларусь, Рэспублікі Казахстан, Кыргызскай Рэспублікі і Расійскай Федэрацыі сумесна з Міністэрствам культуры Расійскай Федэрацыі. Удзельнікі сустрэчы прынялі рашэнне правесці ў 1997 годзе Фестываль творчасці маладых. Быў падпісаны мемарандум, які зацвердзіў гэтае рашэнне. Так, у рамках фестывалю ў чэрвені — ліпені 1997 г. у Паленава—Тарусе (Расія) прайшоў пленэр маладых мастакоў і заняткі музыкантаў у Школе маладых талентаў; у ліпені 1997 г. на Беларусі адбыўся пленэр маладых скульптараў; у верасні — кастрычніку ў Казахстане і Кыргызстане — пленэры маладых мастакоў.**

**І вось, нарэшце, у Маскве, у Расійскім Фондзе культуры сабраліся юныя таленты з Беларусі, Расіі, Казахстана, якія прымалі ў мінулым годзе самы чынны ўдзел у сумесных культурных акцыях. Нашу рэспубліку прадстаўлялі навучэнцы Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі Дзяніс Ленартовіч (фартэпіяна) і Аляксандр Хаўкін (скрыпка). У іх выкананні прагучалі як сольныя творы, так і ансамблевая музыка.**

**Цікавасць выклікалі работы нашых мастакоў і скульптараў — удзельнікаў розных пленэраў. На думку спецыялістаў, адбылося і адкрыццё новых імёнаў. Гэта мастакі — удзельнікі пленэру ў Паленава—Тарусе Раман Трацюк — выпускнік мастацкай школы Брэста, а таксама Павел Пракапцоў — навучэнец 10 класа Рэспубліканскай гімназіі — каледжа мастацтваў, які прыемна ўразіў усіх прысутных сваёй нізкай жывапісных палотнаў "Па родным краі".**

**Творы нашых юных мастакоў яшчэ раз засведчылі, што ў нас, на Беларусі, ёсць сапраўдныя таленты, што ў нас яшчэ захавалася і існуе добрая сістэма мастацкай падрыхтоўкі навучэнцаў, далучэнне пачаткоўцаў да роднай спадчыны, багатых здабыткаў нацыянальнай жывапіснай школы.**

**Напрыканцы вялікага свята ўсім удзельнікам фестывалю былі ўрачыста ўручаны ганаровыя дыпломы за творчыя поспехі ў мастацтве.**

Ірына БАГАЧОВА

ВАРУНКІ

# Жывём мы весела сягоння...

## Думкі ўслых

### "ГРАМОТЕИ"

Я не ведаю, як да гэтага адносіцца. Цярпець? Скардзіцца? Не заўважаць?.. Колькасць перыядычных выданняў расце, а граматнасць на іх старонках катастрафічна памяншаецца. Ці мы крочым да краіны невукаў?

Мо "Прессболу" без розніцы, напрыклад, ці пісаць "документы краденные" (як у газеце), ці "крадены" , як па неадмененых правілах, а "Свабоду" **не** хвалюе, што напісана "згодна дамове" замест "згодна з дамовай" ці "адпаведна дамове", "паводле дамовы"? Чаму "Рэспубліка" піша беларускі варыянт у рускім выкананні: "согласно договора"? Мо "Народнай газеце", "как бы не хотелось", усё ж трэба вучыць правілы наконт часціцы "ні"?..

Часціцы "не", "ні", напісанне "н"—"нн", агульнаўжывальных слоў, коскі і працяжнікі... — што "Частная собственность", што "Экспресс-реклама", што "СН" і г.д. — усе памешаныя на элементарных школьных памылках. А калі тэлефануеш у рэдакцыю з заўвагамі, дзякуюць за дапамогу, але... памылкі працягваюць жыццё на старонках газеты з тым жа пастаянствам.

Цікава, што доля беларускай мовы ў нашых газетах менее, але менавіта там яшчэ захоўваецца больш-менш дастатковы ўзровень граматнасці. Пры гэтым у рускамоўных газетах назіраюцца такія адхіленні ад норм, што пачынаеш думаць, быццам журналісты не вычытваюць свае тэксты пасля набору, а карэктары — блатныя "троечнікі".

У нашых продкаў, як мне падаецца, не было дробязей ні ў справах, ні ў рэчах. Нават палка пад лаўкай ведала сваё месца і вызначалася мастацкім густам. Атрымоўваецца, што мы сёння дурнейшыя за продкаў? Ці паказваць сваю непісьменнасць на ўсю краіну — справа не для абмеркавання альбо для конкурсу чытачоў на пошук самай файнай памылкі?..

### ЧАГО Ж МЫ ХОЧАМ?

Мы хочам таго, што нам убівае ў галовы ўсюдыісная рэклама. Можна падумаць, што галоўныя праблемы чалавецтва — памперсы, пракладкі, пральныя парашкі, кава і іншая **дребедень** (рэч, што апынулася не ў сваім маштабе выкарыстання)...

Ніякі аналіз прапануемага грамадству не праводзіцца. Больш аўтамабіляў, больш катэджаў, бездухоўнай індустрыі забаў... Кожны год — змены прэстыжнай моды, псіхозаў па відах адпачынку, ідалаў прымітыўнага кіно, эстрады... Бо за ўсім стаяць вялікія грошы, якія трэба забіраць у мільёнаў для ўзбагачэння соцень.

А калі, атрымаўшы чарговую новую "цукерку" спажывецкага рынку, пачынаць не з праглынання яе, а з аналізу наступстваў яе з'яўлення для экалогіі, здароўя людзей, маралі?

Напрыклад, гарвыканкам Мінска прымае рашэнне аб акальцаванні горада катэджамі. Чамусьці ніхто не зацікаўлены пралічыць нагрузку гэтых новабудоўляў на навакольную прыроду, на інфраструктуру горада, на... Ніхто не шукае магчымыя кампрамісы ("мазгавы штурм": спалучэнне шматпавярховага дома і катэджа — шматкатэджны шматузроўневы дом ці — "зімовыя" шматкватэрныя дамы і "летнія" загарадныя домікі... — пошук аптымальных суадносін маштабу пабудоў і фізіялогіі, псіхалогіі чалавека).

Часта абураюцца ўзроўнем сучаснага кіно, эстрады: бездухоўна, прымітыўна, жывёльна... Але ж мала хто пры гэтым культывуе сам набыткі продкаў, не кажучы ўжо аб перадачы спадчыны сваім дзеткам.

Жанчына едзе на рынак, шукае "супермоднае" адзенне, плаціць вялікія грошы, а потым ледзь не плача, бо палова горада носіць гэтае адзенне. Аднак сама сваімі рукамі зрабіць нейкія дапрацоўкі касцюма, каб падкрэсліць сваю індывідуальнасць, гэтая добрая жанчына не ў стане. Не жадае марнаваць час на дробязі (а што для яе не дробязь?)...

І ўсё гэта — пры агульным зніжэнні культурнага ўзроўню грамадства: безгустоўнасць і бязграматнасць лезе ва ўсе праявы жыцця.

Суцяшае і дае надзею думка: тое, што робіцца намі зараз, нашы нашчадкі здолеюць перарабіць, палепшыць, замяніць. І ўсё ж шкада намаганні хворага, нямоглага грамадства загадзя асуджаць на бессэнсоўнасць, тупіковасць. Няўжо і з гэтым трэба змірыцца?..

Ці бачыцца вам нейкае выйсце?

### ПІШАМ ДЛЯ ТАГО, У КІМ РАСЧАРАВАНЫЯ?

У верасні давала "ЛіМу" змястоўнае інтэрв'ю паважаная Святлана Алексіевіч. Паміж іншым папракала Зянона Пазняка ў "фанатызме і сектанцтве", адмаўляючы магчымасць шматвектарнасці праўды, існаванне рознасці поглядаў на адны і тыя рэчы ў блізкіх па духу людзей і нават не шукаючы нейкіх спосабаў сумяшчэння "праўдаў" і "паўпраўдаў" у рэчышчы агульнаграмадскага развіцця. "Вечная хвароба" снобаў-інтэлігентаў?.. Мне гэта дзіўна і незразумела.

Тым больш, што ў літаратуры Святлана Алексіевіч неаднойчы ішла тым жа шляхам, за які папракае Пазняка ў ягонай палітычнай дзейнасці.

А яшчэ Святлана Аляксандраўна ўсур'ёз даводзіць сваю інтэрпрэтацыю быдлаўскай тэорыі каўбасы і мовы: маўляў, спачатку пазмагаемся за агульнадэмакратычныя ідэалы, а потым возьмемся за нацыянальныя справы. Быццам каўбаса можа з'явіцца ў ненарода, а народ можа існаваць без мовы! Быццам дэмакратыя сёння можа працвітаць у грамадстве без нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, патрыятызму!

Наогул, незразумела, што трымае паважаную пісьменніцу на гэтым свеце, калі яна расчараваная ў чалавеку? Піша яна кнігі ўсё ж з разліку на ўвагу чытачоў, іх роздум і карэкцыю ўчынкаў...

### КУДЫ НІ ГЛЯНЕШ — ЛЮДЗІ, ЛЮДЗІ...

Як бы ні раскідвала жыццё па свеце членаў сям'і, яны, калі чалавекі, звычайна заўсёды стараюцца неяк кантактаваць паміж сабой, дапамагаць адзін аднаму.

А тут цэлы народ падзялілі межамі Польшчы, Летувы, Расіі, Латвіі ды ў выгнанне выштурхнулі і выштурхоўваюць сваёй палітыкай-эканомікай тысячы яго прадстаўнікоў!

Польшча аднаўляе зараз у Беларусі польскасць нават там, дзе яе аўтэнтычна і не было. А нашае дзяржаўнае кіраўніцтва сваіх суродзічаў на спрадвечных беларускіх землях успрымае як недарэчнасць і толькі і чакае, калі яны асімілююцца ў летувісаў, палякаў, рускіх...

Нам не трэба пераглядаць межы дзяржаў. Але калі ўжо нас без нас шмат разоў ажанілі, дык вызначыцца з патрэбамі захавання беларускага этнасу і жорстка дамовіцца з суседзямі на гэты конт мы маем права і абавязак.

Вядома, асноўныя справы зараз можна рабіць праз дачыненні патрыятычных арганізацый Беларусі і адпаведных структур суседніх краін, эканамічныя ды культурныя кантакты на так званым побытавым узроўні. Дзяржава, паўтаруся, будзе тут ворагам свайму народу яшчэ шмат часу...

Дарэчы, кажу "беларусы", **"беларускі народ"** і разумею тут людзей, што адчуваюць сваю адказнасць як носьбіты беларускай мовы, культуры, памяці (дзеючыя ці патэнцыйныя), што асабісты інтарэс разглядаюць у рэчышчы інтарэсаў беларускай дзяржавы. Альбо нічога не адчуваюць і не разглядаюць, аднак проста жывуць па-беларуску, як жылі іх бацькі-дзяды... Пры гэтым знаходзіцца можна і ў Беларусі, і ў Летуве, і ў Аўстраліі...

Астатнія, хто глядзіць на краіну як на кватэру, якую можна памяняць, змарнаваць, закласці, хто проста не любіць, і нават не паважае беларускую зямлю — гэта не народ, а натоўп ці нават быдла: манкурты (жыццё для грошай і рэчаў, без сантыментаў і радзімы) і пыса (каўбасна-гарэлачнае існаванне без памяці і пытанняў).

### МОВА ЛАЙДАКОЎ

У нашай краіне бальшыню складаюць культурныя людзі. А культурныя людзі разумеюць: у Францыі павінна панаваць французская культура, французы павінны размаўляюць па-французску, у Славакіі — славацкая культура і славацкая мова, у маленечкай Эстоніі насуперак прышлай бальшыні — эстонская і па-эстонску. І большасць беларусаў да гэтага таксама ставіцца з разуменнем, таму мы — нацыя культурных!

Вы запытаеце, а чаму ж нашыя культурнікі робяць у гэтым пытанні выключэнне для сваёй Айчыны? Таму, адкажу я, што прапалвалі беларускае поле па-чорнаму. Засталося на ім не самае лепшае. І вось калі знаходзяцца сярод нас моцныя духам і пачынаюць адраджэнне сваёй беларускай асновы, вяртанне да каранёў, то асноўная маса выглядае інертнай глінай, лежбішчам лайдакоў.

Ці трэба іх прымушаць вывучаць тую ж беларускую мову? Не. Пакуль такая справа — справа гонару і інтэлігентнасці асобы, а не дзяржаўная палітыка, толькі згубім час на заклікі.

Ёсць сэнс заключыць умоўнае "пагадненне" нацыянальна свядомых людзей і духоўных лайдакоў. Напрыклад, першыя не прыстаюць з беларусізацыяй да другіх, і тыя да скону дзён карыстаюцца сваёй трасянкай — мовай лайдакоў і манкуртаў, не ведаюць гісторыю, культуру беларусаў. За тое яны не перашкаджаюць прывядзенню краіны да еўрапейскага выгляду, г. зн. у першую чаргу — да беларускасці дзяржавы з усімі адпаведнымі атрыбутамі. Не перашкаджаюць таму, што іхнія дзеці будуць атрымоўваць такую беларускую адукацыю, якая выведзе іх са стану манкуртаў ды быдла да агульнаграмадскага прагрэсу. Не перашкаджаюць фінансаванню праграм і мерапрыемстваў, накіраваных на выкананне гэтых мэт...

Вось толькі адкуль возьмуцца гэтыя праграмы, мерапрыемствы? Хто ў нас не лайдак?

**Алесь КАТЛЯНІК**

ВЫСТАВЫ

# Выданні беларускага замежжа

Пад такой назвай музеем гісторыі Магілёва арганізавана выстава ў памяшканні Магілёўскай абласной бібліятэкі. На ёй з фондаў музея прадстаўлена каля 100 арыгіналаў выданняў 50—90-х гадоў XX ст., выдадзеных беларусамі ў Англіі, ЗША, Італіі, Іспаніі, Германіі, Канадзе, Францыі. Гэта мастацкая, гістарычная, музыказнаўчая, рэлігійная літаратура, перыядычныя выданні: "Беларус", "Царкоўны Пасланец", "Голас царквы", "Летапісец", "Божым шляхам", паштоўкі, канверты, буклеты выстаў, карты Беларусі, выдадзеныя нашымі суродзічамі, якія па волі лёсу апынуліся за межамі Бацькаўшчыны, але дбалі аб укладзе ў навуку і развіцці культуры Беларусі. У фонды музея ўсе гэтыя выданні трапілі ад дырэктара Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНІМ) В. Кіпеля (ЗША), Юркі Васілеўскага (ЗША), а. А. Надсана (Англія) і іншых. Уступную даведку да выставы напісаў В. Кіпель.

29 снежня 1997 г. на адкрыццё выставы прыйшло шмат студэнтаў філфака і гістфака Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта, выкладчыкі, бібліятэчныя работнікі. Перад імі выступіў дэкан універсітэта Яраслаў Клімуць, які распавёў пра гісторыю беларускага друку ў замежжы, адзначыўшы, што беларусы за мяжой, незалежна ад палітычных поглядаў і рэлігійнай прыналежнасці, вялі актыўную грамадскую і выдавецкую дзейнасць. Дарэчы, на выставе прадстаўлены беларускія рыма-каталіцкія, грэка-каталіцкія выданні і выданні Беларускай аутакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ), пратэстантаў.

Заслужаны дзеяч культуры Беларусі Валянцін Ермаловіч падзяліўся сваімі ўспамінамі пра А. Салаўя, з якім разам вучыўся ў адной школе, якому чытаў свае першыя вершы.

На адкрыцці выставы, якую аформіў мастак Мікалай Цітоў, гучалі вершы, а таксама беларуская музыка XVI—XVII стст. у выкананні на цымбалах студэнтаў Магілёўскага педфака Беларускай акадэміі музыкі А. Архіпавай і В. Дзядкоўскай.

Найбольшую цікавасць гледачоў выклікалі кнігі Н. Арсенневай, У. Глыбіннага, Б. Рагулі, А. Салаўя, С. Брагі, А. Багровіча, М. Куліковіча, "Запісы" БІНІМа, падручнікі па беларускай мове для дапаможных канадскіх школ, зборнік "Ля чужых берагоў" і іншыя выданні.

Падобная выстава — першая на Магілёўшчыне. Абласной бібліятэцы перададзена частка выданняў, якія меліся ў музеі ў некалькіх асобніках. Выстава будзе працаваць да сярэдзіны лютага 1998 г., каб усе, хто жадае, мелі магчымасць не толькі пабачыць, але і пачытаць (у бібліятэцы, вядома) выданні беларускага замежжа.

**Ігар ПУШКІН,**
**дырэктар музея гісторыі Магілёва**

***27 лютага спаўняецца дзесяць гадоў Беларускаму дзіцячаму фонду. Гэта дабрачынная, міласэрная арганізацыя, якую з першага дня яе ўтварэння ўзначальвае пісьменнік Уладзімір Ліпскі, праклала шлях дабрыні да пакрыўджаных лёсам дзяцей, згуртавала вакол сябе тысячы шчодрых душой, з добрымі сэрцамі людзей.***

***Друкуючы сёння дзённікавыя запісы Уладзіміра Ліпскага, "ЛіМ" шчыра віншуе дзетфондаўцаў з юбілеем. Хай, сябры, ваша вернае служэнне дзецям Беларусі стане добрым прыкладам для ўсіх дарослых.***

Уладзімір ЛІПСКІ

# Бацькі і дзеці

## СТАРОНКІ З ДЗЁННІКА

●

Знаёмы дзядзька Сцёпа, міліцыянер — вартавы нашага скрыжавання, расшчодрыўся на ўспаміны:

— Падбягае неяк да мяне пацанчык і пытае: "Ці не бачылі вы маю маму?" — "А якая яна?" — "Ну, ішла адна, без мяне, з сумкай..."

Міліцыянер рагатаў, і мне стала весела. Сынок шукаў маму па вернай і адзінай прыкмеце: яна ішла без яго.

Мама для дзіцяці, як крынічная вада, сонечны промнік для кветкі, як майскі золак для салаўя, як акрайчык хлеба галоднаму...

Хрысце ўсемагутны і справядлівы, молімся за тваю светлую маці Марыю, але чаму нашы зямныя Марылі кідаюць на сметніках сваіх дзетак, чаму яны церпяць здзек, калі іх пазбаўляюць права маці?

Пачуйце, маці-адрачэнцы, вершык Кацідзетдомаўкі:

***Каб мама згадала, што я яе дочка,***
***Каб мама забылася на бутэльку сваю,***
***Я б падарыла ёй тры цвяточкі,***
***Якія п'юць толькі ваду...***

●

Зайздрошчу: немцы правялі ў Гановеры дабрачынны шоу-канцэрт і за дзве гадзіны сабралі тры мільёны марак.

Там, у Германіі, хто не хоча служыць у арміі, ідуць даглядаць ляжачых дзяцей. Выносяць іх на вуліцу, возяць у калясках...

Наша ява, на жаль, крыху не такая.

На аўкцыён выстаўляем дзяцей. Праводзім дні "адкрытых" дзвярэй у дзетдамах. Газеты друкуюць фоткі сіротаў. Знайдзі мяне, мама!

Безнадзейна чакаюць дзеці спагадлівых людзей. Інтэрнатныя ўстановы могуць штогод аддаваць на ўсынаўленне звыш пяці тысяч сіротаў. У сем'і трапляюць толькі пяцьсот.

Расце колькасць злачынных сем'яў, адкуль збягаюць дзеці, у якіх бацькоў пазбаўляюць правоў на дзяцей. Кожны год "бусел прыносіць" нам каля дзесяці тысяч пазашлюбных дзяцей. А яшчэ дваццаць тысяч нашых нашчадкаў з-за разводаў застаюцца ў няпоўных сем'ях...

Што тут сказаць?

Давайма вучыцца шкадаваць дзяцей, як гэта робіцца ў людскім свеце.

Давайма помніць: калі дрэўца не даглядаць, яно вырасце крывым ці здзічэе...

●

Наколка на нагах у зэка: "Яны стаміліся, мама, хадзіць пад канвоем".

Хто цябе, чалавек, пагнаў пад канвой: мама, сябры, прагнасць, "лёгкі хлеб"?

Хай твая наколка, мучанік, прыпыніць тых, хто бяздумна лезе пад канвой.

●

Прачытаў пра звярынае злачынства двух маладзёнаў і глыбока параніўся сам. Што ні раблю, а перад вачыма дзікунскі "баявік" жыцця.

На дачу, пад Радашковічамі, уварваліся два азвярэлыя байбусы. Нажамі скрамсалі бабулю і ўнука. Па паўсотні ранаў кожнай ахвяры. Хлопчыку нанапаследак перарэзалі горла...

І што пасля?

Там жа, на дачы, памылі рукі, забралі грошы, фотаапарат і паехалі гуляць на Нарач.

О, сінявокая Нарач! Каго ты толькі не бачыла на сваіх берагах, каго не лашчыла ў сваіх чароўных хвалях. Прытуліла і вырадкаў чалавечых...

Але не доўга балявалі злачынцы.

Іх цёпленькіх і павязалі ў амурных абдымках з каханкамі.

Думаю-перадумваю, колькі ахвяраў у гэтым злачынстве? Дзве недарэчныя смерці бязвінных. Згубленыя жыцці двух нечалавекаў. Глыбокія раны ў родзічаў, сяброў, знаёмых і незнаёмых, хто далучыўся да гэтай бяды.

А дзеля чаго ўсё гэта?

Няўжо жыццёвыя ўрокі бездухоўныя?

Няўжо божыя запаветы губляюць мудрасць?

Ды не, шукайма трагедыю на арбіце бацькоў і дзяцей. І прыслухаемся да нямецкага філосафа Р. Штайнера: "Перш за ўсё чалавека трэба рыхтаваць да таго, каб ён далучыўся да людзей".

●

— Я стамілася жыць, — уздыхнула і змоўкла жанчына.

Што ведаў пра яе?

Гамяльчанка. Прывезла на "чарнобыльскае" абследаванне траіх унучак — Жэню, Насцю, Лену.

Перада мной сядзела бабуля, хваравітая і зламаная жыццём. Людміла Якаўлеўна Пшанічнікава, так назвалася пры знаёмстве, адчуўшы маю спагаду да яе, адкрыла душу:

— Мне самой шчытавідку ўдалілі. Пасля аперацыі, адчуваю, пастарэла гадоў на дваццаць. Бацька мой, франтавы лётчык, вярнуўся дамоў без абедзвюх рук. Усё жыццё даглядала яго. Во дакумент: "В боях за Советскую Родину..." (паказвае даведку). А паміраў, дык не было за што пахаваць...

Людміла Якаўлеўна даверыла прачытаць яшчэ адну паперу. Сама склала паэму пра бацьку-інваліда...

Чытаю няхітрыя вершыкі, напісаныя збалелым сэрцам. У іх — горыч, крыўда, адчай. Забылася радзіма пра абаронцу свайго, зажыва пахавала ў хаце, быццам і не было вайны...

Пшанічнікава, з хлебным прозвішчам, скардзіцца на бясхлебіцу, беднасць. І зноў прызнаецца:

— Стамілася жыць...

Перадаю праўнукам франтавога лётчыка, чарнобыльцам Жэні, Насці, Лене калядныя падарункі ад Дзіцячага фонду. Выходжу на вуліцу дыхнуць калючага, зімовага водару.

●

У падземным пераходзе на плошчы Перамогі сустракаю хлопчыка. Ды ён сам вытыркнуўся перада мною. Выкінуў руку ў мой бок, нeяк ігрыва прамямліў:

— Хачу есці...

— Пойдзем са мной, — прапанаваў галоднаму незнаёмцу.

На яго твар ускочыў сполах. Схаваў рукі ў кішэню. Стаіць, як нашкодлівы каток.

— Пойдзем у Дзіцячы фонд. Накормім цябе. Пазнаёмімся... — яшчэ раз даверліва прапанаваў хлопчыку.

І раптам ён ірвануў ад мяне, вопрамецію кінуўся на выхад з тунеля.

Забаяўся знаёмства. Адмовіўся ад абеду.

Значыць, збірае грошы не для яды. Выправіў бацька-п'яніца ці маці-лайдачка? Прымусіў старшы "сябар"? А можа, гэта яго бізнес?..

Дзетак змалку пачынае кранаць вірус грошай. Просяць. Бяруць. Зарабляюць. Крадуць. Грошы затуманьваюць бесклапотнае, радаснае дзяцінства.

Як давесці да дзіцячай душы, што грошы ў іхнім жыцці яшчэ будуць, а дзяцінства — ніколі?

Як навучыць дарослых, што дзецям трэба даць "даспець" у дзяцінстве?

●

Надпіс пад свечкай: "Служым іншым — растрачваем сябе".

Такая самаахвярнасць павінна ўзвышаць асобу, а не рабіць яе халуём.

Лічы, спаліў дзень, калі нікому нічога не зрабіў добрага. Так можа растапіцца ўся свечка жыцця...

●

"Зазорныя" дзеці.

Такім кляймом у эпоху Пятра I вызначалі



немаўлятак, ад якіх адмаўляліся маці.

Ганебныя. Нялюбыя. Кінутыя.

Іх умярцвялі бацькі. Яны гінулі з голаду. А калі няшчаснікі і выжывалі, то пазбаўляліся ўсіх правоў на волю і грамадзянства. Кара за іх бязвіннасць.

А маці-грэшніцу, калі яна рабілася забойцай дзіцяці, каралі смерцю, ссылалі ў Сібір.

Што сёння?

"Зазорнага" падкідыша знайшлі ў пад'ездзе дома N 6 па вуліцы Цыялкоўскага ў Магілёве.

Нічыйнага хлопчыка падабралі каля плота дома дзіцяці ў Мінску.

Галодных і схуднелых Машу, Максіма, Марыну, Насцю падкінула маці-зязюля ў прыёмны пакой Аршанскай бальніцы.

У нежылым доме вёскі Межная Слабада Клецкага раёна нехта забыўся закручанае ў дарожку дзіцё мужчынскага полу.

На Магілёўшчыне маці-п'янь закапала народжанае дзіця ў картоннай каробцы з-пад "гуманітаркі".

З раддома збеглі дзве парадзіхі. Каля немаўлятак пакінулі запіскі: "Самой жраць нечава...", "Аддайце таму, хто яго зрабіў..."

Мы "затавараны" кінутымі дзецьмі. Іх — дзесяткі тысяч. І люляе "зазорнікаў" бедная дзяржава. А бацькі, якія асірацілі дзяцей, прадаўжаюць вольнае, загульнае жыццё. Няўжо так ніколі не знойдзем управу для гэтай мярзоты?!

Устрашаў жа Пётр Вялікі непуцёвых бацькоў: сек галовы, вешаў, пасылаў туды, дзе адмярзала ўсялякае жаданне грашыць.

А да невінаватых грэшнікаў праявіў міласэрнасць. Каб іх не кідалі абы-дзе, выдаў свой знакаміты указ ад 4 лістапада 1715 года:

"...И для того объявить Указ, чтобы таких младенцев в непристойные места не отметывали, но приносили б к вышеозначенным гошпиталям и клали тайно в окно, через какое закрытие, дабы приносящих лица было не видно..."

Зразумелі?

Калі маці ў адчаі безвыходнасці, то ёй не трэба кідаць дзіцё "в непристойные места", яго нельга забіваць, бо за гэта будзе пакарана, яго трэба прынесці і тайна здаць у "гошпиталь".

Такія прыёмнікі па Указу цара былі створаны ў Маскве і ў іншых гарадах пры цэрквах. "Приставленным" да тых прыёмнікаў жанчынам плацілі ў год 3 рублі і давалі хлеба па "полуосмине" ў месяц...

Усё рабіў цар, каб маці не ўмярцвялі нежаданых дзяцей. разумна рабіў!

Вопыт даўніны перанялі сучасныя венгры.

У цэнтры Будапешта ёсць спецыяльнае памяшканне для "зазорных" дзяцей. У краіне ўведзена праграма "Інкубатар" па выратаванню маці і дзіцяці, якія трапілі ў крытычны мір жыцця.

Дай, Божа, і нам калі-небудзь прасвятлецъ!

●

Эб'юз — сужыцельства дарослых і дзяцей.

Для высокіх цывілізацый свету — гэта пагроза нацыянальнай бяспекі краіны.

А ў нас?

У лепшым выпадку, калі ява набудзе галоснасць, — суд, краты, пазбаўленне правоў бацькі, маці.

Пераварваем, як вараную бульбу, жудаснае падзенне чалавечай годнасці: бацька згвалціў дачку-малалетку, брат — сястру, зяць — цешчу, свёкар — нявестку...

Дзяўчынкі-падлеткі з Віцебска ездзілі ў Маскву "гандляваць" сабой. І прыладкаваліся ў незнаёмым горадзе да заробкаў. І даляры займелі. Але іх "працоўную" дзейнасць перапыніла міліцыя...

У Чэрвеньскім раёне дзядзька "ўзнагародзіў" сіфілісам васьмігадовую пляменніцу...

У Мінску маці прывяла да свайго сужыцеля малую дачку...

Гэтыя злачынствы называем інтэлігентна — "займацца любоўю".

А нашы далёкія прашчуры неад'емна звязвалі пачуццё любові з Богам. Самае высокае чалавечае пачуццё абагаўлялі ў лепшых творах мастацтва. У лацінскай паэме "Усеначная Венеры", якая напісана ў трэцім стагоддзі, чытаем найвялікшую мудрасць, як запавет нам, сённяшнім грэшнікам:

"Няхай заўтра пакахае той, хто ніколі не кахаў, а той, хто кахаў, няхай заўтра пакахае".

Хай, Божа, будзе так!

●

Чарнобыльскае "слабоумие" — новы дыягназ, які распачалі выстаўляць вучоныя і медыкі Украіны.

Бяда чарнобыльская — шматтварная і здзеклівая. Як бы нас не супакойвалі перад ёй, яна з кожным годам усё больш кусачая.

Медыкі пачалі выпісваць дакумент — "Інвалід Чарнобыля". Не адпачываюць скальпелі хірургаў на шчытавідках. Не пустуюць ложкі ў дзіцячых анкалагічным і гематалагічным цэнтрах...

І вось новы дыягназ: радыяцыя расхіствае мозг, разбурае нейроны, атрафіруе наш розум, адбірае інтэлект, цікаўнасць да жыцця...

Божа міласэрны, чаму, за што пакутуюць нашы дзеці?

Божа праведны, уразумі дарослых, дай волю і мудрасць тым, хто мае ўладу, што дзеці — наш нацыянальны скарб. Дзецям патрэбна дапамога сёння. Адчувальная дапамога! Заўтра яна не спатрэбіцца нікому.

●

Што пасееш, тое і пажнеш.

Суды навадняюцца нязвыклымі справамі. Бацька здзекуецца з сына. Маці б'е дачку. Настаўнік — вучня. Доктар гвалціць малых пацыентаў...

Сеем жорсткасць, злосць, агіду, агрэсію ў душах дзяцей...

Дзетдомаўка: "Аднойчы я ўкрала цыбуліну і з'ела без хлеба. Айчым прывязаў мяне да крэсла, біў і крычаў: "Аддай, а то распару жывот!.."

У Барысаўскім доме дзіцяці з'явіўся новы "кліент" — дзевяцімесячны Віталік. Маці кінула яго на чыгуначным вакзале з высокай тэмпературай, а сама паехала гуляць да сяброўкі...

З міліцэйскай даведкі: "Сужыцель маці тушыў "бычкі" аб спіну Жэнькі. Яго кармілі камбікормам з вадой..."

І пажынаем з пасеянага...

На Віцебшчыне пяцігадовы хладнакроўна забіў нажом васьмігадовага. І прыскнуў на бабулю: "Маўчы, старая, бо і цябе прырэжу..."

У Магілёве трое старшакласнікаў у масках уляцелі ў кватэру, за нішто збілі і парэзалі старых людзей...

У Светлагорскім раёне п'яны падлетак згвалціў шасцігадовую дзяўчынку-інваліда...

У Гродне чацвёра старшакласнікаў замучылі, задушылі дашкольніка...

Крыўдна: у малекулу зазірнулі, а ў душу дзіцяці — не ўмеем, не жадаем і не хочам.

А сённяшняя агрэсіўная пацанва заўтра будзе ўпраўляць намі, няўжо не страшна, людзі?

## Гэта — Жабінкаўшчына

**Кожны куток Беларусі — па-свойму адметны. І багатай гісторыяй і знакамітымі людзьмі, якія ў розны час жылі тут. Для вясковага настаўніка А. Бензерука такім кутком з'яўляецца Жабінкаўскі раён, дзе ён, пасля заканчэння Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта, сее ў сэрцах вучняў "разумнае, добрае вечнае". А заадно — і плённа займаецца краязнаўчай работай, пра што апавядае ў карэспандэнцыях, артыкулах.**

**Нядаўна А. Бензярук стаў і аўтарам кніжкі "Наш край — Жабінкаўшчына". Каб гэтае выданне з'явілася, матэрыяльную падтрымку аказалі Жабінкаўскі раённы выканаўчы камітэт, калгасы "Усход" і імя Чапаева. Парупіліся, думаецца, аб добрай справе. Кніжка адрасавана школьнікам, а калі меней будзе ў грамадстве людзей, пазбаўленых нацыянальнага нігілізму і, наадварот, пабольшае тых, хто ведае пра ўласныя карані, лепш пойдуць і вытворчыя справы. Нездарма ж кажуць: не хлебам адзіным жыве чалавек. Калі ж развіць гэтую думку далей, дык хлеб духоўны і спрыяе жаданню лепш выявіць і праявіць свае здольнасці на карысць Радзімы.**

**На гэта і зарыентавана кніжка А. Бензерука. У ёй можна знайсці шмат фактаў, якія тычацца гісторыі Жабінкаўшчыны, пачынаючы са старажытных часоў. Кожны з раздзелаў — "Наш край", "Жабінкаўшчына гістарычная", "Пад скіпетрам Расійскай імперыі" — маюць найперш зарыентаванага чытача. Першы прапануецца вучням пятых—сёмых класаў, наступныя два — старшакласнікам. Акрамя таго, ёсць карты-схемы, "Слоўнічак незразумелых і забытых слоў", звесткі пра некаторыя вёскі раёна.**

**Н. К.**

## Дапаможнік па літаратуры

**—Якая яна, старажытная беларуская літаратура? На гэтае пытанне дае адказ кніга "Гісторыя беларускай літаратуры. Старажытны перыяд". Напісаная калектывам аўтараў у складзе М. Грынчыка, У. Калесніка, У. Кароткага і іншых, яна з'яўляецца вучэбным дапаможнікам, аднак уяўляе цікавасць не толькі для студэнтаў, каму ў першую чаргу адрасавана. Пацвярджэнне таму і нязменны попыт на яе. Нядаўна ў выдавецтве "Вышэйшая школа" пабачыла свет 4-е, стэрэатыпнае выданне гэтай "Гісторыі...". Папярэдняе ж, трэцяе, выйшла летась і хутка разышлося.**

**У кнізе прасочваецца шлях зараджэння, станаўлення і развіцця беларускай літаратуры ў XIV—XVIII стагоддзях, у асобных манаграфічных артыкулах разглядаецца дзейнасць Ф. Скарыны, М. Гусоўскага, С. Буднага, В. Цяпінскага, М. Сматрыцкага, А. Філіповіча, Сімяона Полацкага. Асобна даследуецца перакладная літаратура перыяду Старажытнай Русі.**

## Гістарычная мазаіка



**Вітольд Антонавіч Ермалёнак выкладае гісторыю ў Міёрскай сярэдняй школе N 3. І адначасова з захапленнем займаецца краязнаўствам, збіраючы па крупінках гісторыю Міёрскага раёна. У гэтым яму памагаюць юныя гісторыкі, яго вучні, сябры клуба "Арганаўты мінулага". Сіламі сяброў клуба і іх нястомнага настаўніка ў школе створаны свой краязнаўчы музей, дзе сабраны самыя розныя экспанаты ад рэліквій дагістарычнага перыяду да побытавых рэчаў, нумізматыкі пачатку нашага стагоддзя.**

**Вітольд Антонавіч, знаёмячы наведвальнікаў з экспанатамі, заўсёды расказвае і гісторыю іх з'яўлення ў музеі. Такіх гісторый сотні. І кожны новы экспанат прыадчыняе адзін з фрагментаў гістарычнай мазаікі Міёршчыны.**

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

УРАЖАННЕ

***Бываюць жа супадзенні! Адзін матэрыял пра паэзію Сяргея Грахоўскага ўжо чакаў сваёй чаргі, а тут і другі падаспеў — пра таго ж паэта, пра вечарыну з яго ўдзелам. І ў абодвух пра адну і тую ж кнігу светла згадваецца. Відаць, невыпадкова яна мае назву "Памяць": яе запомнілі... А што можа быць важней для творцы, чым факт "зваротнай сувязі", водгук ад Слова?..***

# Кругі жыцця

Я не мела і дваццаці, калі маці аднойчы падаравала мне зборнік Сяргея Грахоўскага "Памяць". Пры гэтым яна сказала: "Вучыся, як трэба пісаць".

Тады, прызнацца, я не ўспрыняла яе словы літаральна. Вершы Грахоўскага мне падаваліся залішне гладкімі, "складнымі". Паэт як быццам закалыхваў сябе і чытача мерным рытмам, пісалася яму — як, мабыць, і цяпер — надзіва лёгка. Можа, таму яго лірычныя прызнанні, пры ўсёй культуры радка, падчас здаваліся легкаважнымі. Тым не менш адзін з вершаў — пра душу, якую не ўзважыць і не вымераць, — мне запомніўся на ўсё жыццё.

Пад канец 80-ых, калі перамянілася грамадская атмасфера і павеяла свабодай, паэзія Грахоўскага, як і творчасць іншых пакутнікаў ГУЛАГа, набывае іншы змест і іншае гучанне. Тое, што было затоеным, схаваным у глыбіні душы, выплеснулася ў творах. Перажытага хапіла б на некалькі кніг і мо на ўсе літаратурныя жанры, сустракаліся выдатныя радкі, але празмерна "набітая" рука зноў яшчэ калі-нікалі грашыла шматслоўем і гладкапісам. Новы тэматычны і духоўны пласт відавочна ўваходзіў у супярэчнасць са звыклай стылістыкай і нязменным аптымізмам "вечнага юнака". Боль і напружанне прабіваліся, як крыніца праз гліну. І прабіліся-такі!

***Далёка агеньчык засвеціць,***
***У змроку сцяжынку знайду,***
***Не я, дык унукі і дзеці***
***Сваю перацерпяць бяду.***

*("Мой верасень")*

Тут ужо няма былога "маладнякоўскага" імпэту. Тут стрыманасць і годнасць чалавека, якому доля падаравала доўгае жыццё, а жыццё падаравала мудрасць. А мудрасць не бывае паказной і крыклівай.

***Хрыста распіналі адзін толькі раз,***
***А колькі ж разоў укрыжоўвалі нас?***

***Саджалі на кол і праклёны пісалі,***
***Вялі ў Курапаты, а мы ўваскрасалі.***

*("Маналог з таго свету")*

З верша ў верш у палымянскай (N 5) і лімаўскай 1997-га года нізках абыгрываецца адзін і той жа важны для аўтара вобраз: кругі жыцця, кругі пакутаў. А паколькі ў пакутах душа чысцее і загартоўваецца, то зусім натуральна з абвостранай пільнасцю ўзірацца ў пражытыя гады: ці ўсё здзейснена, ці так жыў?

***Стамлёная душа знямее,***
***Здалёк з дакорам паглядзіць,***
***Бо хто судзіць сябе не ўмее,***
***Не можа іншага судзіць.***

*("Самасуд")*

Тыя ж матывы знаходзім у іншых публікацыях мінулага года ("Беларусь", N 2):

***Пагубляў, параскідаў, растраціў,***
***Што знаходзіў, бярог і любіў...***

*("За туманам гадоў")*

# І слова, і лёс...

Яшчэ ў гады свайго першага нясмелага кахання я хадзіла па лесе і заваражана шаптала:

***Каб пісаліся вершы,***
***Трэба быць закаханым***
***У жанчыну, у неба,***
***У добрых людзей.***
***І ад шчасця заўсёды***
***Быць крышачку п'яным***
***І ніколі-ніколі***
***Не траціць надзей.***

Тады мне падарылі кніжку Сяргея Грахоўскага "Памяць", на вокладцы якой, сугучная майму ўзнёсламу настрою, красавалася мілае дзяўчо, з-пад рук яго рвалася ўвысь жыццё — зялёны парастак з трыма тонкімі кволымі лісточкамі... Паэтычны малюнак надзіва хораша перагукаўся з самімі вершамі. Яны дапамагалі ўзнімацца над нягодамі, перамагаць усе цяжкасці, мкнуцца, як гэты кволы парастак, да сваёй вышыні, да сонечных прастораў. А мне так не ставала гэтага! У той дзяўчыне-дзяўчынцы адчула я і сябе, і, горнучы кніжачку да грудзей, збягала ад тлуму, сядала дзе-небудзь пад сосенку на сонечным пагорку і чытала, чытала, чытала...

Гэта было першае ўдумлівае чытанне ў маім жыцці, першы ўскалых душы (маё дзяцінства было неспрыяльным для развіцця, для вучобы).

***Твайго святла***
***Ужо нішто не засціць;***
***Ты для мяне,***
***Як зорка на зямлі;***
***Таму з табой***
***У горы і ў няшчасці***
***Заўсёды мы***
***Шчаслівымі былі.***

І я хацела такога шчасця. І думала, хто ж ён — паэт Сяргей Грахоўскі?

Хацелася дапытацца: адкуль такая прага жыцця, адкуль такое сонца ў вершах, такая любоў да людзей, такое праменнае каханне? Наіўна пыталася, наіўна яшчэ думалася... А вершы тым часам пасяліліся, як у законнай кватэры, у маёй душы. Здзіўлена глядзелі на мяне ўжо многія — як быццам не пазнаючы сваю колішнюю "Марыйку"... Цяпер ужо я не была адзінокаю... Родная душа, як зорачка, свяціла мне здалёку, і я прыпадала да яе ў хвіліны гора-адчаю, шукаючы выйсця з безвыходнасці, шукаючы апоры-падтрымкі ў выпрабаваннях лёсу.

Калі я пераехала ўжо ў Мінск і мой старэйшы друг Васіль Вітка сказаў, што сябруе з Сяргеем Грахоўскім, я ад нечаканасці нават не знайшла што сказаць. І вось, убелены горкімі завеямі свайго нялёгкага жыцця, ён аднойчы ішоў мне насустрач. Свяціла яркае веснавое сонца, побач была Свіслач і дарога ў Дом літаратара. І я не стрымалася:

— Добры дзень, Сяргей Іванавіч!

Пасля тае сустрэчы я слухала яго не раз. Як заўсёды, хораша выступаў ён на вечарынах у Доме літаратара, прысвечаных або памяці таго ці іншага пісьменніка, або з нагоды нейчага юбілею. Заўсёды было сардэчным слова паэта. Пашчасціла чуць яго і ў літаратурнай гасцёўні Уладзіслава Галубка, дзе ён расказваў аб слынным артысце і драматургу, аб сустрэчах з ім. Слухала яго і на вечарыне, прысвечанай 80-годдзю з дня нараджэння Пімена Емяльянавіча Панчанкі. Чула выступленні паэта і па радыё, і па тэлебачанні — і заўсёды захаплялася і сілаю ягонага характару, і сілаю ягоных вершаў, ад якіх, нягледзячы на нялёгкія, часта невыносныя буравеі-нягоды, веяла мужнасцю, светлынёй, дабрынёй крылатай душы. Але нідзе, бадай, так хораша не адкрыўся паэт, як на нядаўняй вечарыне ў Доме літаратара, наладжанай паэтычным тэатрам аднаго акцёра "Зніч", яго нязменнай кіраўніцай артысткай Г. Дзягілевай.

Калі ён выйшаў на сцэну (пасля таго, як прачытала некалькі вершаў паэта сама Галіна Дзягілева) — замерла зала. Тут жа сабраліся толькі тыя, хто па-сапраўднаму любіць род-

СЯРОД КНІГ

# Ад вытокаў тэатра

У 1975 годзе ў выдавецтве "Вышэйшая школа", як вядома, выйшла "Хрэстаматыя па гісторыі беларускага тэатра і драматургіі". Гэты двухтомны дапаможнік, які склаў Анатоль Сабалеўскі, адразу знайшоў удзячнага чытача не толькі сярод студэнтаў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных тэатральных устаноў, студэнтаў філалагічных і ўвогуле гуманітарных факультэтаў, на якіх быў і разлічаны. Ён прыйшоўся даспадобы дзеячам прафесіянальнай і самадзейнай сцэны, спатрэбіўся аматарам драматычных гурткоў, усім, хто цікавіцца тэатрам, драматургіяй, нацыянальнай культурай. Цяпер гэтае выданне даўно стала бібліяграфічнай рэдкасцю. Акрамя таго, за час, што прайшоў з дня выхаду "Хрэстаматыі...", зроблена пераацэнка асобных момантаў у гісторыі літаратуры і, у прыватнасці, тэатра, вернуты з небыцця незаслужана забытыя імёны і творы. Да ўсяго ў літаратуру прыйшлі маладыя драматургі, а колішнія пачаткоўцы выраслі ў сталых майстроў.

Улічваючы гэтыя акалічнасці, А. Сабалеўскі падрыхтаваў другое, пашыранае і ўдакладненае выданне "Хрэстаматыі..." з улікам новага матэрыялу рукапіс заняў ужо тры тамы. Першы, як і ў папярэднім выпуску, ахоплівае прамежак ад вытокаў нацыянальнага тэатра да пачатку XX стагоддзя. У другім змяшчаюцца матэрыялы, якія тычацца 20—50-х гадоў. І, нарэшце, у трэці том увайшлі публікацыі ад 60-х гадоў і да нашага часу. За выпуск абноўленай "Хрэстаматыі..." узялося выдавецтва "Беларуская навука".

Нядаўна пабачыў свет першы том. У яго ўвайшлі матэрыялы, што дазваляюць прасачыць, з аднаго боку, шлях, пройдзены беларускім тэатрам, пакуль ён не стаў прафесіянальным, а з другога — змешчаны шматлікія тэксты (пераважна ва ўрыўках), якія сведчаць, што нацыянальная драматургія — той невычэрпны клад, адкуль нам заўсёды чэрпаць эстэтычнае задавальненне. Прыводзяцца і звесткі пра аўтараў. Друкуюцца і артыкулы (аўтары іх непасрэдныя ўдзельнікі падзей), што дапамагаюць адчуць атмасферу асобных культурных мерапрыемстваў — спектакляў, тэатральных вечароў і бліжэй пазнаёміцца з драматургамі ці выканаўцамі роляў, пастаноўшчыкамі.

Адкрывае том раздзел "Народныя вытокі тэатра. Абрады. Карагоды. Гульні", з якога відаць, што "элементы тэатральнага мастацтва можна знайсці ў самыя старажытныя часы; іх узнікненне адносіцца да перыяду, калі дзейнасць чалавека стала свядомай". Адпаведныя тэксты дапоўнены артыкуламі В. Гарбацэвіча "Вясельныя абрады", З. Бядулі "Драматычны элемент у жыцці і творчасці нашых продкаў", Я. Купалы "Святкаванне Купалы (Купалля) у Вільні".

У асобныя раздзелы вылучаны "Школьны тэатр", "Батлейка", "Народная драма", а гэта, як вядома, подступы да таго тэатра, які мы ведаем сёння. Гэтаксама, як і раздзелы "Драматургія і тэатр XVIII стагоддзя" (Мацей Радзівіл і яго "Агатка, або Прыезд пана"), "Драматургія і тэатр XIX стагоддзя" (Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, яго "Сялянка", "Пінская шляхта", "Залёты", а таксама згадкі А. Паўловіча "Сялянка" В. Дуніна-Марцінкевіча на мінскай сцэне").

Багаты раздзел "Драматургія і тэатр пачатку XX стагоддзя". Тут прадстаўлены Карусь Каганец ("У іншым шчасці няшчасце схавана", "Модны шляхцюк"), Янка Купала ("Адвечная песня", "Сон на кургане", "Паўлінка", "Раскіданае гняздо"), Якуб Колас ("Антось Лата"), Францішак Аляхновіч ("Чорт і Баба", "Няскончаная драма"), Леапольд Родзевіч ("Блуднікі", "Збянтэжаны Саўка"), Максім Гарэцкі ("Атрута", "Салдат і яго жонка"), Канстанцыя Буйло ("Кветка папараці", "Сягонняшнія і даўнейшыя").

Знайшлося месца матэрыялам, дзякуючы якім атрымліваеш уяўленне, як ладзілася тэатральнае жыццё ў той час, бліжэй знаёмішся і з самімі творцамі, і з асобнымі пастаноўкамі: "Колькі слоў аб беларускім тэатры і оперы" А. Бурбіса і яго ж "Першая беларуская вечарынка", "Наш тэатр" М. Гарэцкага, а таксама публікацыі, якія тычацца дзейнасці І. Буйніцкага.

**А. М.**

*Мне гэта ўсё не ў навіну,*
*Што сам сябе і лаю, і кляну.*
*("Прызнанне")*

І аўтар просіць адтэрміноўкі ў Бога — каб паспець "за ўсе пралікі разлічыцца". Паралельна ён як бы па інерцыі малюе аўтапартрэт гэткага сучаснага Донкіхота, які ганарыцца, што не лізаў нікому боты і ні перад кім не гнуўся ("Прызнанне"). Усё гэта, вядома, добра, але не для публічнай дэманстрацыі. Пафас заўсёды быў найпершым ворагам Сяргея Грахоўскага, мне бачыцца нават рэлятыўная сувязь: чым меней у паэта пафасу, тым болей Паэзіі.

Псіхалагічная тонкасць, паўтаны, мінорная інтанацыя — новае ў Грахоўскага. Гэта тое, чаму верыш безумоўна і што становіцца часткай твайго ўласнага душэўнага досведу.

***Усё за весняю паводкаю сплыло,***
***І ўжо не верыцца — было ці не было?***
***Трывожыць часам гул забытых сноў***
***І хісткасць нетрывалая асноў.***
***Хіснуўся ліхтара слабы прамень:***
***За першым ценем знік наступны цень.***
*("Тры цені")*

Паглыбляючыся ва ўнутраны свет, асэнсоўваючы выпрабаванні лёсу, паэт не траціць цікавасці да акаляючага свету. "Саксафаніст", напрыклад ("ЛіМ" за 15. 08. 97 г.), — гэта шчымлівы аповед пра вулічнага "заслужанага артыста", які "нарэшце атрымаў свабоду Іграць што хоча простаму народу". Паглядзіце, як сцісла і выразна, двума радкамі, паэт гаворыць пра ягоны "заробак":

***Адзначыліся сорак тры душы***
***У паношаным яго капелюшы.***

Уражвае замалёўка "Шаман", прысвечаная памяці Івана Ласкова, — дакладнасцю слова, уменнем некалькімі штрыхамі апісаць сцэну магічнага дзейства. Як зачараваныя, мы сочым за шаманам, які "чаруе танцам, бубнам, варажбой"...

У вершах гістарычнай тэматыкі ёсць удалыя перагукванні з сучаснасцю:

***Змяняўся час, мяняліся персоны***
***З каронамі і без кароны...***
*("Палае Рым")*

Абагулены партрэт прыслужнікаў таталітарнай улады дае верш "Часовыя".

Дзеля аб'ектыўнасці мушу зазначыць, што звычка да ўзнёслай рыторыкі па-ранейшаму не-не ды і праявіць сябе ("Прарок", "Сляды на зямлі", "Апантаны").

***Яго нязгаснае натхненне***
***Іскрыцца зоркай зноў і зноў,***
***Каб з пакалення ў пакаленне***
***Найбольш было такіх сыноў.***

Такога роду вершы няблага гучаць з трыбуны падчас якога-небудзь юбілею, але яны могуць належаць любому, хто навучыўся рыфмаваць. Аўтар не стаў бы крыўдзіцца, калі б у рэдакцыі яму параілі "адсеяць" той ці іншы верш.

У "Развітанні", якім заканчваецца палымянская падборка, паэт піша пра апошнюю містэрыю, якая была і будзе тайнай, загадкай і драмай чалавечага існавання:

***Балюча пакідаць свой родны край,***
***Зямлю, дзе навальніцы секлі,***
***Дзе тры чаргі адгараваў у пекле.***
***Дык хоць часова папрашуся ў рай.***

Думаецца, дзеля такіх чалавечых і паэтычных сведчанняў варта было і жыць, і пакутаваць.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

---

нае слова, хто шануе нашых пісьменнікаў, хто любіць беларускую літаратуру, хто сочыць за ёю.

— Я ніколі не быў шчаслівы... У сэнсе ўладкавання ў жыцці... Я ніколі лёгка не жыў... мне ніколі не было лёгка... З маленства галадаў... Неяк выбіўся, інстытут скончыў (педагагічны, які цяпер носіць імя Максіма Танка і лічыцца ўжо універсітэтам), стаў працаваць, і тут — узялі! У 23 гады схапілі як ворага народа. Перад тым пахапалі ўжо маіх сяброў... І ніяк не ўкладвалася ў галаве, што яны, нядаўнія шчырыя вяскоўцы, — ворагі! Што яны каму зрабілі? Але пакуль не даходзіла чарга да цябе — яшчэ не было разумення, што мы ўсе невінаватыя, што мы ўсе — ахвяры. У той час так нас патрыятычна выхоўвалі, што сапраўды, калі хапалі твайго ж шчырага суседа, дзівіўся: вось жа, глядзі ты, як умеў хаваць сваё нутро... Але вось дайшла чарга і да цябе... І я ішоў, аглядваўся на свае вокны. А там пагас агонь. Гэта маё жыццё пагасла... — сумна апавядаў Сяргей Іванавіч.

І трывожна, і пякуча слухалася далей:

— Двойчы інсцэніравалі расстрэл. Ставілі да сцяны. "Прызнавайся!" — каталі пад нацэленым на цябе ружжом. — А ў чым празнавацца? Днямі, суткамі, без сну, стоячы, без ежы... Каб выбіць з нас гэтыя праклятыя камусьці дужа патрэбныя "прызнанні"!

І шэрхла душа, і цяжка было паверыць вачам, што стаіць ён яшчэ перад намі, яго чытачамі і слухачамі, як разгалісты дуб, і пяе сваю песню аб жыцці, каб мы ведалі, што за гэтае жыццё трэба чапляцца, трэба змагацца за сябе ў ім...

— Нарэшце, прызналі, што невінаваты. "Дык адпусціце", — кажу. — "Э-э, не, сюды ёсць толькі ўваход, выхаду няма". Так год "пыталі". Затым — за Урал. І мая дзекабрыстка за мною. Яе не везлі цягнікі. Яна ішла, шукаючы мой след, за мною. Праз поле і лес. Праз горы. І дайшла. І я жыў у вечным страху за яе, за свайго дзіцёнка, за сваю сям'ю. Хату збудаваў там. Мой лепшы твор!..

І тут ён пачаў чытаць свой верш пра гэты дом. І слухачам ягоным хацелася таксама перанесціся ў той дом, на свае вочы ўбачыць яго, прытуліцца да тых сцен.

Я сядзела і плакала. Затым падышла. Падала яму дзве рукі — замест адной. І ён падаў мне таксама дзве — замест адной. І ўсміхнуўся — светла і сардэчна, і добрае слова сказаў...

Дарагі Сяргей Іванавіч! Сэрца не згаджаецца: "Гэта мой першы і апошні на такім узроўні вечар". Жывіце! Любіце! Слаўце жыццё і людзей! Прысвячайце ім цудоўныя радкі!

Такія, хаця б, як вось гэтыя:

***Мабыць, трэба было***
***Праваліцца ў пекла,***
***Траціць блізкіх, пакутаваць,***
***Мерзнуць, гарэць,***
***Ратавацца,***
***Каб лютая бура не ссекла,***
***Каб цябе***
***Пад Палярнаю зоркай***
***Сустрэць.***

**Марыя ПАНКОВА**

---

КНІГАРНЯ

# Нашы каралі, нашы дамы, нашы рыцары...

Каго здзівіш на айчынным Парнасе новым творам на гістарычную тэму? Яна проста наканавана сучасным беларускім культурнікам — гэтак жа, як альпіністам наканавана імкнуцца ў горы, а тым, каго вабяць лаўры першаадкрывальніка — у маладаследаваныя, цяжкапраходныя мясціны Зямлі.

Наша гісторыя — Terra incoqnita, цэлы кантынент, на карце якога хопіць месца многім і многім даследчыкам і белетрыстам. Аднак шлях у гісторыю Радзімы хаця і адзін для ўсіх — гістарычныя хронікі, летапісы, дакументы, тагачаснае мастацтва, — уражанні ў кожнага падарожнага, як высвятляецца, досыць адрозныя і суб'ектыўныя.

Гістарычныя мініяцюры аўтараў Ірыны Масляніцынай і Міколы Багадзяжа ацэньваюцца, скажам так, неадназначна. Гісторыкі лічаць іх недастаткова "гістарычнымі" і аб'ектыўнымі, літаратары — недастаткова мастацкімі. Толькі шараговы чытач, здаецца, ні ў чым не сумняваецца і з задавальненнем паглынае рамантычныя гісторыі пра рыцараў і іх дам, замкі і палацы, балі і дуэлі, вайсковыя подзвігі і прыдворныя інтрыгі, якіх, аказваецца, хапала і ў беларускай гісторыі. І вось на прылаўках сярод камерцыйнай літаратуры з'явілася прыгожа аформленая кніга выдавецтва "Трыоль" "Радзивиллы — несвижские короли", аўтары якой — вышэйзгаданыя Ірына Масляніцына і Мікола Багадзяж. Да кнігі адразу з'явіліся прэтэнзіі з боку спецыялістаў-гісторыкаў наконт недакладнага асвятлення фактаў. Ну а як літаратурны твор кнігу ніхто і ацэньваць не збіраецца — нібыта ж не мастацкая проза. Але — кніга ёсць, яна купляецца, чытаецца, пэўным чынам уплывае на фармаванне чытацкай свядомасці — бо ўжо ў самім выбары матэрыялу ўтрымліваецца numінатыўны, звышсвядомасны пачатак. Таму што гістарычны міф — гэта ёсць, згодна Карлу Густаву Юнгу, прыналежнасць калектыўнага падсвядомага. Адразу паўстае адна акалічнасць — дачыненні са стыхіяй падсвядомага заўсёды небяспечныя. Гістарычны міф, узняты з небыцця, не раз уплываў на гісторыю сапраўднасці (і ўплывае цяпер).

Але...

Не-міфалагізаванай гісторыі быць не можа. Аб'ектыўным можа быць хіба што пазбаўлены кантэксту афіцыйны дакумент. Урэшце, усе хронікі, летапісы, мемуары — не болей, чым міфы. І сучасны гісторык стварае свой міф на падставе ранейшага, і ланцуг гэты не перарвецца — хіба дзякуючы машыне часу. Таму, ствараючы прыгожыя казкі-міфы на падставе летапісных фактаў, спадары І. Масляніцына і М. Багадзяж не робяць і нічога новага (у плане формы і жанру), і нічога заганнага. Дзюма-бацька ўвогуле заяўляў, што нічога страшнага няма ў тым, каб задраць спадніцы Кліо (музы Гісторыі), абы яна апладнілася і нарадзіла жыццяздольнае дзіця. Вальтэр Скот, Дзюма-бацька, Генрык Сенкевіч, Фенімор Купер, Уладзімір Караткевіч зрабілі для нацыянальнай свядомасці сваіх народаў больш, чым дзесяткі і сотні доктарскіх дысертацый з выверанымі, дакументальна пацверджанымі, аб'ектыўнымі гістарычнымі фактамі і высновамі. Белетрызацыя гісторыі, стварэнне папулярных гістарычных міфаў — справа неабходная і карысная... Праўда, не часта нараджаюцца на свет Дзюма, Сенкевічы і Караткевічы...

Такім чынам, са спадаром Фактам мы разабраліся. Што ж тычыць белетрызацыі... Адзін з аўтараў, пра якіх сёння гаворка, — гісторык, другі — журналістка. Напэўна, іх назавуць сёння, у час агульнай дэвальвацыі званняў, без ценю сумневу і пісьменнікамі. Тое, што яны пішуць, чытаецца лёгка, нават з захапленнем — як і мусяць чытацца творы гэтага жанру. Аўтар прадмовы да "Радзивиллов — несвижских королей" доктар гістарычных навук, прафесар Г. Штыхаў адзначае гэтую асаблівасць стылю аўтараў: "Выбранаму жанру добра адпавядае мова твораў — лёгкі, не перанасычаны навуковымі і спецыяльнымі гістарычнымі тэрмінамі". Што тычыцца астатняга, то, відаць, выбраны гістарычны матэрыял валодае такой самадастатковасцю, што ад апавядальніка вымагае толькі таго ж, што каштоўны камень — ад ювеліра: далікатнай агранкі і прыгожай — нават не аправы, а падсветкі. Тут, мабыць, спрацоўвае зноў закон жанру — абы прыгожа. Можна той камень пакласці плямкай уніз, можна — цьмяны — падсвяціць паярчэй...

І — урэшце — якія могуць быць сумневы? Кніжка па беларускай гісторыі прадаецца як камерцыйная, г. зн. жаданая, цікавая шараговаму чытачу літаратура (чаму спрыяе і яе руская мова). Гісторыя нашай бацькаўшчыны паўстае рамантычнай рыцарскай казкай. І калі ў жорсткай рэальнасці і не было ўсё так прыгожа — чаму мы не павінны верыць у тое, што спрыяе нашай годнасці? Мусіць, наша нацыя, як няўпэўнены ў сабе, закамплексаваны чалавек, мае патрэбу ў псіхатэрапеўце, які б паўтараў: "Ты — смелы, ты — мужны, ты — багаты, ты — прыгожы, ты — моцны"...

Нашы жанчыны — самыя прыгожыя... Нашы рыцары — самыя рыцарскія... Нашы Радзівілы — самыя радзівілаўскія ў свеце.

З апошнім, прынамсі, не будзе спрачацца ніводзін у свеце педант-гісторык.

**Л.Ш.**

---

# Свет Дуніна-Марцінкевіча

Выдавецтва "Народная асвета" не ўпершыню выпускае альбомы-нарысы, прысвечаныя знакамітым беларускім пісьменнікам. І вось працяг гэтай добрай справы: напрыканцы мінулага года выйшаў яшчэ адзін — "Вінцэнт Якуб Дунін-Марцінкевіч", аўтарам-складальнікам якога з'яўляецца Уладзімір Содаль. Падзагаловак выдання "Жыццё і творчасць" вызначае яго абсягі: альбом-нарыс пабудаваны такім чынам, што ў чытача (найперш у вучняў і настаўнікаў) ёсць мажлівасць перагарнуць старонкі жыцця і творчасці аднаго з пачынальнікаў нацыянальнай літаратуры. І, як таго вымагае сам "жанр" падобных прац, вялікая ўвага нададзена ілюстрацыйнаму матэрыялу.

Адкрываецца альбом-нарыс агляднымартыкулам "Дудар беларускі", у якім У. Содаль спрабуе (і гэта яму ўдаецца) скандэнсавана, лаканічна вызначыць тое адметнае, што вылучала В. Дуніна-Марцінкевіча з шэрагу іншых творцаў, якія працавалі ў літаратуры разам з ім, альбо з'яўляліся яго папярэднікамі ці наступнікамі: "Так, у Марцінкевічу ўвесь час жылі нібы дзве асобы, два чалавекі. Адзін з іх — моцны, магутны, напорысты, неадступны, варты нашага захаплення. Ён настойлівы ў сваіх творчых парываннях, перадольвае ўсе перашкоды, якія чынілі яму афіцыйныя ўлады, цэнзура, паліцыя. Абыходзіць усе іхнія рагаткі, выдае, друкуе, ставіць, прапагандуе, абараняе... Пераапранаецца ў сялянскія строі, ходзіць у народ, сее антыўрадавыя ідэі, верыць у лепшыя часы..." Але ж быў і іншы Дунін-Марцінкевіч: "Доўгі час пра Марцінкевіча гаварылі: ліберал, сентыменталіст, дваранскі рэвалюцыянер і г.д.". У. Содаль гаворку вядзе пра "моцнага духам Марцінкевіча", але ён далёкі ад думкі прыглянцоўваць Дудара, таму са старонак выдання паўстае Дунін-Марцінкевіч не хрэстаматыйны, а такі, які ён быў на самай справе: у жыцці, у творчасці, ва ўзаемаадносінах з сябрамі і блізкімі, у спасціжэнні нацыянальнага характару.

Шэсць раздзелаў альбома-нарыса — шэсць прыступак у свет пісьменніка. Першая з іх — "Зямля бацькоў" — сцяжына ў краіну маленства песняра, пад Бабруйск, дзе калісь знаходзіўся фальварак Панюшкавічы, у якім і нарадзіўся ён. Ілюстрацыйны матэрыял падабраны адпаведным чынам: пейзажы тамашніх мясцін (вядома, у іх сучасным выглядзе) перамяжоўваюцца з малюнкамі, выкананымі ў мінулым стагоддзі, што дапамагаюць атрымаць дастаткова поўнае ўяўленне аб тагачасным вясковым жыцці. Тут жа — копіі асобных дакументаў. Тэкст падаецца так, каб выклікаць у школьнікаў жаданне стаць як бы актыўным і зацікаўленым удзельнікам гэтых уваходзін у свет таго, хто, у меру таленту і светапогляду, стаў выказнікам народных дум і спадзяванняў. Непасрэднасць гаворкі настройвае на адпаведны лад: "Непаўторная пара маленства! Усё наўкола ў гэтую пару невядомае, неспазнанае. Цікавая кніжка! Таямнічы прыдарожны крыж! Усё такое трапяткое, загадкавае. У пару Марцінкевічавага маленства крыжы-абярэгі ў Панюшкавічах стаялі пры выездзе з сядзібы на вёску Шчадкаў і пры мастку праз рачулку, якая мела назву Панюшкавічы. Менавіта яна і дала назоў слыннаму цяпер фальварку". І тут — малюнак Ф. Кастрэцкага "Крыж прыдарожны" (зроблены у XIX стагоддзі), які дзеці ўпрыгожваюць кветкамі. Лёгка ўявіць, што сярод іх мог быць і "паніч" Дунін-Марцінкевіч, які ў дзяцінстве выхоўваўся ў вясковым асяродку.

А клубок яго жыцця раскручваецца далей. У альбоме-нарысе з'яўляюцца чарговыя раздзелы: "Пецярбург, Вільня", "Мінск губернскі", "Люцінка", "Марцінкевічаў тэатр...". Кожны, у параўнанні з папярэднім, яшчэ больш ілюстраваны. Яно і ведама: пра гэтыя перыяды ў жыцці Дуніна-Марцінкевіча захавалася нямала матэрыялаў. Акрамя таго, выкарыстоўваюцца і здымкі з тагачасных выданняў, фота людзей з асяродка драматурга, прыводзяцца шматлікія ўрыўкі з яго твораў, змешчаны вокладкі ягоных кніг. І, канечне ж, У. Содаль па-ранейшаму выказвае сваё стаўленне да Дуніна-Марцінкевіча, даючы ацэнку здзейсненага ім. У гэтым сэнсе выйграе раздзел "Марцінкевічаў тэатр". Па сутнасці, атрымаўся літаратурна-крытычны артыкул, у якім разглядаюцца адметнасці драматургіі Дудара, расказваецца, як яго п'есы набывалі сцэнічнае ўвасабленне, згадваецца і пра тое, як вобраз самога Дуніна-Марцінкевіча натхняе новае пакаленне драматургаў — п'еса А. Асташонка "Камедыянт".

Нарэшце — "Тупальшчына"... Сказ пра апошняе прыстанішча Дуніна-Марцінкевіча. І ў гэтым жа раздзеле гаворка пра неўміручасць творчай спадчыны Дуніна-Марцінкевіча, які гарачы водгук знаходзіць яна ў сэрцах нашчадкаў. Развагі падмацаваны ілюстрацыйным матэрыялам.

Да месца і "Кароткі жыццяпіс Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча".

Адзінае, што выклікае засмучэнне,— невялікі наклад выдання (тры тысячы асобнікаў).

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

## Двойчы па... сто

**Кніжныя кірмашы, якія Беларуская асацыяцыя кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў рэгулярна праводзіць у Мінску ў Палацы моладзі, што знаходзіцца па Старавіленскім тракце, 41, палюбіліся многім. Тут заўсёды можна набыць неабходную літаратуру як беларускіх, так і замежных выдавецтваў. І, што самае галоўнае, значна танней, чым у крамах. Але ў час гэтых кірмашоў — няхай і не так рэгулярна, як хацелася б — наладжваюцца і прэзентацыі лепшых кніг, выпушчаных пэўнымі выдавецтвамі. Адна з такіх сустрэч прайшла ў мінулую суботу. Творчую справаздачу перад аматарамі кнігі трымала выдавецтва "Вышэйшая школа". Можна было пазнаёміцца з яго тэматычным планам на сёлетні год, а таксама сустрэцца з аўтарамі кнігі "100 писателей Великобритании" і навучальнага комплексу "Веселый английский". А паколькі заўсёды лепш, калі "сто" паўтараецца двойчы, дык наведвальнікі кірмашу з прыемнасцю даведаліся, што сёлета ў "Вышэйшай школе" выходзіць кніга "100 писателей США".**

## Шляхам Адама Міцкевіча

**У маёй бібліятэцы пачэснае месца заняла і гэтая невялічкая кніга на польскай мове "Шляхам Адама Міцкевіча па Беларусі". Яе аўтары — Зянон Скуза і Хрысціна Войда. Выйшла яна напрыканцы 1997 года, а фундавала выданне "Дапамога палякам на Усходзе" разам з Саюзам палякаў Беларусі.**

**Кніга складаецца з уступу Медарда Маслоўскага, дзвюх частак і з густам аформленай карты нашай краіны. Яна не абыходзіць і спрэчных пытанняў аб месцы нараджэння паэта.**

**Як вядома, выказваюцца меркаванні, што Адам Міцкевіч нарадзіўся ў Чамброве, у карчме Сапліцава (той Сапліцаў, які потым паэт ўвекавечыў у славутым "Пане Тадэвушы". Некаторыя сцвярджаюць, што нарадзіўся ў карчме ў Асаўцы (зараз былы населены пункт уваходзіць у межы Наваградка), у карчме Выгада, а найбольш дасведчаныя даследчыкі гавораць, што геній паэзіі прыйшоў у свет у Завоссі (адны меркаванні), ці ў Навагрудку (другія думкі). Пакуль дакументальных пацвярджэнняў не будзе, месца нараджэння нашага славутага земляка так і застанецца загадкай... У кнізе на 6-й і 7-й старонках ёсць і Завоссе ("Тут стаяў дом, дзе 24 снежня 1798 г. нарадзіўся вялікі паэт Адам Міцкевіч" — гэта надпіс на мемарыяльнай дошцы, якая на польскай мове з'явілася ў 1927 г. на помніку і была потым паўторана па-беларуску) і Выгода (Выгада. — М.М.) з ілюстрацыямі жылых пабудоў. Надпіс над здымкам даю на роднай мове: "Выгада — мяркуемае месца народзін А. Міцкевіча".**

**Ад сябе дадам: Выгада знаходзілася побач з вёскай Медзяневічы і ў некалькіх кіламетрах ад Завосся. Некалькі гадоў таму тут яшчэ жылі людзі, сёння ўсё вынішчана і разбурана, нават узламаны склеп, адкуль, як сведчаць паданні, выносілі белае віно і аблівалі ім немаўля Барбары Міцкевіч...**

**Канешне, гэта каштоўнае выданне і сапраўдны даведнік па ўсіх мясцінах Беларусі, дзе жыў, гасцяваў, адпачываў вялікі паэт. Ёсць у ім рамантычны партрэт Марылі Верашчакі (Путкамер), партрэты сяброў, паплечнікаў Адама Міцкевіча, нават здымак славутага валуна (Каменя Філарэтаў) у Карчаве.**

**Цудоўная папера, з густам пададзеная бібліяграфія — усё гэта гаворыць аб сапраўднай любві выдаўцоў да нашага земляка.**

**Міхась МАЛІНОЎСКІ**

## "Мастацтва", N I

**Нумар адкрываецца артыкулам В. Коўтун і В. Трыгубовіч "І музы, і творцы", змешчаным пад рубрыкай "Народазнаўства", які мае падзагаловак "Жаночае аблічча краіны". У раздзеле "Тэатр" выступаюць Л. Грамыка ("Напрыканцы фестывальнага сезона") і У. Мальцаў ("Марк Шагал - тэатральны мастак"). Раздзел "Музыка" аб'яднаў матэрыялы Н. Бунцэвіч "Студзеньскія мроі пра вясну", І. В'югінай "Жывапіс у гуках", Н. Міцуль "У рытме пошуку". Багаты раздзел "Выяўленчае мастацтва": "Час. Стыль. Вобраз" А. Атраховіч, "Філасофія кахання. Містэрыя душы і цела" Д. Мароза, "Двойчы забіты" Н. Васільевай, "Мы ж, мастакі, — рыцары" В. Салаўёва, "Пошукі мастакоўскай праўды" А. Мацієвіча. А ў раздзеле "Народнае мастацтва" можна прачытаць артыкулы Г. Багданавай "Сонца над Мядоцкім краем", В. Волах "Карункавыя ўзоры", Т. Валодзінай "І не страшны мароз". Сярод іншых матэрыялаў нумара — "Чалавек не можа не тварыць" У. Крукоўскага, "Культурныя каштоўнасці і культурнае паразуменне" М. Яніцкай, "Хроніка мастацкага жыцця"...**

ПАЭЗІЯ

Валянціна
АКСАК



# Прысак гарачай вясны

## Унія

*Ты глядзіш на мяне асуджальна,*
*Ісус —*
*я самотная ўся*
*ў асяродку суродных.*
*Мой грэх*
*ад сусветнай тугі*
*у Майсеевым праведным садзе*
*звыродцам нянаскім прарос*
*і рассеяўся буйна,*
*як дождж у прыпар Іллінскі,*
*калі жыта цнатліва кладзецца*
*пад засмяглы любошчамі*
*з жоўтай саломаю серп.*
*Лішнім складам і Ты*
*ў правідлова напісанай Кнізе*
*ў псалмаспеў дасканалы ўвайшоў.*
*Згук загінуў, бы ў мове,*
*выпаў з нотнага стану,*
*як знак,*
*праіграць які ў нас*
*не спадобіўся нат арганісты*
*правялебнага папы,*
*ды Няісны*
*падхапіў хтосьці згук той*
*і вынес*
*у назоў новай ноты*
*і чырвоную літару верша*
*ім распачаў,*
*і аксціў ім расліну найдзіўную,*
*што абаўе*
*дзвюх самотаў сумоўем*
*пасаджаны сад.*

## Лекцыя антычнасці

Багдану

*Ён сядзеў на лаўцы*
*ў тым самым скверы,*
*дзе за паўгадзіны*
*мусіў быць*
*недазволены мітынг,*
*сядзеў і слухаў*
*пра Саламонаву песню*
*і перлы шкляныя,*
*якія сыплюцца*
*перад шэрагам свінняў*
*у шэрых краплістых спяцоўках.*
*Сядзеў і слухаў.*
*Шчоўкаў*
*лічыльнік Хронаса*
*і пацеры Мары*
*сноўдалі па руцэ.*
*Ён сядзеў і слухаў*
*Базыля Сёмуху*
*і не пачуў,*
*як у кронах ясеня*
*знікла рэха,*
*якое заўсёды*
*ішло ад нараў*
*і ніколі —*
*ад нораў.*

## Менталітэт

*Калі над дрыгвою*
*заўецца дымок,*
*хтось тут уздрыгне,*
*а хтось загалосіць,*
*казку ўзгадаўшы пра тое,*
*як цмок*
*найпершых красуняў*
*у замак свой носіць.*
*Жанок упрыгожаць*
*у зрэб'е й рыззё,*
*дачок у каморы зачыняць*
*і сажай*
*аздобяць,*
*пазёр*
*адзін толькі выйдзе*
*і голасна скажа,*
*што казка старая*
*і новы ўжо знак*
*глядзець трэба ў дыме*
*над прорвай і багнай.*
*Аксцяцца:*
*няйначай, Пазняк...*
*цмок,*
*ён спрадвеку,*
*а гэты...*
*згінь,*
*марны!..*

## Чаканне

Барысу Пятровічу

*Ты прыйшоў і сказаў,*
*што гэтая ноч*
*мае быць*
*нам апошняй.*

*Словы такія пачуўшы,*
*шчакастая поўня*
*не ўшчарбілася*
*ў смутку знянацкім,*
*і пяшчотны раменьчык*
*не зашморгнуў*
*вузельчыкам бронхі,*
*нат цыкутная вогкасць*
*прад зяленівам зрэнак*
*бяссільнай была,*
*то чаго ўжо чакаць*
*ад скрыпучага здрадніка —*
*ложка?*
*Да Дзянніцы*
*напята маўчаў*
*гэты скрыгацень-збрыдзень-скугольнік.*

*Той, хто ведае,*
*як пакахаць*
*у прарочаны роспаччу момант,*
*нам пра гэта*
*не мог расказаць.*

## Шэры дзень

*Можа быць,*
*мне здасца шэрым дзень,*
*ты не вер тады*
*ў мае высновы:*
*проста мне на вочы набрыдзе*
*цень*
*ад карламарксавае сноўды.*

## Рэферэндум

*Слова згубіла водар,*
*думка згубіла згук,*
*на горлах ва ўсіх —*
*адэнома,*
*на сэрцах —*
*інфарктны струп,*
*а душы,*
*яны не ў вырай*
*памкнуліся назаўжды,*
*паклікаў іх*
*нечы вырак*
*ці выдых*
*туды,*
*дзе магчымы ўдых.*

●

*Калі цябе*
*перастане любіць*
*цёплае сонца,*
*твой цень прахалодны*
*я страчу.*
*О, як тады спёку*
*буду трываць*
*у пекле,*
*радзімай якое*
*звычайна завецца?!.*

●

*Ну, канечне,*
*галінкі са снегам,*
*шэрань ранішняй ліпы ў вакне*
*я не ўбачу ў падзеб'і*
*й кунега*
*твайго цела*
*мяне не ўвагне.*
*Там, канечне,*
*ўсё будзе іначай,*
*я не ведаю, як,*
*але тут*
*сучым лёс мой*
*і долю сабачай*
*хрысціць горшы,*
*чым я,*
*прастытут.*

●

*Не маю права памерці,*
*бо не збудавала храм,*
*у якім мяне*
*адспяваюць.*

ПРОЗА

— А гэту?

— Выкінь! — раззлавана адмахнуўся Саша. — Я ж табе казаў, ёсць указ: прымаюць піўныя і гарэлачныя. А 0,7 з закруткай толькі. А твая?

— Без...

— На сметнік яе.

— Каб ім у пячонках закручвалі! — пачынаў заводзіцца і я, адстаўляючы ўбок бутэльку 0,7, якіх, дарэчы, у мяне сабралася каля паўсотні і якія вось ужо больш як паўгода нідзе не прымалі.

Выкінуць на сметнік, як раіў Саша, — рука не падымалася; амаль жывыя грошы, раптам калі-небудзь і да іх дойдзе чарга. Хаця, праўду кажучы, быў нейкі ўказ, што бутэлькі 0,7 без закруткі прымацца болей зусім не будуць. Ды ці варта даваць гэтаму веры? За свае больш як чатыры дзесяткі гадоў жыцця таких указаў я паспеў начытацца і наслухацца — і пра камунізм... і пра самую цвёрдую ў свеце валюту... і пра кожнаму па кватэры, а кожнай па мужыку... і пра запушчаныя заводы і фабрыкі... і ўжо зусім апошняе: жыць будзем брыдка, бедна, але не доўга... — што ажно вушы пухнуць. У якой краіне жывём, спадарства?! Ха-ха!!!

Пункт шклатары быў зачынены.

Я злосна вылупіўся на Сашу. А той не менш здзіўлена глядзеў на замок. Мне падалося, што гэтую нечаканасць ён разыгрывае — такое ў яго не купіць! — і я ажно закіпеў, каб у лепшых пралетарскіх традыцыях выказаць яму ўсё, што думаю пра яго з гэтай нагоды. Але, нібы здагадаўшыся пра тое, Саша апярэдзіў мяне:

— Ё-маё! Ну дальбог жа быў адчынены, як ішоў да цябе. І людзей — амаль нікога...

Сказаў шчыра і вінавата неяк. Я паверыў і адразу ж гнеў змяніў на літасць. Бо што зробіш? Ну быў адчынены... ну зачынілі... ну замок павесілі... Падумаеш!

Ну ішоў, ну люк быў адчынены, ну нагу зламаў... Таксама мне дзіва! Не галаву ж скруціў. Але досыць. Гэта жарт, вядома, і не пра тое гамонка; пункт шклатары не працаваў, трэба было шукаць іншы.

— На Багдановіча, ці што? — выказаў прапанову Саша і зірнуў на мяне: як-ніяк — бутэлькі мае.

Кіўком гаспадара я даў згоду, але на ўсялякі выпадак выказаў сумненне:

— А раптам і там тое ж самае?

Саша ўпэўнена закруціў галавой:

— Не-е-е, там такога не бывае!

Ха! Не бывае?! У нас калі чаго не бывае, дык гэта толькі таго — што павінна быць. Наіўны. А наіўнаму, між іншым, вось-вось паўсотні грукне. Але зноў жа справа не ў гэтым. Трэба ісці. Дзве паўнюткія сумкі шклатары — адну з якіх мы неслі ўдвух, а другую, па чарзе перадаючы адзін аднаму з рук у рукі, — пацягнулі да прыпынку тралейбуса. Дарога слізкая, і ўсе нашы намаганні скіраваны на тое, каб носам ці якім іншым месцам не пацалаваць асфальт. І ўсё ж у нейкі момант мая правая нага нечакана слізганулася ўперад, за ёй імгненна туды ж выкінулася левая, і я... Не, дзякуй Богу, устаяў, ні на капейчыну — як казалі ў часы не зусім ужо і даўнія — не абяднінўшы наш залаты запас. Саша не прамінуў гэты эпізод сваёй увагай — бо каб змоўчаў, дык яго язык сверб згрыз бы, — даўшы яму, з яго пункта гледжання, сваю станоўчую характарыстыку:

— Ну-у-у, такога і карова на лёдзе не пакажа.

Што можа адказаць разумны чалавек на глупства? Правільна — я прамаўчаў. Бо калі так ужо свярбіць надта — хай задаволіцца...

Тралейбусны прыпынак кішэў людзьмі. Па-першае: пачынаўся "час пік", а па-другое — апошнім часам дрэнна стаў хадзіць грамадскі транспарт. Дзе ўжо тут упхнешся з такім аб'ёмістым грузам. Але ж два прыпынкі ісці — рукі паадрываеш, праклянеш усё на свеце і не захочаш таго свята...

— А мо на таксі? — прапанаваў я Сашу.

— Ведаеш, як гэта будзе называцца? — адразу ж зрэагаваў ён.

— Ну?

— Бізнес па-руску...

Я не зразумеў і ўтаропіўся на Сашу, чакаючы тлумачэння, і той не затрымаўся з ім:

— Гэта значыць, купіць скрынку віна, выпіць яго, тару здаць, а на атрыманыя грошы купіць бутэльку і выпіць яе.

Два тралейбусы прайшло, а нават і спробы не зрабілі, каб улезці: бітком у іх было. І глядзелі на нас варожа, быццам нешта ў некага мы збіраліся ўкрасці. Яно, вядома, кожны глядзіць як хоча: на тое і вочы Бог даў. Але ж ехаць трэба! І наш адчайны штурм трэцяга тралейбуса... ніякага выніку не прынёс, толькі мацюкі на нашы галовы сыпаліся з усіх бакоў. Усе яны, — хто быў у тралейбусе і хто лез туды, неаднойчы паспыталі на сваёй скуры такой радасці. Так што гарт у гэтым маюць пэўны. Толькі і мы не лыкам шытыя: за словам у кішэню не лезлі. Тым

# УКАЗ,

## альбо Ёга па-тутэйшаму

Анатоль ЖУК



АПАВЯДАННЕ

болей, што кроў з носа, а свайго дамагчыся трэба. Інакш самога сябе паважаць перастанеш; нельга парушаць традыцыю — гэта ж ледзь не здрада будзе...

І ўжо нашы позіркі былі злоснымі і нядобрымі, быццам нешта нашае збіраліся ў нас украсці. І ўсё ж чакаць нечага лепшага не даводзілася. Людзей на прыпынку прыбаўлялася, тралейбусы часцей хадзіць не сталі. І, амаль не згаворваючыся, мы падхапілі сумкі — і пёхам наперад! “Пешкі па-танкаваму!” — як казалі ў арміі (я служыў у танкавых часцях), калі мы пехатой з казармаў выпраўляліся ў раён вываду тэхнікі, што меўся на выпадак баявой трывогі. А гэта было кіламетраў дваццаць; зімой — па пояс у снезе, летам — у самую спякоту... І ўсё пры поўнай выкладцы. А гэта ледзь не пуд на плячах. Так што — гарт маем! А некалі набытае, хай не цалкам — а застаецца...

Саша маўчыць, сапе, ад напругі ажно нос пасінеў. Нос у яго з дзяцінства такі. Расказваў, што падмарозіў, як быў малым, і цяпер, калі трохі ніжэй нуля на вуліцы, ён у яго пачынае набываць колер выспяваючай слівы. Што ж, можа, яно і так (тут ужо я маю на ўвазе Сашаў расповед пра падмарозку). У кожнага з нас нешта сваё ў дзяцінстве недагледжанае. У Сашы нос, у мяне... А што ж у мяне? З носам нібы ўсё нармалёва, з вушамі таксама... Ага, руку быў зламаў! О, то была эпапея, і цяпер успомніць страшна!.. Вось і зараз гэты пералом даецца мне ў знакі. Рука ў мяне ад гэтага бутэлечнага цяжару такім болем азвалася, — ажно ў патыліцы пачало страляць. Маўчу, сціскаю зубы, з апошніх сіл цягну. Пот нават па вушах цячэ. І, Божа мой, нарэшце ўзнікае перад намі пункт шклатары: невялікі, амаль курыны дамок з аблезлай тынкоўкай. І аж сэрца зайшлося ад радасці, калі ўбачылі, што чарга... пяць чалавек: дзве акуратныя бабулькі, мужчына няпэўных гадоў з чырвонымі павекамі, маладая жанчына з пакамячаным прыпухлым тварам і сіняком пад левым вокам і хлопчык год сямі. Нават павітацца з імі захацелася. І я ўжо сапраўды збіраўся раскрыць рот, каб даць свой “Добры дзень”, як нас амаль агаломшыў голас прыёмшчыцы:

— У вас, мужчыны, я не прыму...

— Як гэта? — неяк недарэчна ўсклікнуў Саша; калі ён нечага не разумеў (а ў гэтай заяве прыёмшчыцы сапраўды было штось, мякка кажучы, ненармальнае), твар яго рабіўся разгубленым, па-дзіцячы безабаронным. Але гэта толькі на нейкі момант. Бо далей імгненна спрацоўвала яго жыццёвая хватка. Суха і коратка ляснула пытанне: — Чаму?

— Па качану! — нечакана ўзлавалася прыёмшчыца, адлічваючы грошы адной з бабулек.

Я прыгнечана маўчаў, зусім не чакаючы такога павароту.

— А вось я зараз твой качан аблуплю крыху, каб не надта барзела, — пагрозліва пасунуўся на прыёмшчыцу Саша.

Уся невялікая чарга спалохана падалася назад. І толькі мужчына з чырвонымі павекамі дрыжачым голасам папрасіў:

— Мальцы, не трэба, га, а то і ў нас не возьмуць...

Нешта сваё хацела ўставіць жанчына з сіняком пад вокам, але Саша яе перапыніў:

— Заткні ляпу, а то другой фарай засвеціш!..

Я бачыў, што Саша сапраўды завёўся не на жарт, і наўрад гэта была проста пагроза.

— Божа мой, Божа... - ледзь чутна прашаптала бабулька, што яшчэ не паспела здаць бутэлькі.

— А што гэта ты тут пеўнем усхадзіўся? На жонку дома кукарэкай! — нечакана моцным голасам гыркнула прыёмшчыца, на выгляд якой было не меней, як шэсцьдзесят гадоў. — Чым я табе заплачу? Сабой? Дык жа не возьмеш такой платы. А можа, фуфайкай гэтай зашмальцаванай?

— А ім чым? — не чакаючы такога павароту, пацішэў Саша, паказваючы на тых, хто стаяў наперадзе яго.

— Грашыма, сынок, грашыма, — нечакана мякка, нават па-добраму адказала прыёмшчыца.

— Ну дык і мы ж не на залатыя чырвонцы разлічваем, — дамагаўся свайго Саша.

— У вас колькі бутэлек? Цэлы воз, — спакойна тлумачыла прыёмшчыца, галоўным чынам звяртаючыся да Сашы, бо я ўсё гэтак жа стаяў моўчкі. — А ў іх — па тры-чатыры ў кожнага.

— А ў мяне дзве, — уставіў сваё спалоханае слова хлопчык.

— Ось бачыш, дзве! — зачапілася за яго прыёмшчыца. — Грошы не падвезлі, — тлумачыла яна. — Сваімі ім плачу, са свайго кашалька. А ваш воз мне, выбачайце, ніяк не выкупіць, — звяртаючыся да мяне з Сашам, гаварыла далей прыёмшчыца. — А калі ёсць якія прэтэнзіі, то яны, дальбог, не на мой адрас. Вунь! — І яна пальцам паказала ў столь. — Да таго смаргонскага акадэміка...

Ліха яго ведае, што там за выраз ляпіўся на нашых тварах, але, гледзячы на нас, прыёмшчыца нечакана прапанавала бадай зусім не горшы варыянт, які, на жаль, нам не падыходзіў:

— Ну давайце я вазьму ў вас бутэлькі, каб не цягацца з імі, а па грошы прыедзеце заўтра. Абяцалі падвезці...

— Дзякуем. У нас сёння... — спачатку замармытаў, потым бадай што бадзёра скончыў Саша: — Адным словам, нам няможна адкладваць... Выбачайце.

І нас зноў узяла ў свае абдымкі шэрая абыякавая вуліца. Бясконцы рух аўтамабіляў, мурашыная мітусня людзей на тратуары. Яны забягалі ў магазін, што стаяў насупраць, і, быццам выконваючы чыйсьці абавязковы ўказ, давалі па ім кругаля, тварамі зачараваных неандэртальцаў гледзячы на харчовыя вітрыны, і, нічога не набыўшы, беглі далей... Толькі было відаць, як у іх варушацца губы: малітву чытаюць ці што?..

Да наступнага пункта шклатары было пяць прыпынкаў. Тут ужо “пешкі па-танкаваму” — загнуцца можна, альбо, у лепшым выпадку, кілу нарваць. І ўсё ж мы былі пакуль спакойнымі, і нейкая апошняя ідыёцкая надзея нас не пакідала. Перабіраючы нагамі, што тыя коні ў стойле — холад браў сваё: як-ніяк, пачатак сакавіка толькі, — мы моўчкі тупалі з краю вуліцы, метраў за дваццаць ад шматлюднага прыпынку, немаведама чаго выглядаючы і на што спадзеючыся. Каб хто спытаў: чаго чакаеце, хлопцы, то самым дакладным быў бы адказ — Гадо! (Хто чытаў п’есу Бекета “У чаканні Гадо”, зразумее мяне.) Тупалі, тупалі і.. датупаліся! Тармазамі зарыпеў міліцэйскі “ўазік”, спыніўся каля нас. Хаця нічога мы не парушалі, ува мне нешта тузанулася. І ў гэты самы момант, калі пачалі адчыняцца дзверцы “ўазіка”, Саша з усіх ног рвануў па тратуары. З “уазіка” вываліліся два міліцыянты: адзін прыпусціўся за Сашам, другі падскочыў да мяне, пачаў закручваць за спіну маю руку. Я ачмурэў ад такой нечаканкі і нічога не петрыў. У першы момант нават ніякага супраціўлення не аказваў. І толькі калі ад болю ажно войкнуў, спачатку папрасіў: — Ты што, азвярэў? Баліць жа, адпусці...

— Маўчаць! — камандаваў міліцыянт, падцінаючы маю руку вышэй да галавы, ад чаго я ажно ў крук сагнуўся.

І разумеючы, што словамі тут не праймеш, бо, як кажуць, смажаным запахла, я амаль што інстынктыўна кароткім ударам нагі назад у нагу міліцыянту ніжэй калена (некалі трошкі займаўся каратэ) пасадзіў свайго насільніка на асфальт і вызваліўся.

Ажно завыў той ад болю. Ды ў наступны момант, пакуль я цёр выкручаны локаць, у мяне ў вачах пацямнела: удар дубінкай па бядры ледзь таксама не кінуў мяне на асфальт. Але я толькі на імгненне скурчыўся і адскочыў убок. Міліцыянт, накульгваючы, сунуўся на мяне, пагрозліва матляючы дубінкай...

Не ведаю, што магло б адбыцца далей, каб не натоўп, які ўзнік вакол нас; ён засвістаў, загалёкаў, і гэта спыніла міліцыянта. Выцягнуўшы шыю, ваўкаватым позіркам той пачаў азірацца, відаць, выглядваючы свайго напарніка. І калі нарэшце заўважыў — трымаючы Сашу пад руку, той вяртаўся назад, — зноў пачаў гаспадарыць.

— А ну разыдзіцеся! — накульгваючы, пайшоў ён кругам.

Тое ж самае рабіў і я, трымаючыся на адлегласці, каб зноў не паспытаць дубінкі.

— Вы чаго прычапіліся да хлопцаў?..

— Чым яны вам намазолілі, што кідаецеся на іх, як сабакі?..

— Бандзюкоў ідзіце лавіць!..

— Калі трэба, дык вас днём з агнём не знойдзеш! А тут... героі брахаць на свой хвост... — абараняючы мяне з Сашам, даваў волю сваім пачуццям натоўп.

— А вы ведаеце, хто яны?! — нечакана накінуўся на нашых абаронцаў міліцыянт, і яго голас сарваўся на фальцэт.

— Людзі! — адразу выгукнула некалькі галасоў.

— А вось зараз мы паглядзім, якія гэта людзі, — не здаваўся міліцыянт, і рашуча ступіў да нашых сумак. — Гэта чыё? — паказваючы на іх, глянуў ён на мяне.

— Наша, — адказаў я.

Падышоў Саша з міліцыянтам.

— Чыё наша? Дакладней! — напорыста дабіваўся міліцыянт.

— Маё, маё! — ледзь не залямантаваў я ад усёй гэтай бязглуздзіцы.

— Спакойна, спакойна! — упэўнена спыніў мяне міліцыянт. — Што ў іх?

Узнікла паўза: не хацелася на ўвесь свет выстаўляцца з бутэлькамі, яшчэ пазнае хто-небудзь... І на гэтай паўзе міліцыянт паўтарыў пытанне:

— Што ў іх?

— Крышталь! — апярэдзіў мяне Саша.

— Вас пакуль не пытаюцца! — абрэзаў міліцыянт Сашу, і яго вочы бліснулі нейкім ліхаманкавым агнём. І зноў звяртаючыся да мяне: — Адказвайце.

— Крышталь, — ледзь усміхнуўшыся, ціха пацвердзіў я.

— Крышталь! — радасна падхапіў міліцыянт, і пераможна зыркнуў на прыціхлы натоўп. — Цяпер зразумелі?..

Намёк быў даволі празрысты. Людзі маўчалі.

Міліцыянт зноў павярнуўся да мяне, спытаў — як стрэліў:

— Адкуль?

Разумеючы ўсю недарэчнасць сітуацыі, цяжка ўздыхнуўшы, я адказаў радком рускага паэта:

— Из дома, вестимо...

— З дому? — нядобра перахапіў міліцыянт, і зусім упэўнена вывеў: — Ведаем мы гэтыя дамы!

Ён рашуча нахіліўся над адной з сумак, расшпіліў замок, і... на яго твары адбілася такая гама пачуццяў, што я нават не ведаю, як тое апісаць. Хіба што наступным чынам: гэта быў твар дзіцяці, якому замест “снікерса” далі пластыліну; ледзь не слёзы стаялі ў вачах.

Натоўп грымнуў смехам. На адрас міліцыянта пасыпаліся ўпіклівыя жартачкі...

Колькі імгненняў міліцыянт як з думкамі збіраўся, потым выпрастаўся і, ні на кога не гледзячы, накульгваючы, рушыў да машыны. За ім пасунуўся яго напарнік.

— Адну хвіліначку, — спыніў я міліцыянтаў, апанаваны нечаканай думкай. — Дазвольце даведацца вашы прозвішчы і нумары вашых блях, даруйце, жэтонаў; так, здаецца, яны называюцца?

Па вачах міліцыянтаў было відаць, што сэнс маёй просьбы яны зразумелі, і ўсё ж “мой” міліцыянт, гледзячы сабе пад ногі, неахвотна пацікавіўся:

— Навошта?

— Скаргу будзем пісаць вашаму начальству, што нас пабілі задарма. Саша, — звярнуўся я да сябра, — цябе гэты біў? — і галавой кіўнуў на міліцыянта, які за ім бегаў.

— Ну, біць не біў, а руку крутнуў, што ажно зоркі ў вачах заскакалі...

— Ну вось... — і сам не ведаючы, што пад гэтым разумею, важка вымавіў я і для пэўнасці нават рукі ўбакі развёў. — Саша, запішы ў дваіх-траіх сведкаў прозвішчы і адрасы... Раптам да суда справа дойдзе... І, дарэчы, абавязкова зайду сёння ў паліклініку, здыму пабоі...

Сам не ведаю, адкуль папёрла з мяне такое нахабства, але спыніцца не мог: надта ж прывабнай падавалася думка, хоць і была ў ёй свая рызыка.

— А чаму вы ўцякалі? — неяк па-хлапечы — было ім гадоў па дваццаць пяць, не болей — падчапіў Сашу міліцыянт, што бегаў за ім.

— Па-першае, я не ўцякаў, а бег, — спакойна і зусім сур’ёзна адказаў Саша. — А па-другое, хіба бег ужо забаронены? Штосьці я не чытаў такога ўказа. Можа, новы які, яшчэ неапублікаваны — тады давядзіце да нас, будзем хадзіць толькі... А калі загадаюць — дык і на дыбачкі станем... на карачкі нават... поўзаць будзем...

Ужо парадзелы натоўп новымі кпінамі і смехам падтрымаў Сашу.

— Але ж вы мяне таксама ўдарылі, — неяк няўпэўнена паспрабаваў абараніцца міліцыянт, з якім давялося “высвятляць адносіны” мне.

— Божа, якое нахабства! Вы ж мне ледзь руку не зламалі! І калі я, пакаўзнуўшыся, выбрыкнуў нагой назад і выпадкова трапіў вам у нагу, то гэта вы называеце ўдарам?! — на ўсю сілу свайго таленту абурыўся я.

І, пэўна, не знаходзячы ніякіх іншых аргументаў у сваю абарону, міліцыянт назваў сваё прозвішча, нумар жэтона. Тое ж зрабіў і яго паплечнік. І поўнай нечаканасцю сталася, калі яны абодва, спачатку адзін, а потым другі, папрасілі прабачэння.

— А пісаць скаргу — гэта ваша права, — дадаў “мой” напаследак.

Яны ўжо сядалі ў аўтамабіль, і я нарэшце рашыўся.

— Адну хвілінachку! — ступіў я бліжэй да міліцыянтаў. — Ведаеце, хто былое ўспомніць, таму вока вон. Давайце дамовімся з вамі, мы нікуды ніякіх скаргаў пісаць не будзем, а вы падкіньце нас да Някрасава. Вы ж у той бок едзеце...

Хутчэй за ўсё, мой шчыры даверлівы тон паўплываў на іх, і, на нас не гледзячы, кіўкамі галавы яны далі згоду.

Вядома, мы рызыкавалі: а раптам замест Някрасава ды ў мянтоўку замятуць? А там ліха яго ведае, што можа стацца... Бо мая бравада наконт скаргі — не болей як понт. І нібыта запісаныя прозвішчы і адрасы, на выпадак суда, — усё лухта. Тым болей, што натоўп, выканаўшы сваю “абарончую місію” і задаволіўшы цікавасць, амаль увесь растварыўся... І ўсё ж мы рашыліся...

Усю дарогу ехалі моўчкі. Напрыканцы — даехалі, дзякаваць Богу! — міліцыянт, што бегаў за Сашам, нечакана сказаў:

— Казку пра пастуха, які авечак пасвіў, памятаеце?

— Нешта з галавы вылецела, — крыху здзіўлены пытаннем, адказаў я, спрабуючы сапраўды ўспомніць такую.

— Авечак пастух пасвіў, сумна яму стала і, каб развесяліцца, закрычаў: ваўкі, ваўкі! Прыбеглі людзі, бачаць — жарт, разышліся. Праз нейкі час ён зноў закрычаў: ваўкі, ваўкі! І зноў прыбеглі людзі і, гледзячы, што і гэты раз іх таксама падманулі, разышліся. А тут і сапраўды ваўкі наляцелі. Закрычаў пастух, а з людзей ніхто і вокам не павёў, падумаўшы, што той жартуе. Што адбылося з авечкамі — можаце самі ўявіць...

І, пакінуўшы за сабой аблачынку сіняватага дыму, “уазік” пакаціў далей.

— Ты глядзі, яны яшчэ казкі чытаюць! Ну зразумела: позна галоўку трымаць пачалі, і, вядома, развіццё познім атрымалася, — і тут не ўтрымаў свой язык Саша.

— Затое твая галоўка ў цябе на шыі рана трымацца пачала. І, можа, прырода дарэмна гэтак старанна аб тым паклапацілася, — з той жа доляй сарказму падчапіў я Сашу. — А вось казкі перачытваць табе б не перашкодзіла часам.

Саша толькі чмыхнуў штосьці ў адказ.

Пункт шклатары працаваў. Але ж чарга! Яе змяіны хвост вывальваўся далёка з дзвярэй, і мы яшчэ адным звяном прыляпіліся да гэтай бессмяротнай пачвары нашага быцця. І амаль адразу ж да нас павярнулася жанчына, якая стаяла перад намі.

— Мы, відаць, дарэмна марнуем час, — сказала яна ціхім роўным голасам.

— Не зразумеў... — наструніўся Саша.

— Яны сёння да семнаццаці трыццаці працуюць. Скарочаны дзень.

Саша завыў:

— Чаму?!

— Указ быў... А зараз семнаццаць. Паўгадзіны засталося. А чарга, бачыце, якая.

Ну, чаргу мы прыкмецілі: тут і гадзінай не абмыешся.

— А вы, у такім выпадку, чаго стаіце? — здзіўлена, як на вар’ятку, утаропіўся на жанчыну Саша.

— Прывыкла... — паціснула плячыма жанчына.

(Працяг на стар. 14—15)

## Сямейная выстава

**Светлагорская карцінная галерэя "Традыцыя" імя Г. Пранішнікава упершыню наладзіла сямейную выставу. На гэты раз экспазіцыю склалі творы заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Мікалая Казакевіча і яго сыноў — Уладзіміра і Дзмітрыя. Больш за 30 пейзажных, партрэтных, жанравых карцін даюць пэўнае ўяўленне аб творчых асаблівасцях гэтых мастакоў.**

**Мікалай Канстанцінавіч — сапраўдны лірык пейзажу. Літаральна ўсе яго творы прасякнуты светлым, радасным адчуваннем. Гэты лірызм застаецца відавочным і пры безумоўнай схільнасці мастака да пэўнай дэкаратыўнасці, абагульненасці. М. Казакевіч пры ўсёй разнастайнасці вобразна-пластычных рашэнняў вельмі пазнавальны. Адзіная паэтычная стылістыка, чысціня, яснасць, натуральнасць. Яго пейзажы — незвычайная рэальнасць. Мастацтвазнаўца Л. Салавей вельмі дакладна вызначыла прынцып яго каларыту: падабенства і супрацьпастаўленне. Што ж, калі ўлічыць, што ён свядома арыентаваўся на такіх мастакоў, як Бялыніцкі-Біруля, Куінджы, Іваноў, Каровін, то і гэта вынікае вельмі натуральна. Зрэшты, М. Казакевіча зараз не зблытаеш ні з кім. Хаця нават на ўрачыстым адкрыцці выставы прыгадвалася, што менавіта ён разам з Д. Алейнікам і Р. Ландарскім, які дарэчы, прымаў удзел у гэтай падзеі, стварыў гомельскую школу жывапісу. І ўсё ж, кожны мастак творыць па-свойму, піша ўласны лёс. У М. Казакевіча ён адметны і шчаслівы.**



**Так, шчаслівы, насуперак усім жыццёвым абставінам. Нарадзіўся мастак у вёсцы Дулебы Мінскай вобласці. Вайна адняла бацьку і маці. Засталося шасцёра дзяцей, якія шукалі паратунку ў партызанскім атрадзе. Потым — дзіцячы дом, усведамленне свайго мастацкага таленту, вучоба ў Мінскім мастацкім вучылішчы, у Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Мікалай Канстанцінавіч і сёння з удзячнасцю прыгадвае сваіх настаўнікаў, сярод якіх і В. Цвірка. Прыцішаная, лірычная танальнасць яго творчасці яскрава праявілася ў такіх творах, як "Юнацтва", "Над роднымі прасторамі". Яна знайшла сваё ўвасабленне і ў шматлікіх пейзажных карцінах, прадстаўленых на гэтай выставе. Спрадвечнае — вада рэк і азёр, лясы, гаі, воблакі — і канкрэтныя пазнавальныя мясціны нашай роднай Беларусі, часцей за ўсё Гомельшчыны. Святочнасцю раздолля краявідаў вызначаюцца карціны: "Крывое", "Вечар", "Горад над Сожам", "Блакітны красавік", "Апошні прамень", "Восеньскія карункі". Ведаю, што Мікалай Канстанцінавіч працуе зараз над цыклам пейзажных работ, прысвечаных Гомелю. Некаторыя з іх трапілі на нашую выставу. Гэта "Зіма ў парку", "Сож. Вялікая вада".**

**З удзячнасцю гаварылі пра выдатнага майстра ў час адкрыцця выставы не толькі Р. Ландарскі, але і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Э. Агуновіч, першы намеснік старшыні гарадскога выканаўчага камітэта У. Патупчык і іншыя.**

**Але калі Мікалай Канстанцінавіч паказваў ужо свае творы ў многіх краінах свету, то для яго сыноў (асабліва для Уладзіміра), які таксама быў нашым госцем, гэта своеасаблівы дэбют. І, безумоўна, удалы. Нават побач з бацькоўскімі творамі яго карціны глядзяцца па-сапраўднаму незалежна і пераканаўча. Уладзімір аддае перавагу шматслаёваму, больш цьмянаму каларыту, імкнучыся захаваць пры гэтым усё багацце каляровых адценняў. Варта паглядзець на яго творы "Адліга", "Навальніца", "Начны дазорны", каб пераканацца ў тым, што ён вырашае, перш за ўсё, чыста жывапісныя задачы. Для Уладзіміра Казакевіча жывапіс ужо сам па сабе — тэма. "Мы з бацькам розныя па стылі, але блізкія ці нават аднолькавыя па духу", — сказаў ён, тлумачачы сваю творчую пазіцыю.**

**Таленавіта напісаны і прадстаўленыя на выставе акварэльныя творы Дзмітрыя Казакевіча.**

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

*На здымку: удзячныя наведвальнікі сямейнай выставы.*

*Фота В. СТРЫБУКА*

МУЗЫКА

# Сяргей Багданаў, прадзюсер і летуценнік

***Чытачы "ЛіМа" ўжо ведаюць, што ў ЗША выйшаў альбом "Музыка Усходняй Еўропы", складзены з трох кампактдыскаў, на адным з якіх прадстаўлена Беларусь (творы ў выкананні мужчынскага камернага хору "Унія" і ў выкананні ансамбля "Ліцвіны"). З мінскім прадзюсерам гэтага маштабнага міжнароднага праекта Сяргеем БАГДАНАВЫМ наша размова.***

**— Раскрыйце, калі ласка, сакрэт: якім чынам амерыканская фірма, рыхтуючыся выдаць гэтую зборку музыкі краін Усходняй Еўропы, выйшла менавіта на вас?**

— Усё адбылося нечакана для мяне самога. Аказваецца, рыхтуючы гэты музычны праект, амерыканская фірма звярнулася па матэрыялы ва ўсе краіны, якія меліся прадставіць. Адпаведныя прапановы, наколькі я ведаю, паступілі па факсе і ў афіцыйныя ўстановы Беларусі: на радыё, тэлебачанне, у Міністэрства культуры. Гэтыя прапановы-запыты засталіся без адказу. Час ішоў, амерыканцы мусілі здаваць падрыхтаваныя матэрыялы ў вытворчасць, а ў зборцы "Музыкі Усходняй Еўропы" не хапала... Беларусі. Яны звязаліся з чалавекам, які вядзе ў Інтэрнэце беларускую старонку на тэмы турызму і культуры. Чалавек гэты — наш беларускі фізік, зараз працуе ў ЗША. Ён ведае мяне як гукарэжысёра, які асвоіў тэхніку лічбавага запісу. Звярнуўся з просьбай выручыць, бо "афіцыйная" Беларусь маўчыць, падводзіць.

На ўсе справы ў мяне было тры дні: з рэпертуару калектываў, з якімі даводзілася супрацоўнічаць у студыі, падабраць музыку розных жанравых напрамкаў, але характэрную менавіта для Беларусі; зрабіць дасканалыя запісы з наяўных стужак; сабраць фотаздымкі, тэксты для буклета; знайсці перакладчыка... Усё рабілася ў неверагодна хуткім тэмпе, адсылалася па частках. Гэта было летам. А пад восень мне паведамілі, што альбом выйшаў у свет. Праўда, мы атрымалі яго зусім нядаўна: праблемы з перасылкай.

**— Ці дазналіся ўрэшце, што гэта за фірма, якая зладкавала такі унікальны праект?**

— Як ні дзіўна, я і не дазнаваўся: лічыў сваім абавязкам зрабіць справу — хутка, на дастойным узроўні. Выканаў сяброўскую просьбу. Назавём гэта своеасаблівай "гуманітарнай акцыяй". Галоўнае, што за зробленае не сорамна: маю працу ўхвалілі, з дасланых допісаў выбралі, як вядома, два калектывы: "Унію" ды "Ліцвіноў". Гэта, падкрэслю, не мой суб'ектыўны выбар, а — густ заказчыка. У кожным разе, за Беларусь не сорамна.

Атрымаўшы доўгачаканую каробачку, у якой тры дыскі ды досыць ёмісты буклет, уважліва ўсё вывучыўшы, я магу толькі сказаць, што прадзюсер гэтага дабрачыннага праекта — спадарыня Мішэль Шапіра, што капіраваць, публікаваць і распаўсюджваць матэрыялы зборкі забараняецца, што на вокладках стаіць фірмовы знак: "Ellipsis arts". Цікава, што не так даўно я атрымаў факс з ЗША ўжо ад іншага прадзюсера. Ён, аказваецца, азнаёміўся з "Музыкай Усходняй Еўропы" і ўпадабаў маю працу як гукарэжысёра. Таму прапануе дзелавое знаёмства, цікавіцца інфармацыяй пра беларускую музыку — найперш, як пішa, этнічную, а таксама акадэмічную сучасную.

**— Сяргей, колькі гадоў таму "ЛіМ" прадстаўляў вас чытачам як кампазітара, спецыяліста ў сферы электроннай музыкі. Вас таксама ведаюць як дырыжора, як аранжыроўшчыка, як педагога. Яшчэ адна прафесія — гукарэжысёр. А цяпер да ўсяго — і прадзюсер...**

— Жыццё вымушае займацца розным. Як музыкант навучыўся многаму. Супрацоўнічаю па запрашэнні з рознымі фірмамі як гукарэжысёр, як кампазітар, як рэдактар нотных тэкстаў. Асноўная сталая праца — галоўны дырыжор эстраднага аркестра Беларускага таварыства інвалідаў па зроку. У клопатах пра хлеб надзённы — і сярод музыкантаў я тут не арыгінальны — менш займаешся асабістымі творчымі праектамі. А яны ёсць.

**— Многія творчыя праекты не спраўджваюцца па самых розных прычынах. Як сказаў класік, драматычныя жыццёвыя ўзрушэнні не могуць нашкодзіць мастаку, а вось штодзённыя дробныя клопаты забіваюць творчасць. Вядома, будзённыя марнасці не спрыяюць нараджэнню музыкі. А калі яна пішацца, паўстае чарада нятворчых пытанняў: хто, дзе і ці хутка яе выканае; дзе і як яе запісаць; ці ўдасца выдаць ноты? Сёй-той з беларускіх выканаўцаў, павандраваўшы з гастролямі па замежжы, бывае, прывозіць кампактдыск, зроблены "дзесьці там". І калі з дазволу іншаземнага прадзюсера ў лік запісаў патрапіць твор беларускага аўтара — гэта ўжо свята! Хаця... Смуткаваць трэба з-за такога становішча нашай музыкі.**

— Дый нічога асаблівага нашы гастралёры не прывозяць, папрацаваўшы з замежнымі фірмамі. Бачыў я, напрыклад, кампакт Камернага аркестра каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі, калектыву знакамітага. Гэта й сапраўды зроблена "дзесьці там". Бо напісана: "выпушчана ў Еўропе". І ніякіх зыходных звестак. Гэта проста "пірацкая" прадукцыя. На жаль, не давялося праслухаць і ацаніць якасць запісу. А паводле паліграфіі гэта непараўнальна ніжэй за ўзровень нашай беларускай друкаванай прадукцыі. І нідзе нават не пазначана, з дапамогай якой тэхнікі зроблены сам запіс, калі, кім. Даруйце, але гэтак можна выпусціць усё, што заўгодна, растыражаваўшы на кампактах.

**— Такую паслугу сёння ўжо нібыта можа зрабіць Белтэлерадыё, але кампазітары не спяшаюцца замаўляць заказы, бо ўзровень запісу так званай балванкі для будучага**



**дыска нездавальняючы. "Ачышчаны" варыянт вымагае дадатковай працы.**

— Зразумела, дзяржава выдаткавала немалыя грошы, каб набыць лічбавую тэхніку для студыі Белтэлерадыё. Не ведаю, хто займаўся камплектацыяй новай апаратуры, што стаіць на БТ, але зрабіў ён гэтую справу, на маю думку, некампетэнтна. Параўноўваю з нашай студыяй, пры таварыстве інва-

КІНО

# Прадчуванне "новай хвалі"

***На студзеньскай вечарыне кінаклуба "Наша кіно" дэманстраваліся кароткаметражныя фільмы маладых беларускіх рэжысёраў. Пустая зала Саюза кінематаграфістаў здзівіла мяне, няўжо працы вучняў В. Турава не імкнуцца заўважыць? Памятаю, як на кінафестывалі "Лістапад-97" нават прафесійнае журы праігнаравала праграму студэнцкіх прац (потым гучалі рэплікі накшталт "а калі гэта было?!"). Праігнаравала на карысць дэбютнай карціне Г. Сукачова "Крызіс сярэдняга ўзросту", ды балабанаўскага "Брата". Разумею, што дэбют розніцца ад дэбюту: калі беларускія фільмы ў непрэстыжным "Цэнтральным" глядзелі самі стваральнікі, дык карціны Сукачова і Балабанава праз гадзіну ўжо мелі аншлаг...***

Яшчэ Ф. Феліні ды І. Бергман спрабавалі глядзець на свет вачыма сваіх герояў — дзяцей. Традыцыю майстроў сусветнага кінематографа падхапіў малады беларускі рэжысёр Андрэй Кудзіненка. У яго чорна-белай трылогіі, якую склалі кароткаметражныя фільмы "Сэрца Ягоркі", "Жарцік" і "Гульня ў хованкі" свет таксама назіраюць дзеці. Цікава: трылогія Кудзіненкі нагадала мне гісторыю кінематографа. Першы фільм рэжысёра — нямы. Маленькі Ягорка (А. Колбышаў) бяжыць па вуліцах горада з паветраным шарам у руцэ (сюжэт А. Ламарыса). Трымаць яго — ужо радасць для хлапчука (метафара: шар — сэрца — жыццё). Шарык утрымаўся ў далоньцы нават пасля хуліганаў на веласіпедах, ды ад галінкі ля школы адвязаўся і паляцеў. Дзіця не будзе доўга сумаваць: замест аднаго шарыка, аднаго "сэрца", Ягорку з неба падаравана шмат іншых шароў-сэрцаў. Забарона бессардэчнасці...

Другая і трэцяя карціны Кудзіненкі ўжо гукавыя. "Жарцік" зроблены па матывах прозы Ф. Салагуба. Дзяўчынка выпадкова б'е парцэлянавы кубак свайго апекуна. Той, раззлаваўшыся, прыдумвае жарцік пра чарвяка, які нібыта запаўзае ў нутро чалавека і адтуль згрызае яго. Ідыёцкая выдумка ператвараецца ў страшэннае пакаранне: дзяўчынка ўвесь час адчувае чарвяка ўсярэдзіне. Трэба адзначыць, што ўжо ў другой стужцы Кудзіненкі адчуваеш элементы псіхалагізму і напружанасці. Калі "Сэрца Ягоркі" толькі цытата з фільма Ламарыса "Чырвоны шар", то "Жарцік" — гэта ўжо аўтарскае назіранне за паводзінамі людзей. Дзяўчынка — мілая, жыццярадасная, нечакана сутыкаецца з непаразуменнем і бессардэчнасцю блізкіх: ім спадабаўся жарцік пра чарвяка! Гэта дапамагае зразумець ёмістая дэталь, агідны твар апекуна, які з асалодай паядае макароны. Аднак рэжысёр не пакідае сваю гераіню ў стане безвыходнасці...

Апошні фільм А. Кудзіненкі, "Гульня ў хованкі", самы доўгі па часе (26 хвілін) і самы, на мой погляд, цікавы. "Гульня ў хованкі" — гэта перш за ўсё сюжэтная гульня з часам. Хлопчык хаваецца ад пераследаў у старым доме. Пакуль брытагаловыя падлеткі шукаюць яго (дзеці рэдка ўспрымаюць аднагодкаў, якія адрозніваюцца ад іх), ён знаходзіць рэчы пачатку XX стагоддзя: часопісы, фотаздымкі ды лялечнага блазна. Нечакана чуюцца галасы — матэрыялізуюцца былыя жыхары дома: бацькі, дзеці, нянька. Тыя самыя дзіцячыя радасці — лялька "плясун" ды гульня ў хованкі, тыя самыя праблемы дарослых — непаразуменне бацькоў. Наіўны маленькі Косцік упэўнены, што бацькі сварацца з-за яго, ноччу ён гуляў у хованкі з Каціш. Пік напружанасці, —дзіцячая і дарослая трагедыі пераплятаюцца, калі дзіця, як той лялечны блазан, непатрэбна нікому. Аднак хутка галасы заціхаюць і знікаюць цені. Знікаюць так хутка, як след на стале ад кубачка з кіпнем у фільме А. Таркоўскага "Люстэрка" — сімвал імгненнага ўваскрэсення мінулага ў часе будучым...

Андрэй Кудзіненка апынуўся ў рэжысуры дзякуючы любові да чытання. Пасля школы вучыўся ў Кіеўскім політэхнічным інстытуце. Сёлета заканчвае Беларускую акадэмію мастацтваў. Перспектыў мала: няма грошай, добрых сцэнарыяў. Ёсць творчы саюз з аператарам Ларысай Кабернік (якая таксама ўжо паспрабавала сябе як рэжысёр) і мастаком Наталляй Навоенкай. Кароткаметражкі Кудзіненкі —

лідаў па зроку: яна ўкамплектавана больш рацыянальна, больш сучасна і адносна танна. А зрэшты... Важна не столькі тое, як абсталявана студыя, колькі тое, хто ў ёй працуе. Можна купляць найноўшую тэхніку, але гэта не паўплывае на канчатковы вынік працы, калі за гукарэжысёрскім пультам будуць сядзець "учарашнія" людзі, не навучаныя, як з гэтай тэхнікай "размаўляць", без уяўлення пра тое, якіх эфектаў, якой якасці можна з яе дапамогаю дасягнуць, якая кнопка за што "адказвае".

**— Практычна ўсе навінкі камернай, сімфанічнай музыкі, новыя праграмы дзяржаўных калектываў, салістаў запісваюцца на дзяржаўным радыё. Выпуск, на дзяржаўным узроўні, аўдыёкасет і кампактдыскаў так і застаецца праблемай. Няўжо кампазітарам і выканаўцам давядзецца вырашаць гэтую праблему за ўласным кошт з дапамогаю недзяржаўных фірмаў? Можа, тыражаванне набыткаў беларускай музыкі — справа ўвогуле не дзяржаўная, а... асабістая праблема творцаў ды выканаўцаў?**

— Я лічу, Беларусь мусіць мець адпаведную дзяржаўную ўстанову. Абавязкова! І я зусім дакладна ўяўляю сабе, якая мае быць структура. Калі б кіраўніцтва краіны зарыентавала на гэта сваю ўвагу і, вядома ж, капіталаўкладанні, Беларусь магла б у хуткім часе заваяваць сур'ёзную ўвагу ў свеце — як дзяржава, у якой умеюць культурна і разумна распараджацца багаццем.

**— О, у вас ёсць вялікая ідэя?**

— Ёсць вельмі простая і ўрэшце прыбытковая ідэя, калі яе не змарнаваць. Я мяркую, што застарэлыя праблемы тыражавання, захавання, распаўсюджвання, прапаганды беларускай музыкі можна вырашыць, стварыўшы студыйна-выдавецкі комплекс. Ні ў якім разе не дамагацца асобнага існавання студыі гуказапісу, асобна — нотнага выдавецтва! Усё павінна існаваць і дзейнічаць у комплексе. Беларусь пазбаўляе сябе шанцу стварыць такую структуру на базе ўсім вядомага Палаца рэспублікі: агромністае памяшканне ўжо "распісана", вызначаны, наколькі мне вядома, і кірунак працы студыі гуказапісу, абсталяванай там рыштункам... 1988 года! А можна было б зраіць сапраўдны сучасны музычны цэнтр, у якім бы ажыццяўляліся высакакласныя, на ўзроўні сусветных патрабаванняў, запісы, і друкаваліся ноты — кампетэнтна, з веданнем сучасных патрабаванняў да нотаграфікі. Бо, на жаль, тая нотная прадукцыя, што друкуецца сёння з дапамогай камп'ютэрных цэнтраў, часцяком грэшыць на непісьменнасць: недасканалыя праграмы ў "машынах", музычна неадукаваныя наборшчыкі ці рэдактары тэкстаў. Дзяржаўны ўзровень быў бы ў нейкім сэнсе гарантам больш строгага падбору спецыялістаў.

**— Ваша ідэя зусім не падаецца утопіяй: сапраўды, сабраць пад адным дахам студыйна-выдавецкі комплекс было б і лагічна, і, відаць, больш танна, чым ствараць і тое, і другое паасобку.**

— Сёння адно без другога не абыходзіцца, і, у прынцыпе, адной і той жа тэхнікай карыстаюцца і там, і там. Камп'ютэры дазваляюць вырашаць выдавецкія праблемы, эксперыментаваць з электронным гукам і г.д. І гэта не вымагае вялікіх грашовых укладанняў, вялікага памяшкання. Прынамсі, стварэнне такога комплексу каштавала б куды меней, чым фундацыя новага Маладзёжнага тэатра эстрады. Між іншым, я пакуль не зразумеў мэтазгоднасць стварэння такога тэатра на дзяржаўным узроўні. Калі эстрада не прыносіць грошы, значыць яна і народу, па вялікім рахунку, не патрэбная. Эстрада — гэта шоу-бізнес, гэта тая сфера, якая паводле прыроды сваёй (масавасць!) павінна прыносіць даход. А калі яна атрымлівае дзяржаўную датацыю — гэта, на маю думку, нейкі нонсэнс. Такога няма нідзе ў свеце! Прытым наша сур'ёзнае мастацтва застаецца без належнай увагі...

**— Але вы, здаецца, не да канца раскрылі сэнс сваёй "простай ідэі"?**

— Сапраўды, калі дбаць пра стварэнне студыйна-выдавецкага комплексу, дык трэба мець на ўвазе яшчэ і выканаўчы калектыў пры ім. Абавязкова! Аркестр, хор. Сімфанічна-харавую капэлу. Прычым, не проста дзяржаўны калектыў — такіх пакутнікаў у нас нібыта хапае. А, напрыклад, — Прэзідэнцкі сімфанічны аркестр. Ён быў бы прэстыжным для краіны. І, вядома, для саміх музыкантаў. На такой грунтоўнай базе можна было б ствараць разматыя камерныя ансамблі. Каб музыканты былі і творча, і матэрыяльна зацікаўленыя працаваць у адным калектыве, не бегаць туды-сюды ў пошуку дадатковай капейкі, не шукаць часам зневажальных для прафесійнай годнасці замежных праектаў...

**— Дзякуй Богу, музыканты высокага класа ў нас яшчэ засталіся, гадуюцца й маладыя...**

— Вось бы даць ім шанц годна працаваць у сябе на радзіме! Рыхтаваць новыя праграмы, апаратныя і высакакасна іх запісваць. Рабіць кампакты, канкурэнтаздольныя на сусветным рынку... Адначасова выдаваць ноты і распаўсюджваць — каб і ў нас ведалі сваіх кампазітараў, каб і замежнікі гралі нашу музыку (такія прэцэдэнты ёсць, але яны выпадковыя, адзінкавыя). Займацца рэкламай нашых музычных набыткаў, папулярызацыяй беларускай музыкі, скарыстоўваючы паліграфічныя магчымасці гэтага ж выдавецкага абсталявання... Бяруся з лічбамі ў руках даказаць эканамічнасць і рацыянальнасць такой структуры.

**— Так і хочацца выгукнуць: ідзі Сяргея Багданава — дзяржаўную падтрымку!.. Давайце думаць, што "ЛіМ" разумнымі людзьмі чытаецца, што гэтая гаворка без дабратворнай увагі не застанецца, што ваш прафесійны досвед і кемлівасць спатрэбяцца не толькі ў іншаземных культурніцкіх акцыях і музычных праектах. Сяргей, я ведаю пра вашы творчыя задумы, пра кампазіцыю з жывым голасам і электроннымі сугуччамі, пра арыгінальную працу для дзіцячага музычнага тэатра... Ваша музыка даўно не гучала ў філармանічнай зале. Хай бы нагадала яна пра сябе сталічным слухачам...**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота А. ПРУПАСА*

БРАВА!

# Перастваральны талент

Не прыгадаю, каб сучасная беларуская музыка калі-небудзь выклікала буру авацый, воклічы "брава!" і слёзы на вачах. Але так было на канцэртах лаўрэата міжнароднага конкурсу Алега Крымера ў Гродне і Лідзе.

Пра што гэта гаворыць?

Перш за ўсё пра тое, што музычнае мастацтва Беларусі зноў перажывае росквіт: у нас з'явіліся кампазітары, здольныя хваляваць слухачоў, выканаўцы, якія дасягнулі вышыняў прафесіяналізму, і публіка, якая разумее складаныя творы. Гэта гаворыць таксама пра тое, што мы можам (калі, вядома, пастараемся) арганізаваць элітарныя канцэрты для людзей з самымі вытанчанымі густамі.

Піяніст Алег Крымер даўно прапагандуе беларускую музыку. І дамагаецца бліскучых вынікаў! У кожным творы ён знаходзіць штосьці адметнае, непаўторнае.

Саната Вячаслава Кузняцова бездакорная па форме. Яна прасякнута крохкімі і чыстымі эмоцыямі — свежасцю ландышаў, пакрытых кропелькамі ранішняй расы.

Журботнай лірыкай напоўнена Прэлюдыя Ігара Паліводы. Створаная літаральна за месяц да смерці кампазітара, гучыць як ягоная "лебядзіная песня".

Глыбінёй і маштабнасцю задумы вылучаецца фартэпіянны цыкл "Сузор'і Задыяка" Веранікі Швец. У касмічным кругавароце мільгаюць канфігурацыі зорак. Міжволі суадносіш свой Знак з яго музычным увасабленнем. Меў рацыю Кант, які сцвярджаў, што ў свеце ёсць толькі дзве неаспрэчныя рэчы: маральны закон у нас саміх і зорнае неба над намі!

Зусім іншыя пачуцці занатаваныя ў "Вячэрняй сюіце" Галіны Гарэлавай. Радаснае шчабятанне птушак змяняецца залацістым захадам сонца. Прырода засынае ў шчаслівым спакоі.

Саната-Сарабанда Алега Соніна мае эпіграф: "Усім загінуўшым — Даросльм і Дзецям на пароме "Эстонія" 28 верасня 1994 года ў халодным Балтыйскім моры недзе паміж Хельсінкі і Стакгольмам". Самой тэмай быў прадыктаваны выбар адпаведных сродкаў выяўлення. У маналітнай драматычнай канструкцыі аўтара няма нічога малазначнага і выпадковага. Безумоўна, кожнаму, хто слухаў гэтую музыку, па-свойму бачылася карціна бедства: хтосьці бачыў з вышыні палёту, як знікаюць у водавароце асобныя целы, сплеценыя ў апошніх абдымках; хтосьці нібыта на сабе адчуў шматметровую тоўшчу вады; у чыіхсьці вачах успыхнула яркае святло выбухнулага Сусвету. Ніхто з прысутных не застаўся абыякавым да пахавальнай Санаты-Сарабанды таленавітага кампазітара.



Праграма канцэрта А. Крымера старанна прадумана. Можна ўгледзець сіметрыю ў яе вобразнай сферы: зямля-космас-зямля. К канцу праграмы ўзрастае адчуванне трагедыйнасці.

Для яго далёка не ўсё адно, якую музыку іграць. Ён адрознівае, дзе сапраўднае мастацтва, а дзе — рамяство. У простым — выяўляе прыхаваныя магчымасці, у складаным — унутраны сэнс. Дамагаецца яснасці і пераканаўчасці інтэрпрэтацыі. Часам кампазітары... не пазнаюць свае сачыненні, пераўтвораныя фантазіяй піяніста (не дарэмна ж ён вывучаў кампазіцыю ў маладыя гады!). Піяніст-майстар і піяніст-мастак — так я бы значыў бы творчую індывідуальнасць Алега Крымера. Артыст шмат канцэртуе. Паспяхова выконвае і сучасную, і класічную музыку. Плённа працуе ў педагогіцы — выхаваў некалькі лаўрэатаў рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў. У ім пульсуе жылка арганізатара — па запрашэнні Крымера прыязджалі з канцэртамі ў Брэст карыфеі савецкага піянізму Мільштэйн, Башкіраў, Малінін, Мяржанаў, Вядзернікаў, Васкрасенскі.

Цэласная і самапаглыбленая, але актыўная натура Алега Крымера шукае самавыяўлення ў розных галінах музычнай дзейнасці. Пры гэтым з людзьмі ён просты і далікатны, не пакутуе на амбітнасць — не любіць гучных слоў, не ганяецца за славай. Проста — змяняе жыццё вакол сябе непрыкметнай падзвіжніцкай працай.

**Віталь РАДЗІЁНАЎ,**
**старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны**

вартая заяўка на аўтарскае кіно. Але ён цяпер мяркуе здымаць на відэа (так робяць многія беларускія рэжысёры) кароткія рэкламныя ролікі... Акрамя А. Кудзіненкі, з маладых рэжысёраў хочацца вылучыць і яшчэ двух — Аляксандра Колбышава і Антона Войніча. Іх фільмы: "Чорная скрыня" і "Яўдоха" летась удзельнічалі ў І Нацыянальным фестывалі беларускіх фільмаў; стужка А. Колбышава нават атрымала спецыяльны прыз журы "За лепшую студэнцкую работу". З першых кадраў "Чорнай скрыні" пазнаеш мінскі парк Чалюскінцаў. Галоўны герой, былы ваенны лётчык (А. Кацянёў), зноў і зноў перажывае імгненні вайны (трэба адзначыць, што А. Колбышаў — былы воін-афганец). Герой Кацянёва свядома шукае цяжкіх успамінаў: са страшэннай хуткасцю імчыць у мінулае... на атракцыёне "Супер-8"...

Зусім іншы фільм у А. Войніча. Яго галоўная гераіня — малаадукаваная Яўдоха. Атрымаўшы вестку пра смерць сына, яна нават не можа зразумець, у чым рэч. Заўважна, што рэжысёр не абмінае літаратурнага метаду Тэфі (паводле яе сюжэта зроблены сцэнарый) — "смех скрозь слёзы". У апошнім эпізодзе цёмная Яўдоха кажа: "Даслаў Панас ліст, прыйдуць і грошы"; а кадрам — "Рэквіем" Моцарта... Адсюль — ілюстрацыйнасць фільма.

Сёння Беларусь называюць рэспублікай мёртвага кіно: многія новыя беларускія фільмы не заслугоўваюць ні ўвагі гледачоў, ні ўвагі крытыкаў. Але як абмінуць маладых рэжысёраў? Тых, якія, на мой погляд, вельмі таленавітыя і перспектыўныя. Здатныя ўзняць "новую хвалю"...

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

ФЕСТЫВАЛІ

# Музычныя вечары над Бугам

Не так часта ў Брэсце бываюць падзеі, якія збіраюць сотні прыхільнікаў музычнага мастацтва. X Міжнародны фестываль "Студзеньскія музычныя вечары" можна лічыць менавіта такой буйной падзеяй. Вытокамі брэсцкага фестывалю сталіся вядомыя "Снежаньскія вечары", арганізаваныя ў Музеі выяўленчага мастацтва Масквы яшчэ па ініцыятыве вялікага піяніста сучаснасці Святаслава Рыхтэра.

"Студзеньскія музычныя вечары" ўвесь час рыхтавала Брэсцкае музычнае таварыства і абласное ўпраўленне культуры. Якімі ж атрымаліся сёлетнія юбілейныя?

Увага з боку прадстаўнікоў уладаў горада і вобласці надала імпрэзе больш грунтоўнасці. Прыемна, што сёлета даволі разнастайна было прадстаўлена інструментальнае выканальніцтва: скрыпка, віяланчэль, баян, фартэпіяна, духавыя. Многа было сусветна вядомых спевакоў — з Літвы, Малдовы, Расіі. Прынамсі, народная артыстка СССР Марыя Біешу.

Праўда, не абышлося без арганізацыйных "накладак", і рэклама вялася недастаткова шырока, таму зала была няпоўная. Вядучыя канцэрта атрымлівалі праграму нясвоечасова, іншым разам напісаную ад рукі, таму дапускалі памылкі ў аб'яўках. У асвятленні фестывалю ўдзельнічалі толькі мясцовыя журналісты. На жаль, "скамечанае" з-за недахопу часу выступленне Марыі Біешу не надало фіналу "вечароў" чаканай узнёсласці. І, што самае дзіўнае, не стала элементарнай чысціні ў тэатры, дзе ладзіцца фестываль.

І ўсё ж свята музыкі адбылося. А пачалося яно з выступлення маладзёжнага хору Брэсцкага музычнага каледжа (хормайстар Мікалай Трафімук), якое задало добры тон фестывалю.

У выдатнай выканаўчай форме была народная харавая капэла настаўнікаў ГДК Брэста (кіраўнік Ганна Пячонкіна).

Фартэпіянае мастацтва Беларусі прадставіў знаны музыкант Ігар Алоўнікаў. У Брэсце ён іграў сваю любімую музыку — Вялікі бліскучы паланез Ф. Шапэна і Канцэрт для фартэпіяна до мінор Л. ван Бетховена — у суправаджэнні сімфанічнага аркестра Беларускай акадэміі музыкі "Маладая Беларусь" пад кіраўніцтвам маэстра Міхала Казінца. Гэты калектыў выканаў таксама Сімфонію рэ мінор Ц. Франка.

У фестывалі ўдзельнічалі яшчэ тры аркестры. На думку знаўцаў, Камерны духавы аркестр гімназіі-каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам маэстра Льва Муранава граў бездакорна. Слухачам спадабалася і праграма, складзеная з твораў Ж. Бізэ, Д. Вердзі, Ф. Шуберта, А. Пятрова, і салісты А. Нямірскі, Д. Солтан, А. Яскельчык, Я. Лятэ...

Шчырых апладысментаў заслужыў Сімфанічны аркестр абласнога тэатра драмы і музыкі. Аркестр мусіў за кароткі тэрмін падрыхтаваць сваю праграму і акампанементы для салістаў. І здаецца, што яго галоўны дырыжор Міхась Снітко няблага справіўся з гэтай задачай, хаця міжнароднага ўзроўню выканання аркестр пакуль што не дасягнуў. Такія ж уражанні і ад ігры Камернага аркестра Брэсцкай абласной філармоніі (дырыжор Аляксандр Мартыненка).

Што датычыць замежных гасцей фестывалю, дык сярод іх, без перабольшання, былі сапраўдныя майстры, лаўрэат міжнародных конкурсаў з Украіны, дуэт баяністаў Юрый Якавенка ды Віталь Старажук, маладая і перспектыўная спявачка з Літвы лаўрэат міжнародных конкурсаў Любоў Хухрова. Летась Л. Хухрова ўдзельнічала ў прэстыжным оперным фестывалі ў Ірландыі, дзе, як і ў Брэсце, зачаравала публіку сваім яскравым драматычным талентам.

Яшчэ адна ўдзельніца "Студзеньскіх музычных вечароў" — лаўрэат міжнародных конкурсаў скрыпачка Катажына Дуда з Польшчы. Яе пранікнёная ігра з першых гукаў захапіла залу. Катажына гастралявала па Амерыцы, Францыі, Расіі, Швейцарыі. На фестывалі ў Брэсце яна бліскуча выканала Канцэрт для скрыпкі з аркестрам рэ мінор П. Чайкоўскага.

Запомніўся яшчэ адзін удзельнік музычнага свята — Маўсар Мінсаеў, заслужаны артыст Расіі, саліст Вялікага тэатра оперы і балета Расіі, лаўрэат міжнародных конкурсаў імя Э. Віла-Лобаса ў Рыа-дэ-Жанейра і імя Ф. Шаляпіна ў Маскве. Выразным выкананнем арый з опер і рамансаў наш госць пацвердзіў свой высокі міжнародны ўзровень майстра вакалу.

У заключным канцэрце "Студзеньскіх музычных вечароў" выступілі вядучыя салісты Нацыянальнай оперы Малдовы — Беата Гансел, Уладзімір Драгаш і Марыя Біешу. І кожнаму ў зале артысты падаравалі незабыўныя хвіліны вялікага і вечнага мастацтва музыкі.

**Алена КАПАЧОВА,**
**рэдактар Брэсцкай абласной студыі тэлебачання**

АДГАЛОСКІ

# У тумане

“Няма ісціны, дзе няма любві” — гэта ў аднолькавай ступені тычыцца як жыцця, так і літаратуры. Тым больш — літаратурнай крытыкі. Міжволі ўспомнілася гэтае вядомае выслоўе, калі прачытаў у N 2 “ЛіМа” артыкул С. Дубаўца “Ружовы туман”. У ім ёсць і смеласць думкі, і шчырая зацікаўленасць прадметам гаворкі, а вось менавіта любві, як падаецца, у ім няма. А, значыць, няма і ісціны.

Напачатку аўтар артыкула рэзка адмяжоўвае “беларускую савецкую культуру” ад “нашай нацыянальнай культуры”. Першая для яго — “сатанінскі антыпод”, “набор” “прадметаў сатанінскага культу”, “метастазы сатанізму”, “не культура”, “не раздзел беларускай літаратуры”... Далей С. Дубавец пытаецца, “што заўтра мы мусім рабіць” з усім гэтым, цытуе найбольш яркіх прадстаўнікоў “беларускай савецкай” і прапануе свой адказ на сваё ж пытанне. Пры пераходзе да канкрэтных імёнаў ён дае яшчэ адно азначэнне “савецкай” — “ружовы туман”. Пасля кожнай цытаты ідуць азначэнні, тыпу: “відавочны амаралізм, няшчырасць”, “амаралізм у крыві гэтага антымастацтва”, “ачалавечванне бесчалавечнасці”... Потым С. Дубавец называе яшчэ некалькі імёнаў, але ўжо нічога з іх не цытуе: “Нічога не вылушчыш з кніг Броўкі, Глебкі і нават яшчэ блізкіх Мележа, Танка...” Напрыканцы згадваюцца зноў Броўка і Панчанка, а заадно ўжо да іх далучаецца і Пысін. “Крывавае таўро на нашай гісторыі XX ст.” — такімі гучнымі словамі завяршае свой артыкул С. Дубавец. (Цікава адзначыць, што правадыром усяго гэтага “ружовага туману” ён прызначае нікога іншага, як... Якуба Коласа!)

І так, што ж, па С. Дубаўцу, “мы мусім рабіць” з усім вышэйазначаным? Адказ такі: “Мы мусім не выбіраць, а зрабіць свой адзіны маральны выбар. Развесці па розных кнігах” (?) Даволі цьмяны адказ, ці не так? І выбіраць нельга, і выбар зрабіць трэба... Прычым — “с в о й  а д з і н ы!” Што гэта значыць? Бо аўтар адразу папярэджвае, што ён супраць “зачысткі”, г.зн. каб выгнаць увесь гэты “ружовы туман” з беларускай літаратуры, бо гэта “метад таталітарнага рэжыму”. Відавочна, што так яно і застаецца адкрытым, павісае ў паветры — балючае гэта пытанне, “што заўтра мы мусім рабіць” з гэтай прыблудай, гэтай пачварай — “беларускай савецкай”.

Вельмі добра, што “ЛіМ” дае месца розным поглядам. У нас шмат добрых крытыкаў, але вось р о з н ы х — вельмі мала. Большасць крытычных артыкулаў, якія друкуюцца ў “ЛіМе”, напісаны нібы не для нас, чытачоў, а адрасаваны асабіста тым аўтарам, пра якіх пішуць. Раю газеце зрабіць новую рубрыку: “Кампліменты”, бо крытыкай падобныя артыкулы назваць цяжка. А ў гэтую новую рубрыку яны ўпішуцца цудоўна! Але вось з’яўляецца артыкул С. Дубаўца, і карабель “ЛіМа” выпростваецца з моцнага кампліментарнага крэну і хіліцца ў супрацьлеглы бок — ды так рэзка, што не толькі вады, але і бруду з самага дна дапяў чарпануць!

У сваёй прадмове да рэцэнзіі В. Акудовіча на тэксты С. Дубаўца (N 2) капітан “ЛіМа” слушна заўважыў, што лягчэй за ўсё “адмовіць С. Дубаўцу ў праве адмаўляць”, “ці не варта ўзважыць, асэнсаваць, што ж сапраўды ўяўляе сабой беларуская літаратура стагоддзя...” Але ж, пагадзіцеся, “узважвае” С. Дубавец беларускую літаратуру даволі арыгінальна: на адзін канец сваіх вагаў ён кладзе “беларускую савецкую” (дакладней — чатыры цытаты з яе), на другі — свае эмоцыі. Канечне, другі канец перацягне ўсё на свеце, не тое што нейкі там “туман”! В. Акудовіч сцвярджае, што палемічныя артыкулы пішуцца толькі “дзеля падвышэння канцэнтрацыі адрэналіна ў крыві”. Ды, як падаецца, ён і так занадта падвышаны зараз, адрэналін у нашай крыві. Апроч таго, ці ўсякія сродкі харошыя для ягонага падвышэння, калі ўжо некаму гэтак карціць “падвысіць”?.. Мы не займеем рацыі, калі запатрабуем ад аўтара палемічнага артыкула строгай вытрыманасці і поўнай паслядоўнасці пры выкладанні сваіх аргументаў, але маем поўнае права патрабаваць ад яго, каб ён прытрымліваўся элементарнай логікі. Што за “метода”: узяць чатырох аўтараў, затым выбраць з іх творчасці па чатыры радкі, падпісаць пад імі: “амаралізм”, “сатанізм” і г.д. — і на гэтым лічыць напісанае даказаным?! І на якую, увогуле, “мараль” абапіраецца сам С. Дубавец, нагрувашчваючы адну гучную фразу на другую?..

Калі я дайшоў да “крывавага таўра”, раптам успомніў, як Талстой (каторы Леў), чытаючы жахі Л. Андрэева, сказаў, пасмейваючыся ў бараду: “Ён палохае, а мне не боязна...” І як адзін вандроўнік XIX стагоддзя запытаў аднойчы эскімоса, “што такое “кепска”? “Кепска, калі сусед пакрадзе маіх кароў”, — адказаў той. “Ну, а што такое “добра”? — “Добра — гэта калі я пакраду ў суседа кароў”... М. Танку нельга нічога сказаць нават і пра “Кастрычніцкі сцяг” (“амаралізм”!), мне ж можна казаць пра М. Танка што мне ўздумаецца, і пры гэтым заставацца ў рамках маралі.

“Ідэалогія Сяргея Дубаўца — гэта вынік так і не пераадольнай рамантыкі падлеткавых гіпотэз пра ідэальную Беларусь” (В. Акудовіч). Адна з такіх гіпотэз і пакладзена ў аснову ягонага палемічнага артыкула: была “наша нацыянальная культура”, але яе “забіла і заглушыла” “беларуская савецкая”. Прычым гэтая культура зусім і не культура, а “раздзел з гісторыі таталітарызму”. Трэба гэтыя дзве абсалютна несумяшчальныя рэчы неяк некуды “развесці” па нейкіх “розных кнігах” (?). Такая гіпотэза. Канечне, усё гэта проста словы, не больш. Існуе адна беларуская культура, якая пачалася ў старажытнасці, дасягнула свайго апагею на пачатку XX ст. і наблізілася да свайго перыгею напрыканцы яго. Але ж што такое жыццё — асобных людзей, народаў, культур, — як не крывая ўзлётаў і падзенняў? Аднак і ўзлятаючыя, і падаючыя — гэта тыя ж людзі, народы, культуры. Чым вышэй узлёт, тым адчувальней падзенне. Але ж і падзенне ніколі не бывае поўным! Што і пацвердзілі сваімі лепшымі творамі тыя аўтары, якіх цытуе С. Дубавец. Зусім нядаўна пакінуў нас М. Танк. Сёння, углядаючыся ў ягоную спадчыну, няўжо мы нічога, апроч чатырохрадкоўяў пра нейкі там сцяг, не ўбачым? Каб не быць галаслоўнымі, здымем з паліцы, адкрыем хаця б адну — напрыклад, самую апошнюю — кнігу вершаў М. Танка “Мой каўчэг” (1994 г.). Колькі ў ёй добрых, глыбокіх, мудрых вершаў, а як цудоўна яны зроблены: “Экалогія”, “Уважна сочым...”, “Чаму настаў вечар”, “Пляценне кошыка”, “Уздых па блінцах”, “Атамная зіма”, “Сава”, “Перабіраючы ягады”, “Цяжэй за ўсё гаварыць...”, “Дзіўна, што нат...” А каго пакіне абыякавым, здавалася б, просценькі верш, адначасова такі мудры і жыццярадасны:

*— Чаму, — пытае маці, —*
*Ты не прынесла, Каця,*
*Свежых кветак з поля?*

*— Як жа прынясу я,*
*Калі іх пільнуюць*
*Матылькі наўкола,*
*І чмялі і пчолы!..*

Цяжка паверыць, што верш гэты напісаў вельмі стары і вельмі хворы чалавек!.. Я не хачу сказаць, што ўсё, што напісаў М. Танк, павінна прымацца з захапленнем, зусім не. Ведаеце, як робяць золаташукальнікі? Так, яны прасейваюць пясок, ён асыпаецца, а залацінкі застаюцца. Чытачы — тыя ж золаташукальнікі, хочаш знайсці — працуй.

С. Дубавец лічыць вызначальным у паэзіі А. Куляшова ягоны верш аб камуністах, але ж відавочна, што гэта той жа пясок. Ён лёгка пройдзе скрозь сіта, толькі патрэсці, і мы будзем уражаны ззяннем цудоўных, сапраўды класічных вершаў, што застануцца пасля прасейвання: “Да паэзіі”, “Элегія”, “Спакойнага шчасця не зычу нікому...”, “Чужой любві я не зайздрошчу...”, “Людское сумленне за грошы...”, “Не сустракацца мне больш ніколі...”, “З далёкага”, “Слова пра вала”, “Парада самому сабе...”

*Сноп апошні залатога жыта*
*Застаецца ў памяці палос...*
*Гэтак і цябе не скосіць лёс —*
*Мною ты не можаш быць забыта...*

Ды нават калі б у Куляшова толькі адно гэта чатырохрадкоўе было, ён ужо быў бы варты нашай увагі! А камуністы... Што камуністы?..

“Амаралізм” — такое азначэнне даў С. Дубавец радку Панчанкі “Я веру Леніну з дзіцячае пары...” І ў гэтым выпадку, як і ў двух вышэйазначаных, для такіх гучных слоў няма ніякіх падстаў. У непрадузятага чытача твораў П. Панчанкі ніколі не могуць узнікнуць сумненні ў шчырасці ягонай веры ў Леніна:

*Мы з тых беларусаў,*
*Што Леніну лёс уручылі...*
(“Мы з тых беларусаў...”)

*Як дзяржаўная мова*
*Наша мова падорана Леніным...*
(“Чым жа мы апраўдаемся...”)

Гэта была сапраўдная, вельмі падобная да рэлігійнай, вера. І ўжо таму яна не можа не выклікаць разумення і павагі. Гэта была я г о н а я вера, вера я г о н а г а жыцця! І мы бяром на сябе зашмат, выносячы паэту абвінавачванні на гэты конт. Бо, апроч веры ў Леніна, П. Панчанка вельмі верыў у Беларусь, вельмі любіў яе. Ён пакінуў нам шмат добрых вершаў, якія будуць жыць, пакуль жыве Беларусь: “Родная мова”, “Паэма майго лесу”, “Герой”, “Жыццё маё...”, “Паэзія”, “Творчасць”... А ягоныя кніжкі апошніх гадоў “Лясныя воблакі” (1985), “І вера, і вернасць, і вечнасць” (1986) — гэта ж былі цэлыя падзеі ў нашым літаратурным жыцці! Як хутка мы забываем усё добрае! Мае рацыю “падпольны чалавек” Дастаеўскага: “чалавек — гэта істота на дзвюх нагах і няўдзячная”.

А наконт таго, што “нічога не вылушчыш”... Тут ужо, як гаворыцца, не нашы праблемы: усё залежыць ад таго, хто “лушчыць”.

Так, мае рацыю галоўны рэдактар “ЛіМа”: XX стагоддзе канчаецца, а мы і не пачыналі яшчэ сур’ёзнага аналізу таго, што ўяўляе сабою цяпер наша беларуская літаратура. Расійцы ўжо колькі год таму пачалі такі аналіз сваёй літаратуры (узяць хаця б вялікі шэраг артыкулаў у “Новом мире”). Але гэта мусіць быць аналіз, а не п р ы с у д! Як жа мы адыдзем ад савецкай эпохі, калі прынялі на ўзбраенне яе ж метады?!..

**Уладзімір ПЯТРОЎСКІ**

# Была, змагалася, тварыла

Адсунуўшы ўбок філасофскія разважанні накшталт таго, што такое ёсць літаратура і наогул літаратура гэта ці не, аб беларускай савецкага часу выкажу, можа, і парадаксальную, але, думаецца, аргументаваную думку: яна і ў савецкі час была ў нас літаратурай супраціўлення, больш таго, самага адчайнага і масавага ў параўнанні з іншымі перыядамі і, калі хочаце, пераможнага. Пры ўсім сённяшнім нігілізме ніхто ўсур’ёз не можа сумнявацца, што савецкі перыяд у гісторыі беларускай літаратуры найбольш значны і плённы. Сведчаць пра гэта не проста факты, а крывавыя факты яе бытавання, прычым прапісаныя па шкале беларушчыны, прыналежнасць да якой сёння Сяргей Дубавец начыста ёй адмаўляе, ацэньваючы не іначай як па ведамстве службы рэжыму. Пачалася з супраціўлення і закончылася супраціўленнем, нягледзячы на ўступкі, можа, нават — дзякуючы ім. Так было на працягу ўсіх гадоў існавання — ад паслярэвалюцыйнага Я. Купалы да У. Караткевіча і пазней. Бо чым жа як не супраціўленнем новай уладзе былі “Тутэйшыя” і лірыка першай паловы 20-х гадоў Янкі Купалы? Чым скончылася творчая кар’ера Дудара альбо Дубоўкі як не напісаннем т. зв. нацыяналістычных вершаў, у выніку — арыштам, судом ды ГУЛАГам (для Дубоўкі), а для Дудара і наогул смерцю. Жорсткія ганенні на Міхася Зарэцкага распачаліся пасля напісання рамана “Крывічы”, прысвечанага праблемам станаўлення беларускай нацыянальнай ідэі. Мо з гэтага шэрагу можа выпасці Бабарэка? Хіба не ён сцвярджаў неабходнасць пашырэння дэмакратычных традыцый беларускай дакастрычніцкай літаратуры для паспяховага развіцця савецкай? Ці Якуба Коласа можна пакінуць збоку? “Нас падзялілі. Хто? Чужаніцы. Цёмных дарог махляры”, — хіба гэта не Коласава?

Пасля вайны супрацьстаянне літаратуры афіцыйным улдам па лініі галоўнага канфлікту ўзмацняецца калі не з кожным новым імем, то з кожным годам. Нават прыклады не хочацца прыводзіць. Што ў гэтым плане значыць толькі такая група мастакоў слова, як Пташнікаў, Адамчык, Стральцоў, Сачанка. Уласна, калі пастарацца зразумець літаратурны працэс як працэс нязменнага супраціву, то да іншых вывадаў і нельга прыйсці. Усе мы як прадстаўнікі нацыі так ці інакш а заражаны вірусамі “нацыяналізму”. Яшчэ ў большай меры тычыцца гэта людзей творчых. Іх, апрача іншага, супраціўляцца штурхала сама іх творчая сутнасць, г. зн. аб’ектыўнае, натуральнае, богам дадзенае, прадвызначанае прыродай. Таму ў які б бок ні адводзілі абставіны, творцы вярталіся на шляхі свайго наканавання зноў і зноў, з дзіўнай самаахвярнасцю, як матылі, згараючы на агні ў адзіночку, а то і масава. Мы чамусьці вунь як цэнім Багрыма за адзін-адзінюткі верш “Зайграй, зайграй, хлопча малы”, забываючы, што пасля салдатчыны, дзе адбываў пакаранне, да паэтычнай творчасці ён не вярнуўся, у той час як паэты і празаікі савецкага часу пасля дваццаціпяцігадовых адсідкаў у ГУЛАГах з ранейшым імпэтам нанава браліся за пяро з нязменным жаданнем застацца вернымі ўласнаму прадвызначэнню. Важна памятаць, што тварылі яны не менш і не больш як пад рулямі прыстаўленых да патыліцы наганаў. У чым іх дакараць? Усе мы добра ведаем, што ад даваеннага складу СП у жывых засталіся адзінкі, што Янка Купала рабіў замах на сваё жыццё. Ці ж можна выкінуць на звалку гісторыі літаратуру, якая тварылася такімі самаахвярнымі людзьмі, хай сабе і абгрунтоўваючы свае памкненні найвышэйшымі задачамі сённяшняга яе развіцця?

С. Дубавец адмаўляе беларускую савецкую літаратуру па прычыне таго, што яна, бачыце, не можа быць узорам для сучаснай мастацкай практыкі. Сапраўды, стваралася яна ў рэчышчы непрымальных для сённяшняга дня творчых прынцыпаў. Тыя прынцыпы і для беларускай літаратуры савецкага часу былі непрымальныя. Але гэта зусім не азначае, што такой літаратуры не было. Яна — наша гісторыя, прычым доўгая, свая, хай сабе і з нарасцямі, як ён кажа, “сатанінскага культу”. Нарасці гэтыя — прыкметы смяротнага разбурэння арганізма, але не так літаратурнага, як грамадскага. Гэта савецкая рэчаіснасць піхала літаратуру ў смяротныя абдымкі невылечнай хваробы. Яе ў першую чаргу і трэба асуджаць.

Валянцін Акудовіч, наадварот, лічыць, што такая з’ява, як беларуская савецкая літаратура, была і ёсць, толькі яе трэба ацаніць па высокім рахунку мастацкасці. Правільнае патрабаванне. Заўважым толькі што абстрактнымі правіламі тут не абысціся. Значную долю карэкцыі варта зрабіць на аб’ектыўныя ўмовы не толькі існавання самой літаратуры, але і беларускай нацыі як асноўнай умовы яе існавання.

*Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць*
*Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход.*

(Працяг на стар. 14)

**Дыскусію, распачатую Сяргеем Дубаўцом і Валянцінам Акудовічам, працягваюць Уладзімір ПЯТРОЎСКІ, Іван ЧЫГРЫН, Таццяна СЕРДЗЮКОВА, Ігар ЗАПРУДСКІ.**

# Не судзіце літаратуру

Прачытала ў “ЛіМе” артыкул Алы Сямёнавай “Імпэт аднаўлення...” і зразумела: многае ў ім сугучна маім думкам. Сапраўды, мы збяднеем, калі станем “судзіць” літаратуру, зыходзячы выключна з густаў таго ці іншага крытыка. Пазіцыя асобы — гэта важна, але ж зыходзіць крытыкі павінны з аб’ектыўных крытэрыяў.

Прыняць пазіцыю Сяргея Дубаўца і перакрэсліць амаль усё, мабыць, і можна, але навошта? Прынцыповая магчымасць самагубства ніяк не пераконвае ў яго разумнасці і неабходнасці.

У беларускай літаратуры, як на мой погляд, безліч твораў і імёнаў, якія адкрыты для моладзі недастаткова, нягледзячы на тое, што кнігі выдаюцца, прозвішчы ў друку мільгаюць. Не хапае, можа, цікавых артыкулаў пра саміх пісьменнікаў, пра іх лёсы, пра час, у які яны жылі і жывуць. Не хапае погляду на беларускую літаратуру ў кантэксце літаратуры сусветнай. Калі і заходзіць пра гэта гаворка ў крытыцы, то найчасцей — суха, схематычна.

Затое якая радасная для мяне кожная сустрэча з крытыкамі, матэрыялы якіх пазначаны густам, дзе ёсць і глыбокі роздум, і літаратурны бляск. Напрыклад, пасля артыкулаў А. Сямёнавай у “ЛіМе” пра Алеся Разанава і ў “Крыніцы” пра Віктара Карамазава я пайшла ў бібліятэку за кнігамі гэтых аўтараў. Чытала і раней, але... Да гэтага яшчэ Міхася Стральцова адкрыў мне “Бэзавы попел” спадарыні Сямёнавай у той жа “Крыніцы”. У згаданым яе лімаўскім артыкуле не згодна я толькі з тым, што спадарыня Сямёнава піша пра заўсёдную “стойку” Дубаўца “са шпагай напагатове”. Не даводзілася чуць, каб шпагу зрабілі з аглоблі. Я ўспрымаю сёння чалавека са шпагай як інтэлектуала, які абараняе лепшыя здабыткі беларускай літаратуры і культуры наогул.

**Таццяна СЕРДЗЮКОВА**

## Юная мастачка



**Прыродную схільнасць Іны Дзмітрыевай да малявання заўважыла выкладчык Старадарожскай дзіцячай школы мастацтваў Таццяна Пятроўна Гутырчык. Два гады работы з дзяўчынкай далі цудоўны вынік. Іна дабілася поспеху ў графіцы, што і прадэманстравала выстава работ 14-гадовай мастачкі, якая адкрылася ў школе мастацтваў.**

*На здымку: юная мастачка з горада Старыя Дарогі Іна Дзмітрыева.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

## Меў песенную душу

**"Верасы", Бацькоўскі парог" — гэтыя і іншыя песні, якія сталі вядомымі ў народзе, напісаны беларускімі кампазітарамі на вершы Іосіфа Скурко, з дня нараджэння якога 24 лютага спаўняецца 60 гадоў (памёр 2 лютага 1989 года). Нарадзіўся Іосіф Уладзіміравіч у вёсцы Пількаўшчына Мядзельскага раёна, а з першымі вершамі выступіў у "Настаўніцкай газеце" ў 1962 годзе. У 1965-ым скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў у ЦК ЛКСМБ, дырэктарам Бюро міжнароднага маладзёжнага турызму "Спадарожнік", рэферэнтам у Савеце Міністраў БССР, палітычным аглядальнікам, загадчыкам аддзела, намеснікам галоўнага рэдактара літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання. Ужо сваёй першай кнігай "Бацькоўскі парог" (1973) засведчыў, наколькі ў яго паэзіі моцныя песенныя традыцыі. Перакладаў творы рускіх, украінскіх і польскіх паэтаў на беларускую мову. Напісаў сцэнарый дакументальнага фільма "Драугістэ — дружба".**

## Запрашае Дом літаратара

**4 сакавіка сумесна з Літаратурным музеем Я. Купалы праводзіцца вечарына купалаўскай лірыкі.**

**Тэатр "Зьніч" 11 сакавіка запрашае на сустрэчу з творчасцю В. Іпатавай "Цуды, якія ствараe натхненне..."**

**17 сакавіка ў вялікай зале адбудзецца вечар памяці, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння яўрэйскага паэта І. Харыка "Мы першыя цагліны закладвалі, і кожны ў мур цаглінай лёг жывой...". Арганізатары вечарыны Дом літаратара і Беларускае аб'яднанне яўрэйскіх арганізацый і абшчын.**

**А вечарына "Не шкадуйце ран свае душы!..", прысвечаная 115-м угодкам з дня нараджэння Ф. Аляхновіча, праводзіцца 25 сакавіка сумесна з тэатрам драмы "Дзе-Я ".**

**ГЭТЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ ПАЧЫНАЮЦЦА Ў 18 ГАДЗІН.**

**Адбудуцца чарговыя пасяджэнні секцый: паэзіі — 12 сакавіка, прозы — 24 сакавіка, секцыі для дзяцей і юнацтва — 26 сакавіка.**

**ПАЧАТАК РАБОТЫ СЕКЦЫЙ У 15 ГАДЗІН.**

**На 14 гадзін 19 сакавіка запланавана адкрыццё Тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі "Кніга — лепшы сябра". Да гэтага мерапрыемства далучылася Упраўленне культуры Мінгарвыканкама.**

# УКАЗ...

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

Я адчуў у роце нейкі непрыемны прысмак. Каўтнуў набеглую раптам сліну. У галаве як выветрылася ўсё: ніводнай думкі, ніводнага жадання. Тупым нудным болем азвалася ўдаранае дубінкай бядро. Нічога, ну дальбог, нічога не хацелася! Толькі заплюшчыць вочы, каб усё гэта не бачыць і не чуць, каб нават пахаў ніякіх. А ўжо каб куды цягнуцца яшчэ — няхай яно згарыць!

Левай рукой я падхапіў адну сумку, правай уляпіўся за ручку другой, каротка кінуўшы Сашу:

— Чапляйся.

— І куды? — не зразумеў той.

— У с...!.. Дзе ўсім нам і належыць быць...

І мы рушылі. Апушчаная галава, крыху пахіленыя наперад плечы (выгляд зацятага быка), убакі раскідвалі сустрэчных. Упартым глухім рухам шыбавалі ледзь не да скрыжавання — метраў з паўсотні, — дзе збіраліся пераходзіць вуліцу. І тут мая правая нага нечакана зноў паехала наперад, левая паўтарыла амаль тое ж самае, і, як птушка крыламі, узмахнуўшы абедзвюма рукамі ўгару, з усяго маху, разам з сумкамі, я спінай грымнуўся на брудны слізкі асфальт.

Каб сказаў, што мне было балюча, то хутчэй за ўсё зманіў бы. Проста гэта было той апошняй кропляй, пасля якой мая сіла волі легла на нуль; пераставаў спрацоўваць інстынкт самазахавання. Пасля гэтага — чалавек не чалавек: з ім можна рабіць усё, што хочаш... Таму й нічога не балела. Як здохлы пацук, ляжаў я на асфальце.

— Ну ўставай, уставай, — як з туману чуўся Сашаў голас. Трымаючы за плечы, ён падымаў мяне. — Дальбог, ты карова непаваротлівая....

Спачатку я сеў, потым няспешна пачаў падымацца на ногі, упіраючыся рукамі ў брудны асфальт. Ужо на нагах дастаў з кішэні насоўку, старанна, амаль да сухасці выцер рукі і выкінуў яе. Адчуваў, як Саша абцірае куртку на маіх плячах. Нагой ткнуў у адну сумку — тая азвалася нейкім глухім скрыгатам. Тым жа гукам адказала і другая... Яшчэ колькі імгненняў — і я з усяе сілы ўдарыў нагой па адной сумцы, потым па другой, затым яшчэ і яшчэ. Толькі недзе мо пасля дзесятага ўдару я спыніўся.

Саша маўчаў, не перашкаджаў мне, адно цяжка соп сваім сінім носам.

Цяпер ужо сумкі не стаялі, а плазам ляжалі на асфальце.

— Цево делаесь? — глядзелі на мяне два негры, ці, як трэба правільна іх называць, — афрыканцы, бо першая назва, як высветлілася апошнім часам, абразлівая.

— Хто такія ёгі, ведаеш? — апярэдзіў мяне Саша, хоць што-небудзь ім адказваць я не збіраўся.

— Канесьне. Мы тозе ёга, — паказаў афрыканец на сябе і на свайго сябра.

— Пасцілку ім рыхтуем са шкла, — зусім спакойна тлумачыў Саша. — Яны ж... спяць на такіх. Хіба не чуў?

— Знаю. Но пацему здесь делаесь? — шчыра здзівіўся афрыканец.

— Пацему, пацему!.. — не стрымаўся Саша, каб не перадражніць афрыканца, але далей гаварыў сур'ёзна: — У нас даўно жывяце?

— Я сем месяц, а мой труг два месяц.

— Ясна... Значыць, нашых нацыянальных звычак вы пакуль не засвоілі... Не перажывайце, яшчэ паспееца. Колькі год вам тут вучыцца?

— О-о-о, есё много! — і афрыканец паказаў на руках шэсць пальцаў.

— Вось я і кажу: за шэсць год з вас такіх... спецыялістаў выкуюць, што самі гэткія ж пасцілкі пачняце кляпаць...

— Так пацему здесь?.. — ніяк не мог дапетрыць афрыканец. — Веть это зе мозно ў себя дома делать, ілі в сваём офісе дазе.

— Не-е-е! Вось тут ты памыляешся, дарагі, — купаўся ў сваёй стыхіі Саша. — Па нашай традыцыі трэба, каб людзі бачылі, што пасцілка свежая, чыстая, без блох...

Ахінея — адно слова! Але Саша, як кажуць, "лавіў кайф".

— Сколька стоіт? — нечаканае пытанне афрыканца.

Гэта збіла Сашу на імгненне — падколвае ці што? — але амаль адразу ж выскаліўся ў адказ:

— Сто!

— Много. Трыццац.

Зноў імгненная паўза, у якой так і хацелася ўсклікнуць — ну, маразм! — і Саша, прадчуваючы нешта такое, залямантаваў з новым імпэтам:

— Якое трыццац?! Гэта толькі для вас мы па сто аддаём, бо заўсёды вас падтрымлівалі ў вашай справядлівай барацьбе, калі вы вызваляліся ад каланіялізму... Так што, можна сказаць, прадаём як брат брату: па самай нізкай цане. Бо ўсім астатнім аддаём па сто пяцьдзесят, не меней.

— Трыццац, —спакойна ўсміхнуўся афрыканец маслінамі сваіх цёмных вачэй.

— Цьфу ты! — крутнуў галавой Саша і... літасціва згадзіўся. — Трыццаць дык трыццаць.

— Хто хазяін?

Саша галавой кіўнуў у мой бок.

Афрыканец працягнуў мне грошы, і неяк машынальна я ўзяў. І спачатку нават не зразумеў, што трымаю ў руках? Калі разгледзеў — долары. Трыццаць долараў!

Сашавы вочы акругліліся да памеру гусіных яек, губы ўтварылі шчыліну...

Афрыканцы аб нечым паміж сабой пагаманілі, чаго, вядома, мы не зразумелі, і да нас зноў:

— Вот ісё доляр. Паймайце таксо і загрузіце.

Сунулі мне ў рукі яшчэ купюру і, на нас не гледзячы, рушылі да броўкі.

Саша падхапіў сумкі, і яго крывыя ногі замільгалі ўслед за імі. Ён, здаецца, не ішоў — каціўся на іх: столькі радасці і гатоўнасці дагадзіць было ў гэтым яго руху...

Хвілін праз пяць ён ужо быў каля мяне.

— Куды рушым?! — ніяк не мог справіцца ён з радасным хваляваннем.

— Не ў царкву ж іх панясём. У магазін, вядома...

— Трэба ж абмяняць.

— У магазіне ёсць пункт, там і абмяняем.

Усю дарогу да магазіна, як агаломшаны, Саша радасна паўтараў адну і тую ж фразу, якая гучала прыблізна так:

— Ну, лохі афрыканскія... Я да апошняе хвіліны паверыць не мог... Думаў, здзекуюцца, падколваюць... думаў, назад адбяруць... Ну, лохі...

Акенца пункта абмену ў магазіне свяцілася, я звярнуўся да касіркі:

# Была, змагалася, тварыла

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

Згадзіцеся, гэта паэтычна сказана, аднак калі чытач даведваецца, каму робяцца такія пажаданні і чаму, значнасць твора ў яго ўспрыманні значна паблякне.

Некалі ў мяне напісаліся наступныя радкі:

***А сёння нам і гад не гад.***
***Паглянь, як класікі за радам рад***
***Пасталі горда на паліцах.***
***Якое ім было прабіцца***
***Ледзь не ў палацы з курных хат?***

Верш пра ўсе набыткі нашай літаратуры. Зразумела, не выключаюцца з іх шэрагу і набыткі літаратуры савецкага часу. Так я думаў тады, думаю так і сёння. Іх, тых набыткаў, нямала. Іх толькі трэба вылучыць для шырокага карыстання. І крытэрый для гэтага, здаецца, маецца. Замест даследавання мастацкай спадчыны з пункту гледжання класавай барацьбы ў грамадстве належыць вывучыць яе з пункту гледжання сцвярджэння беларускай нацыянальнай ідэі, з пункту гледжання беларушчыны, не звужаючы адно разумення беларушчыны да межаў сённяшніх крайніх трактовак. І ў савецкай літаратуры такі аспект яе развіцця больш чым прыкметны, хай сабе не заўсёды з'яўлялася яна свету пад тымі сцягамі ды арыенцірамі, пад якімі нам бачыць яе сёння хацелася б. І тады савецкая беларуская літаратура непрыкметна для нас саміх зойме належнае месца ў гісторыі мастацкага самасцвярджэння нацыі, як, дарэчы, і іншыя віды мастацтваў (іх таксама трэба ў гэтым плане вывучаць). Не застанецца прытым збоку і літаратура Заходняй Беларусі, і тая, што стваралася ў эміграцыі. Працэс сцвярджэння ўбачыцца ў адзіным магутным патоку, які натуральна перальец-

# Больш жартам, чым усур'ёз

Буду гаварыць не па сутнасці.

Апагей рэпрэсій 30-х гадоў, кастрычніцкія ўгодкі, на галоўнай плошчы краіны дэманстрацыя мілітарнай сілы. У небе — авіяцыя. Самалёты адной з эскадрылляў утвараюць надпіс "Я люблю Олю". На кадрах нямой кінахронікі Бацька ўздымае палец угору. Тлумачаць, што правадыр захацеў убачыць тую Олю. І сустрэліся. Яна жыве і сёння.

Антычная літаратура старажытнага Рыма квітнела якраз у эпоху імперыі. Крывавыя псіхапаты пры ўладзе — а мастацтва ў росквіце. Ці не парадокс! У перыяд рэспублікі нейкае вымучанае мімікаванне.

Бальшавізм — гэта эпоха, памкненні многіх людзей, часам самі людзі... Але не ўсё жыццё ў яго шматлікіх праявах. Бальшавізм — гэта бескампраміснасць. Ён глыбока ў генах палітычна заангажаваных нашых сучаснікаў. Як адэптаў, так і іх непрымірымых антаганістаў.

Сёння няма ўчынкаў. "Ружовы туман" — гэта чырвоная ануча для... І гэта ўчынак.

З застойных 80-х не памятаю нічога хаця б больш-менш набліжанага да маштабу літаратурнай падзеі, якой стаўся "Знак бяды". Уражанні былі, нават літаратурныя "факты" меліся, падзеі — не прыгадаю. І кароткая беларусізацыя, свабода слова, іх не прынеслі. "Споведзь Геніюш" — падзея для абраных і не больш.

Тэматыка — грунт такі няпэўны і плыткі. Фармалістычныя знаходкі — наркотык для пасвечаных.

Наш зямляк Булгарын, заплямлены ці не назаўсёды, быў папулярным у сучаснікаў больш за Пушкіна. Паэта чыталі ў пакоях, а празаіка у перадпакоях. І быў нармальны таталітарны час. Праўда, гэта былі "дзяржаўныя" літаратары.

Праблема ў тым, што літаратура сацрэалізму (ужывём гэты тэрмін) была літаратурай не нацыянальна-, а севецка-дзяржаўнай.

Лепшыя нашы землякі трызнілі ў XIX ст. Польшчай і называлі сябе палякамі. Аднак этнічных палякаў далёка не заўсёды любілі і не індэнтыфікавалі сябе з імі. Так і ў нядаўнім мінулым. Жылі-былі савецкія людзі, якія абавязкова неяк нацыянальна самаўсведамляліся. Узняцца над этнічным яны не маглі пры ўсёй сваёй ідэалагізаванасці. Праблема грамадскіх стэрэатыпаў ляжыць хутчэй у сацыяльна-культурнай сферы.

Нікому б не раіў кідацца ў празмерную крайнасць: безапеляцыйна суполіць мастацкае і ідэалагічнае, мастацкае і нацыянальнае. Хаця метад абсалютызацыі заўсёды прыцягальны, ён настолькі ж і датклівы. Пастулаты пераводзіць у аксіёмы ўсё роўна трэба доказна.

У рэшце рэшт вобразы Леніна ў літаратуры есці не просяць. Перакананы, што, акрамя Дубаўца, ніхто з імі не мае праблем. Можа, хіба педагогі-наватары.

Па асаблівасцях свайго паэтычнага самавыяўлення Куляшоў — рускі беларускамоўны паэт. Твардоўскага можна назваць беларускім рускамоўным паэтам. Як катэгарычна! (Такіх сентэнцый можна прапанаваць процьму.) Ускочыўшы на канька і памахаўшы шабелькай, такое не давядзеш і нікога не пераканаеш. Гэта ўжо не змаганне з рэальнымі зданямі-фікцыямі камуністычных сімвалаў у літаратуры, а такая далікатная і туманна-ружовая сфера, як этнапсіхалагічны код ці склад душы.

Большасць людзей Ленін не хваляваў. Ну былі на грашах яго партрэты. Ну і што? У школе вучылі вершыкі пра яго чалавечнасць. Ніхто іх не запамінаў надоўга. Часта пераконваўся, што байкі Крапівы ды фрагменты з "Новай зямлі" Коласа, з якімі ўваходзілі ў "Ружовы туман", жывуць і зараз. І час ад часу, пры нагодзе, паднаўляюцца ў памяці.

— Мне б абмяняць.

— У мяне нічога няма, — голасам страчанага кахання пачуў я адказ.

— Вы мяне не зразумелі, — з самай сардэчнай павагай да гэтага голасу тлумачыў я: — Я хачу не набыць, а здаць валюту. — Я вас зразумела... Але ў мяне нічога, нічога няма, — з яшчэ большай стратай вялікага пачуцця неслася да мяне.

— Чаго ў вас няма? Вы можаце толкам растлумачыць?! — не стрымаўшыся, гыркнуў я.

І ў адказ імгненна атрымаў тое ж самае:

— Вы што, затарможаны?! Грошай няма, наяўных грошай!

І перад маім носам акенца зачынілася.

— Што там? — тузануў мяне за плячук Саша.

— Грошай няма.

— Якіх грошай?

— Звычайных, тутэйшых...

— Драўляных, ці што? — не верылася яму. — Ды куды ж яны падзеліся? Можа, раптам, сусветнай валютнай зрабіліся?!

— Ціха, не крычы. Нешта будзе...

— Маеце якія праблемы? — ціха звярнуўся да мяне малады хлопец, гадоў трохі за дваццаць.

— Ды вось грошай няма, —кіўнуў я на абменны пункт, — а трэба было б абмяняць.

— Магу выручыць. У вас колькі?

— Дробязь. Трыццаць долараў. Нават трыццаць адзін.

— Вазьму па курсу.

— Згодзен, — узрадаваўся я, бо ўсе праблемы нарэшце вырашаліся.

У той момант, калі я працягнуў долары, з абодвух бакоў ад мяне вырасла яшчэ двое маладых, з кароткай стрыжкай, хлапцоў. Адзін з іх сунуў мне пад нос нейкае пасведчанне, якое я і не разгледзеў зусім, заявіў:

— Мы з патрыятычнага рабочага клуба. Сочым за правільнасцю правядзення валютных аперацый, якія абавязкова павінны адбывацца з удзелам якога-небудзь банка. І зараз у нас на вачах вы парушылі ўказ. Пройдзем з намі.

Маё пытанне, якое прагучала, можна было б назваць глупствам, але так ужо мы выхаваны:

— Куды?! — здзіўлена ўсклікнуў я.

— У міліцыю, вядома, — зусім не здзіўляючыся з майго выхаванага глупства, адказаў апанент. — Там складуць пратакол і, як заведзена, штраф. У вас колькі долараў?

— Трыццаць адзін, —адказаў той, што збіраўся ў мяне іх купіць і ў чыіх руках яны былі зараз.

— А вы што, таксама... з патрыятычнага?..

Нават вока не тузанулася ў майго пакупніка, і адказу ніякага на маё недарэчнае пытанне.

— Пайшлі, — падштурхнулі мяне справа і злева пад локці.

— Пачакайце, — не зусім каб упэўнена спыніў нас Саша. — Але ж гэты сам прапанаваў купіць у нас долары...

— Ён з вамі? — пацягнуў мяне за правы локаць стрыжаны.

— Я ведаю яго, але дачынення да продажу ён не мае, — адказаў я і павярнуўся да Сашы: — Едзь дахаты. — І амаль жорстка паўтарыў: — Едзь!

Мы зайшлі за рог магазіна і пасунуліся ў арку, дзе, пэўна, і было нешта міліцэйскае... Але не дайшлі да яе.

— Вось што, мужык, — сказаў адзін стрыжаны, — хіляй дахаты, адпускаем. І скажы дзякуй Богу за нашу дабрыню. Інакш мільёнаў на пятнаццаць табе б намалявалі пратакол за парушэнне ўказа...

Па тэлевізары зачытвалі новы ўказ.

Я выключыў гук, лёг на канапу. Чалавек на экране варушыў вуснамі, вусамі, насоўкай выціраў пот з ілба, часам злосна лыпаў вачыма.

"Каго ж ён мне нагадвае? — падумалася нечакана, гледзячы на гэту нямую рухомую карцінку. — Ну так, ну вядома! ЖУКА! Жук выліты!"

І я зарагатаў.

— Слухаю, — падняў я трубку, бо зазваніў тэлефон.

— Я дастаў! — пачуўся радасны Сашаў голас.

— Што дастаў?

— Грошы, вядома. Сустрэў на кінастудыі рыжага... ну і раскалоў на бутэльку. Прыкусіць маеш што?

— Крыўдзіш.

Праз паўгадзіны мы сядзелі за сталом, на якім — бутэлька гарэлкі "Сівы бусел", перапялінае варанае яйка, разрэзанае папалам, парэзаныя салёны балгарскі гурок і галандская цыбуліна, не першага дня хлеб...

Гаварыў Саша:

— Ну, Рысік (мая інстытуцкая мянушка), ад імя прадстаўніка, так сказаць, сінематографа, таксама ад сябе асабіста дазволь павіншаваць цябе з указам аб прысваенні табе ганаровага звання "Заслужаны..."

Выпілі.

---

ца ў сучасную літаратурную раку. Таго патрабуе час.

Зразумела, працэс пераацэнкі спадчыны ў нас ідзе даўно, пра што сведчыць і гэтая, распачатая ў "ЛіМе" артыкулам С. Дубаўца дыскусія. Цікавасць да спадчыны актывізуецца. Трэба ж нам ведаць, што ў нас засталося за плячамі. Як да яго ставіцца, як успрымаць.

Савецкая літаратура — гэта ўжо гісторыя, і абслугоўваць патрэбы нашага часу, як гэта нам сёння хацелася б, яна не можа. Але хіба гэта яе недахоп? Так здараецца з усімі іншымі перыядамі ў развіцці літаратуры. Вылучаецца толькі самае відавочнае, самае значнае. Працэс жа станаўлення і развіцця застаецца ў свядомасці, як звяно поступу ў будучыню.

Беларуская савецкая літаратура мела магчымасць існаваць у канкрэтнай форме і канкрэтным часе. Таго вымагала сістэма, існаванне якой падпіралася ўсемагчымымі ГУЛАГамі, воляй Сталіна ды ведамствам Берыі. У такім выпадку выбракоўка, што будзе праведзена з пункту гледжання патрабаванняў новай эпохі — імёнаў, твораў, — будзе, думаецца, вельмі значнай, але не ў гэтым сутнасць праблемы. Важна, што і ў савецкі час наша літаратура не здавалася — была, змагалася, тварыла.

**Іван ЧЫГРЫН**

---

Аб дыфірамбічных творах пра партыю і камуністаў увогуле няма чаго казаць. Іх лозунгавае жыццё скончылася. Імі могуць цікавіцца адыёзныя аматары старасветчыны. Ну, а творы, дзе героем найперш быў чалавек, а потым партыец, яшчэ будуць жыць. І слушна, калі іх будуць вывучаць на ўроках пазакласнага чытання. Гэткай бяды...

Ружовыя акуляры прыспешаных жаданняў да твару ўзросту суцэльнай экзальтаванасці ды якім-ніякім Сымонам-музыкам донкіхоцтва.

Ну здзівіў дык здзівіў! Перш кажа "брыда нудотная", а потым "перачытайце-перачытайце"... для "суцэльнага расчаравання". Ну дзе ты бачыў такіх мазахістаў? Што, людзям рабіць няма чаго? Задарма ніхто не возьмецца, хіба за грошы ці па службе.

Не мае пэўнасці аўтар, што яму паверыць. А можа, гэта яму і трэба?

Так, давядзецца ставіць кропкі над "і" і асэнсоўваць пройдзены шлях. Але шалёна кідацца на атрыбутыку?!. Ці ёсць патрэба?

Што ў беларускай паэзіі было больш чым дастаткова "грамадзянскай" лірыкі і бракавала "нацыянальнай", не патрабуе доказу. Адсутнасць інтымнай лірыкі — не меншая бяда. Але пасля скасавання шлюбаў з любымі культамі яе не прыбудзе. Мусім абыходзіцца тым, што ёсць.

Катэгорыя антымастацтва —гэта такая ж фікцыя, як будучыня, абмаляваная ў "Маніфесце камуністычнай партыі". Пра крытэрыі мастацкасці не перагаварыць. Яны настолькі ж зменлівыя, як і маральныя нормы ў сённяшнім жыцці.

Наконт не зусім акрэсленых апанентаў Дубаўца: паверым, што ёсць такія смелякі. Калі баяцца адбору ў літаратуры, то трэба спыніць выданні розных анталогій. Гэта ж збядненне.

Бядую!.. Задушыцца аўтар у метастазах сатанізму і сталінізму. Што цябе штурхнула, хлопча, без процівагазу ды ў зону сацрэалізму? Трэба ўчытацца... Ага, дык ён, мабыць, гісторык літаратуры, а я думаў — эпатажны крытык ды журналіст. Адчувае, што ёсць "спецы"! Не сёння-заўтра пераробяць Купалу ў мадэрніста, Багдановіча — у імпрэсіяніста, любага Гарэцкага — у гратэскавага натураліста і г.д. А сутнасці не закрануць.

Увогуле, цікавы атрымаўся раздзельчык з гісторыі. Выбар прапануецца адзін: "Развесці па розных кнігах". Каго? Што? Будзем перавыдаваць "авангардныя" творы сацрэалістаў? Плюралізм — у дзеянні.

Як было ў людзей, так будзе і ў нас. Не трэба выдумляць арыгінальных шляхоў. Мастацкае рэшата часу, праз якое працэджваецца літаратура, усё паставіць на свае месцы. Іншая справа, якія ў яго будуць дзіркі-ячэйкі, хто яго трымацьме ў руках і з якога боку падзьме вецер. Але перакананы: пры любых умовах, напрыклад, байка "Дыпламаваны баран" "таталітарнага" сацрэаліста Крапівы не прамыецца з драбноццем.

**Ігар ЗАПРУДСКІ**

---

ТЭАТР

# Смех з жыццём на дваіх

***Ужо відавочна: узяўшы "Заложніцу кахання", слугуючы "Рычарду" ды "Макбету", нават да "Узлёту Артура Уі..." акцёр Андрэй КАВАЛЬЧУК паставіўся... са "Смехам лангусты": пасля чарговага ўзлёту на сцэне Тэатра-лабараторыі нацыянальнай драматургіі, прыняты на першую драматычную сцэну рэспублікі — на Купалаўскую сцэну.***

Папершапачатку мусіў выйсці на малую. 7 студзеня ў спектакль "Смех лангусты", які адыгралі былі восем гадоў (з 1990!), вяртаўся прысмак прэм'ернасці, — дзякуючы акцёрскай прэм'еры Андрэя Кавальчука. Пасля таго, як восем месяцаў таму "Смех лангусты" быў змоўк: Зінаіду Іванаўну Браварскую, занятую ў адной ролі, вымушана пакінуў Віктар Цімафеевіч Лебедзеў, сталы партнёр, паплечнік, заняты ў другой ролі. Здароўе, самапачуванне, узрост...

"Што за аншлаг?" — дзівіўся рэжысёр. За восем гадоў страцілі стыльнасць касцюмы ды дэкарацыі мастака Віктара Цімафеева — калоны тэрасы, на якой ізноў застрымліва-лася славутая акцёрка Сара Бернар. А пры ёй — Піту, сакратар-нянька, сябрук-даглядчык, слухач-глядач, партнёр-суразмоўца, служка і саўдзельнік яе успамінаў, — тыя мусяць аформіцца ў мемуары. Афармляюцца... у эцюды, сцэны, карціны... ад рання да змяркання... ад змяркання да рання...

Падобна было, што залу апанавалі не адны сталыя прыхільнікі Браварскай ды сімпатыкі Кавальчука. Адметная сцэнічная гісторыя вабіла публіку і выкананнем, і выкладаннем. Сцэнічныя суткі міналі ў цудоўных дыялогах драматурга Джона Марэла, у павольнай, вытанчанай інтрызе, дзе мінулае гераіні месцамі апынalася непрадказальным, а будучыня — дежа вю, ды ў розных варыянтах. Прыхаваную сцэнічную зваду на дваіх дасціпна, з мяккай іроніяй падтрымала рэжысура Генадзя Давыдзькі і шчымліва-іранічныя тэмы кампазітара Уладзіміра Кур'яна...

Зінаіда Іванаўна заўважна хвалявалася, зважаючы на новае гучанне старога спектакля. Там мусіла змяніцца і яшчэ зменіцца шмат што. "Зразумела, матэрыял увесь час вымагае ўнутранага руху", — тлумачыла народная артыстка ўжо за кулісамі і часта-часта спасылалася на Андрэя Кавальчука. Аднаго з самых дарагіх сваіх вучняў ("Мая правая рука на курсе"). "Я павінен ставіцца да вас на сцэне, як да персанажа, — адказаў ёй Андрэй, — а ўсё яшчэ бачу... педагога, сваю тэатральную маму". Абодва пачуваліся хораша і, можа быць, шчасліва. Іх віншавалі, — з Андрэевай прэм'ерай, з аднаўленнем спектакля, які не страціў гледачоў, з тым, як настаўнікі далучаюць да сябе вучняў ці наадварот... Зрэшты, знакамітае "Трэба жыць, а не рыхтавацца паміраць" Сары Бернар і Джона Марэла ізноў гучала з вуснаў Зінаіды Іванаўны Браварскай, — адпаведна яе акцёрскаму жыццю: "Трэба, трэба іграць..."

**Ж. Л.**



*На здымку: Андрэй Кавальчук (Піту) і Зінаіда Браварская (Сара Бернар).*
*Фота Артура ПРУПАСА*

---



**Саюз беларускіх пісьменнікаў і Гродзенскае аддзяленне СБП выказваюць глыбокае спачуванне паэту Алесю ЧОБАТУ з прычыны смерці яго сястры Тамары Фёдараўны.**

**Беларускі Саюз тэатральных дзеячаў смуткуе ў сувязі з канчынай заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь, члена саюза КАРПЕНКІ Мікалая Сяргеевіча і выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

# Працую "па руцэ"

## З ЖЫЦЦЯ ПРЫВАТНАГА РАМІЗНІКА

У ДЗВЕРЫ шкрабецца-просіцца суседскі кот Бакс (валацужны член сям'і, смяецца жонка) — тлусты і нахабны, нібы гандляр з Камароўкі. Аднachасова вячэрнюю цішыню ў кватэры рве трайны "пажарны" званок. Кідаючы ўсё і з жахам успамінаючы Булгакава, лячу адчыняць. У цьмяны пярэдні пакойчык увальваюцца двое: калматы кот і даўні знаёмец Алесь, расчырванелы з марозіку, як заўжды жыццярадасны і барадаты. Бакс, ратуючы шыкоўны пушысты хвост, раве асіплым басам. Выбухова ўторыць яму і сябра (гаварыць ціха, хоць ужо і пад сорак, не ў яго прынцыпах):

— Прэч, жывёліна! Прывітанне ў хату!

У трохпакаёвай "хаце" становіцца цесна і весела.

— Ну што, пісака? Збірайся, начная сталіца чакае сваіх летапісцаў. Сюжэтаў і тыпажоў, як у Шэкспіра, — навалам, паспявай занатоўваць! Гайда, бо час — грошы!

Бакс, відаць, згаджаючыся, сціхае, а мы, не чакаючы ліфта, з грукатам спускаемся па лесвіцы. Ля пад'езда, напагатове, чакае нас Алесеў "мерсэдэс" — дызельная пачвара перадпенсійнага ўзросту (дзяцінства правёў на родных нямецкіх аўтабанах, бесклапотную юнацкую цнатлівасць згубіў на беларускіх трактах).

Алесь сёння, як амаль і штоноч, едзе зарабляць грошы прыватным "таксаваннем", а я, па згодзе сябра і па яго вызначэнні, — апісваць жахі начных "мураваных джунгляў". Не вельмі згаджаюся з Алесем. Вабіць не столькі гэта. За сваё газетнае жыццё-быццё пра каго толькі ні пісаў, прэстыж якіх толькі прафесій ні адстойваў. А вось пра прыватнага таксіста, рамізніка, аўтавазака ці пра "анёла начных вуліц па ліцэнзіі" (любіць сябар выкрунтасістыя выразы) пісаць неяк не даводзілася.

Так што не "смажаных" фактаў шукаю, а ў новай нашай прафесіі хачу разабрацца. У ёй, як і ў любым сродку сумленнай здабычы грошай, для кожнага свая цікаўнасць, свае сакрэты, свая, калі хочаце, жыццёвая мудрасць. Хто ж ад яе, дармовай, адмовіцца?

Ды і герой наш — не з пальца высмактаны, фігура неардынарная. Карэнны мінчук, вырас без бацькі, шмат гора наглытаўся, пакуль на крыло не стаў. Шмат працаваў і вучыўся, але ніводную ВНУ не закончыў па прычыне вострага жадання ва ўсім і заўжды быць незалежным. Механікам жа здолеў стаць віртуозным. Сярод аўтаўладальнікаў нашага Паўднёвага Захаду ён сёння і Бог, і цар, і воінскі начальнік, бо "хваробу" легкавіка вызначае на слых, да ладу даводзіць "рознапародных конікаў" у імгненне вока. Хоць і жыве Санька далекавата ад маёй Малінаўкі, але слава пра яго да нашых дамоў дайшла, пайшла і зноў вярнулася...

— На пярэдняе сядай, — уладарна гудзе ён. — Заднія месцы — для кліентаў. Гэта на Украіне іх таксачы гракамі называюць. Мы не Украіна, мы цэнтр Еўропы! Да кліента з павагай! Любы капрыз!..

— А па галаве не ляснуць?

— Дылетант, абодвух аднachасова "мачыць" не будуць, — па-мефістофельску рагоча сябар. — Лепей памаліся. Ад цвіка дурнога ды аўтаінспектара злога!

Выканаўшы ўсе рытуальныя перадстартавыя патрабаванні, рушым, скіроўваючы на праспект Любімава. Восьмая гадзіна вечара. Шматпавярховыя будыніны пазіраюць на нас вокнамі кухань і залаў, дзе ўжо віруе ваўсю паслярабочае жыццё. Алесь упэўнена вядзе свайго паслухмянага "мэрса", паспяваючы сачыць за дарогай, чапляцца вокам за прыгожых дзяўчат на ходніках і філасофстваваць са мной:

— З якім кліентам, пытаеш, працую? Ды самыя розныя трапляюцца. Апошнім часам наркаманы дакучаць сталі. Садзяцца, звычайна, у Малінаўцы. Гадоў па 18 хлопцам, а твары ўжо — як грушы печаныя. Адразу бачна, што абкурваюцца ці на іголцы сядзяць. Ды і маршрут выдае: усе на Паўночны пасёлак ірвуцца, у прыватны сектар, за Ангарскую. А там, мабыць, сам ведаеш, у цыганоў і "шмаль", і "дур", абы грошы. За пару хацін да "кропкі" машыну спыняюць, хуценька затарваюцца і дахаты. Грошы неблагія плацяць, — Алесь пазірае на мяне неяк незвычайна. — Ну не бацька я ім, не настаўнік. А пачнеш вучыць, швайкай у бок атрымаеш... І ў нашых краях такія "кропкі" ёсць, дзесьці па Харкаўскай ля праспекта Пушкіна... Куды прэш, сабака!

"Жыгуль", здуру выскачыўшы з завулка перад носам "мерсэдэса", сарамліва кінуўся ўбок. Наш камерцыйны аўташпацыр працягваецца па праспекце Дзяржынскага. Мінаем запраўку, яркалялечную, нібы складзеную з канструктара "Лега".

— А самы салідны кліент, — працягвае "асвету" Алесь, — гэта рабацяга на падлітку пасля авансу. Такі не падмане, не "кіне", праезд заўжды аплаціць.

— А часта за ноч "кідаюць"?

— Пастаянна! Якім псіхолагам ні імкнешся быць, а раз-пораз нарываешся... Вязу аднойчы трох хлопцаў, "новыя беларусы" з усіх бакоў, і па вопратцы і па размове. Усё пра офіс свой, усё пра абсталяванне новае. У таго, што побач са мной, скрынка шыкоўная з факсам. Маўляў, зараз заедзем да калег, яшчэ некалькі гэткіх жа возьмем і на скрыдлах у свой офіс. Спыніліся, выйшлі, факс у задатак пакінуўшы. Чакаю пяць хвілін, дзесяць... паўгадзіны. Сумнеў узяў, залез у скрыню, а там — цагліна. Кінулі! Вось так жыццё нас, дурняў, і вучыць...

— Дык што, гарыш эканамічна пастаянна?

— Калі б гарэў, зарабляў бы інакш. Давай падлічым. За кіламетр, як і дзяржаўны таксіст, бяру 8 тысяч; як і дзяржаўны, не адмаўляюся, калі даюць больш. Але ў адрозненне ад яго са мной можна і патаргавацца. Іншым разам і дарма вязу. Колькі было, стаіць пад раніцу з узнятай рукой шаснаццацігадовая, соплі да зямлі прымерзлі, дзе была, невядома — сабой гандлявала ці ў сябровак загаманілася. Вось і вязеш дахаты з жалю вялікага. Гэтак жа і іншыя прыватнікі. А дзяржаўны таксіст — воўк. Так што ў нас перад ім перавага ў кліентах... Далей ідзём. Салярку для дызеля з рук (калі пашанцуе) купляю за паўцаны. З сёмай вечара да другой гадзіны ночы каля трохсот кіламетраў наязджаю. Не кліентаў лічу, а грошы, калі па тры тысячы на кіламетр атрымліваецца ў сярэднім, то з прыкладнага мільёна вылічваем 120 тысяч на паліва, а ўсё астатняе — чысты прыварак ад начнога таксавання. Жонка не скардзіцца...

Сёння будзённы дзень. На кліентаў пакуль не шанцуе. На прыпынках а дзявятай гадзіне — людскія мурашнікі. Грамадскі транспарт, захлынаючыся ад старання і не зважаючы на лютаўскую замець, паглынае пакрысе запозненых на працы мінчукоў. А на супрацьлеглым баку — цэлы ланцуг таксаматораў. Жадаючых "пракаціцца" няма.

— Канкурэнты! — злуецца, пазіраючы на агеньчыкі таксі, Алесь. На патэнцыяльных пасажыраў аўтобусаў і тралейбусаў нат не глядзіць. — Не нашы кліенты. Нашы крыху пазней даспеюць. Калі кавярні і рэстараны закрыюцца. "Вернісаж" на Някрасава ці "Канстанцін" на Варвашэні. Вось тады кліентура касяком папрэ, пад колы кідацца будзе... Не хвалюйся, брат!

Я і не хвалююся. Мурлыкае неназойліва любімае "Радыё Бі-эй", і Алесь сцішыўся, задумаўшыся пра сваё. За вокнамі праплывае Мінск, утульны і родны, крыху падсветлены рэкламамі, адценены запозненым снегападам. Праз расчышчанае "дворнікамі" лабавое шкло Траецкае праступае, як нявысахлая акварэлька-абразок...

— Кліенты! — раве, нібы падае з печы, Алесь.

Час імгненна паскараецца, сцягваецца ў энергічны і жорсткі кулак на баранцы "мэрса". Ніякай лірыкі. На нас выплываюць з завулка на Багдановіча, відаць, па ўсім, вялікія грошы. Ён і яна. Натуральнае футра. Шыкоўная парфума. І катэгарычна кароткае: "У Раўбічы".

— Любы капрыз! — спявае Алесь, націскаючы нагамі на ўсё, што можна ў "мэрсе" націснуць. Машына ляціць у Раўбічы. А я злуюся на Алесеву радасную ваяўнічасць. Недзе ў падсвядомасці актыўна рыхтуюся да выкрывальніцка-павучальнай лекцыі на тэму "Што робяць грошы з чалавекам!" Спрабую закурыць. Нервуюся. І супакойваюся толькі тады, калі нашыя надзьмутыя госці знікаюць у цемнаце. Алесь, хаваючы пачак грошай, з усёй сілы грукае па маім плячы і крычыць:

— Маўчы, пісака! Ведаю, пра што думаеш. У нумары ён яе пацягнуў, для асалоды цялеснай. А ў мяне жонка дома хворая, ды дзяцей двое. Памятаеш, як у Маякоўскага: ды я лепей ананасавую ваду пэўнай катэгорыі жанчын наліваць буду, чым працаваць на гэтую бязглуздую дзяржаву! Ды ты паглядзі навокал: Раўбічы! Давай лепей пра Караткевіча, пра Майку Раўбіч ды Алеся Загорскага. Вось гэта каханне!

І мы, дзякуй Богу, зноў па-брацку крычым, спрачаемся пра Каліноўскага і Караткевіча, рагочам без прычыны да самага ўезду ў горад. Дванаццатая гадзіна.

— Дзяўчаткі бываюць розныя, — зноў філасофствуе Алесь, апускаючы гаворку пра каханне да кухоннага ўзроўню. — Прыстойныя бываюць і, прабач, прастытуткі, мякка кажучы. Зараз другіх на вуліцах болей, чым першых. На стометроўцы (ад цырка да Круглага Пляца) іншым разам аж кішыць па выхадных. Кошт вольны і танны: ад 10 да 15 баксаў. На галоўпаштамце тусуюцца-грэюцца. Мне — не кліенткі. Яны самі на працы. Толькі ад справы адбіваюць...

Праз плошчу Бангалор едзем у бок сельгаспасёлка. Калісьці ў студэнцкія гады жыла тут у Алеся нейкая краля. Таму пра мясціны гэтыя разважае ён зараз, як пра родныя:

— Прыватны сектар. Мінскі Гарлем. Цыганскі факультэт, — аж падскоквае на сваім крэсле і, супакоіўшыся, дадае: — Калісьці ў 80-х прапісвацца тут нельга было. Але сёння... Глядзі, што робіцца, новыя нашы не дурні, навыкуплялі па два-тры ўчасткі пад знос. Глядзі, якія забудовы. Вуліцы Собінава, Пасялковая. Не дамы — брэсцкія крэпасці. А вунь, кінь вокам, бачыш, колькі фур ды прычэпаў. Мамеды, ары — асобы каўказскай нацыянальнасці, карацей, амаль кожны гараж тут арандуюць пад склады. Банана-ва-персікавы раён... Людцы тут грошы віламі ў гаманцы складаюць. Крый Божа, ад такіх заробкаў. Кожны чорны са швайкай у кішэні... Сустрэў такога Хачыка тыдзень таму на плошчы Якуба Коласа. Усе сем дзён вазіў па "дзевочкам". Грошай кучу зарабіў, але ўражанне брыдкае засталося...

Едзем далей, мінаючы вуліцу Кальцова. Алесь паказвае на чэргі дзяржаўных таксі, застылых без справы, маўляў, пераканайся сам, кліент, эканомячы грошы, прыватніка шукае. А праз хвілін пятнаццаць, убачыўшы стаянку прыватных таксі, працягвае лекцыю:

— Я сам "па руцэ" працую. Убачыў узнятую — падбіраю. Тут самае галоўнае, каб міліцыя на пасадцы не ўзяла (калі, безумоўна, з ліцэнзіяй праблема). А вось гэтыя, таксама прыватнікі, з пляцоўкі працуюць. Чакаюць, калі кліент сам на іх не выйдзе. Натуральна, зручна. Паліва, скажам, эканоміцца. Але тут свае хітрасці, якія мне ніяк не па душы. Усё кантралюецца. Не столькі дзяржаўай, колькі бандытамі. Па 15 баксаў штомесяц "адсцёгваць" даводзіцца. Жорсткай рукой усё трымаецца. Хоць і нікчэмная мянушка ў яе гаспадара, але абнародаваць не бяруся. Не спадабаецца — замочыць...

Спыняемся на хвілю ля універсама "Паўночны". Палюбоўна дамаўляючыся пад капотам з засумаваўшым рухавіком, Алесь выслухвае чарговае маё пытанне:

— Штосьці, Шэкспір, тыпажоў сёння мала!

— Не хвалюйся, што сам не ўбачыш, я даскажу... Вось, скажам, выглядваю кліентуру на Пушкіна. Выглядзеў. Тры сяброўкі. Гадоў па шаснаццаць. Я дзверцы расчыняю, а адна з іх — шубку з сябе. А пад ёй анічоганька, як маці нарадзіла, натура адна і не вельмі чыстая. Я мацюком па галаве і ходу... Вось табе і тыпажы!

— А каго ў салон катэгарычна не бярэш?

— Лысых качкоў і жлабоў п'яных...

Рушым далей, а Алесь працягвае:

— Нас жа яшчэ і "фільтрамі" называюць. Сапраўдны таксач, які жыць доўга жадае, свайго кліента з натоўпу адфільтраваць павінен. Возьмеш памыліўшыся, а ён ззаду сіло на горла ці заточкай у бок... Той, хто не псіхолаг, рызыкуе страшэнна. Па вобласці, гаварылі, з нашых знікае адзін у месяц, як ні горка. Тут думаць трэба...

Па вуліцы Каліноўскага на Усходзе — выцягнутая рука.

— Ара, — канстатуе Алесь. — Быць грашам.

Падвозім маладзенькага армяніна кіламетры са два. Той расплачваецца — сорак тысяч.

— Развялося іх, — разважае шавініст Алесь. — Ад вайны паўцякалі... Не сталіца — адстойнік.

Часу ўжо глыбока за поўнач. Але вуліцы далёка не пустыя, хоць і будні.

— Самыя "ўраджайныя" дні — пятніца і субота, — не змаўкае Алесь. — Людзі ў госці, рэстараны, на вяселлі збіраюцца. Нядзеля — для таксача выхадны. Народ пахмеллем пакутуе, грошы на пражыццё пазычае...

Рушым праз цэнтральную прамысловую зону.

— А вось у панядзелак з раніцы, гэтак да сямі гадзін, няблага праехацца. Крутым да аўтастаянак дабрацца трэба, камароўскі гандлёвы кантынгент на працу спяшаецца...

Мінаем клуб "Рэактар", бульвар Шаўчэнкі, збіраемся "пракачаць" начныя супермаркеты, дзе, па словах Алеся, каго толькі зараз няма (ад прастытутак да валютчыкаў), але замінае чарговы кліент. За 35 тысяч маладзенькі хлопчык просіць давезці ад Танкавай да Жудро.

— Колькі жыву на гэтай вуліцы, — смяецца кліент, — столькі і не ведаю, чаму назва такая.

Алесь, чмыхнуўшы і пакапаўшыся ў памяці карэннага мінчука, працягвае вучыць жыццю. Тлумачыць, што вуліца Жудро, як і вуліцы Кабушкіна, Казінца, Караткевіча, Каржанеўскага, Кедышкі, названы так у гонар мінскіх падпольшчыкаў часін мінулай вайны...

Пад гэтую павучальную лекцыю я паціху засынаю. Алесю добра: жыць ён пачынае толькі ноччу, бо дзень адсыпаецца. А я, хоць і "сава", але днём набегаўся па рэдакцыйных клопатах, і зараз "адключаюся". Злітасцівіўшыся, Алесь літаральна праносіцца праз раёны Захад і Сухарава, падкідваючы мяне проста да малінаўскага пад'езда.

— Ідзі спаць, пісака, — у чарговы раз ляпае мяне з усёй моцы па плячы і зрываецца на сваім "мэрсе". Анёл начных дарог — успамінаю я і іду спаць...

А гадзін у пяць раніцы тэлефон вар'яцее званком.

— Спіш, неразваротлівы? — крычыць у трубцы неўтаймаваны Алесь. — А я толькі з Баранавічаў. Гандляроў камароўскіх па мяса вазіў. Так што норму сваю за гэтую ноч на сто працэнтаў перавыканаў. Бывай, пісака.

Спаць ужо не магу. Радуюся, што не вадзіцель таксі. Саджуся пісаць нататкі з жыцця прыватнага рамізніка.

**Яўген РАГІН**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА ЛіМ ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4498
Нумар падпісаны ў друк 26.2.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 1081/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12